ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Год выдання 39-ы
№ 47 (2508)
ПЯТНІЦА
21
жніўня 1970 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ.

Цана 8 кап.



Фота Ул. КРУКА.

Барыс Платонаў... Ён быў чырвонаармейцам, калі грымела тая, грамадзянская. Ён спяваў у школьным хоры. Быў заўзятым артыстам Клуба пралетарскай моладзі — «Беларускай хаткі». І акцёрам Першага БДТ, дзе прайшоў шлях ад выканаўцы эпізадычных роляў да вядучага артыста купалаўскай трупы. Чалавек вялікай душы, грамадзянін, мастак, ён быў сапраўды прыгожым у кожным учынку. Яго прамяністы позірк зачароўваў і абуджаў давер.

Такім яго помняць усе, каму пашчасціла быць знаёмым з ім, бачыць яго на сцэне або ў святочны дзень на трыбуне, гутарыць як з народным абраннікам або кіраўніком тэатра.

*Пра яго — такога — чытайце старонкі ўспамінаў на стар. 10.*

*ВЕЧНА Ў ПАМЯЦІ*

# СЯБРЫ АЛЕНЫ СУРАЎНЁВАЙ

Сяргей ЦЯЛЬКАНАЎ

Гадоў дзесяць назад лёс ваеннага журналіста звёў мяне ў адным з далёкаўсходніх гарнізонаў з падпалкоўнікам Іванам Мікітавічам Пяровым. Памятаю, спачатку гаворка ішла аб справах падраздзялення, якім ён камандаваў, аб баявой і палітычнай падрыхтоўцы, а потым высветлілася, што ў самога Івана Мікітавіча надзвычай цікавая біяграфія: амаль усю вайну, будучы камандзірам разведгрупы, ён правёў у гітлераўскім тыле.

Да вайны Пяроў меў непасрэднае дачыненне да мастацтва, быў артыстам маскоўскага тэатра Рэвалюцыі.

Вайна зрабіла акцёра разведчыкам. Пацягнуліся трывожныя тыдні і месяцы ў тыле праціўніка. Невель, Полацк, Ідрыца, Себеж, Рыга. Даводзілася іграць новую, незнаёмую, вельмі адказную ролю ўжо не на сцэне, а на зямлі, захопленай гітлераўцамі.

Карацей кажучы, у выніку гэтых сустрэч з Іванам Мікітавічам з'явілася мая невялікая дакументальная аповесць «Асобая роля», якая ў 1962 годзе была надрукавана ў часопісе «Дальний Восток», а потым выйшла ў Хабараўскім кніжным выдавецтве. Расказаўшы ў меру сваіх магчымасцей чытачам пра слаўныя справы разведчыка Івана Пярова і яго таварышаў, палічыў сваю місію закончанай.

Але ўлетку таго ж года на маё імя прыйшло пісьмо:

«Паважаны таварыш Цяльканаў! Марак Далёкаўсходняга флоту, мой зямляк Васіль Кудраўцаў даў мне пачытаць другі нумар часопіса «Дальний Восток» за 1962 год. Я прачытаў вашу аповесць «Асобая роля». Няма слоў, каб выказаць вам падзяку, як аўтару, за вашую ўвагу да нашай разведгрупы, якая выконвала заданні камандавання ў варожым тыле.

Прашу вас, звяжыце мяне з нашым былым камандзірам Іванам Пяровым, а таксама з іншымі разведчыкамі з нашай групы, у мяне няма іх адрасоў і ні з кім з іх пасля вайны не маю перапіскі.

Коратка аб сабе. Дзесяты год кірую калгасам «Шлях да камунізма» Расонскага раёна Віцебскай вобласці.

У 1960 годзе быў на магілцы Лены. У маі 1961 года ад сябе паставіў ёй помнік. Прозвішча Лены я не памятаў, мінула столькі гадоў, ды потым, хто з разведчыкаў у той час цікавіўся прозвішчамі — усе мы насілі іншыя імёны. З гэтай прычыны я і не змог знайсці сваякоў Лены. Прачытаўшы вашу аповесць, успомніў, што сапраўды прозвішча яе — Сураўнёва, але толькі, здаецца, жыла яна не ў Расонскім, а ў Сіроцінскім раёне. Я напісаў у рэдакцыю нашай абласной газеты «Віцебскі рабочы», думаю, таварышы дапамогуць мне знайсці яе сваякоў і блізкіх.

Хочацца, каб пра мужнасць Лены, маёй зямлячкі, пра яе гераічную смерць у час абароны Айчыны, ведаў увесь наш народ.

З павагаю Гена Савейка».

Пісьмо гэтае ўзрадавала мяне, як радуюць вестачкі ад родных і блізкіх людзей. Сам Іван Мікітавіч Пяроў пасля вайны таксама не меў перапіскі ні з кім са сваіх разведчыкаў, не ведаў, ці жывыя яны, дзе жывуць, а я сваю аповесць пісаў толькі па яго расказах.

І вось першая ластаўка — Гена, адзін з баявых таварышаў Пярова.

У канверце была невялікая фатаграфія: магілка ў лесе, сціплы помнік, група людзей і сярод іх Гена, цяпер пажылы ўжо чалавек — старшыня калгаса Генадзь Дзмітравіч Савейка. На адвароце фатаграфіі надпіс: «Ускладанне вянка на магілу Лены Сураўнёвай ад баявога таварыша «Дзімы» і яго аднапалчан».

Лена Сураўнёва. Маладзенькая дзяўчына-разведчыца з групы Пярова. Тады, вясною сорак чацвёртага, яна пайшла на заданне і не вярнулася. Трывожна было ў тыя дні ў зямлянцы разведчыкаў каля ляснога возера Асвея: дзе Лена, што з ёю, ці жывая яна? Пазней знайшлі яе, знявечаную гітлераўцамі. Казалі, што наскочыла дзяўчына на засаду і, можа, усё абышлося б добра, каб не здраднік, які перабег ад партызан да паліцаяў і заявіў: «Ведаю яе. Гэта з тых, што з самалёта скакалі».

Сябры пахавалі Лену ў раёне, занятым партызанамі. Наступныя дні былі трывожныя: калі гітлераўцам удалося што-небудзь вырваць у Лены, абавязкова наляцяць карнікі. Але Лена Сураўнёва нічога не сказала.

Я адразу ж адказаў Генадзю Савейку, падзякаваў яму, даў адрас Пярова, прасіў пісаць мне. Але атрымаў пісьмо не ад яго, а ад людзей, таксама мне раней незнаёмых:

«Паважаны пісьменнік! Даруйце за турботы, але вялікае гора, якое не забылася да гэтага часу, прымушае нас звярнуцца да вас. Дзесятага кастрычніка 1962 года нам прынеслі свежы нумар абласной газеты «Віцебскі рабочы», у якім былі змешчаны ўрыўкі з вашай аповесці «Асобая роля» і пісьмо былога разведчыка Генадзя Дзмітравіча Савейкі. Гэта адкрыла нам тайну смерці нашай дачкі Лены: тое, што яна загінула, мы ведалі, а як і дзе — не.

Генадзь Дзмітравіч піша, што ў аповесці пра Лену гаворыцца нямнога, але для нас, бацькоў, досыць і гэтага. Цяпер мы ведаем, што наша дачка выканала абавязак перад Радзімаю, прыняла пакутніцкую смерць, але не выдала ваеннай тайны і сваіх таварышаў.

Мы пабылі ўжо ў лесе на адзінокай магілцы нашай дачкі. Сустрэлі нас, як родных, быў мітынг, на магілу ўсклалі вянкі. Баявымі таварышамі Лены на магіле ўстаноўлены помнік з надпісам: «Мужнай патрыётцы Лене, па-зверску закатаванай фашыстамі».

Апрача дачкі, у нас былі два сыны: старэйшы — Мікола, лейтэнант Савецкай Арміі — загінуў у баі з фашысцкімі захопнікамі; малодшы, трынаццацігадовы Валодзя, падарваўся на міне, калі збіраў патроны і іншыя боепрыпасы для партызан.

Засмучае нас, што не захавалася ў нас фатаграфіі нашай дачкі. Ці не можаце вы чым-небудзь памагчы нам у гэтым. Просім зрабіць усё, што можаце. Напішыце што-небудзь нам асабіста, за што будзем вельмі ўдзячны.

З павагаю бацькі Лены Сураўнёвай — Павел Мікалаевіч, Ганна Пятроўна».

Пісьмо ўсхвалявала мяне і ўзрушыла. Аповесць памагла бацькам Лены даведацца, як загінула іх дачка. А чым яшчэ я магу памагчы ім. Я ж сам не бачыў фатаграфіі Лены. Напісаў вялікае цёплае пісьмо, даў адрас Івана Мікітавіча Пярова,

Пасля неяк непрыкметна мая перапіска з Сураўнёвымі і Г. Д. Савейкам згасла і толькі ў 1968 годзе яшчэ адно пісьмо прымусіла мяне зноў вярнуцца да аповесці «Асобая роля». Пісьмо на гэты раз прыйшло не з Беларусі, а з рабочага пасёлка Сузун Новасібірскай вобласці. Вось яно:

«Паважаны таварыш Цяльканаў! Вельмі прашу вас, вышліце мне вашу кніжку «Асобая роля», прысвечаную групе разведчыкаў, якою кіраваў І. М. Пяроў. У ліку гэтых разведчыкаў была і я. Можа вы і пра мяне расказалі ў сваёй кнізе. Мая сціплая дзейнасць праходзіла пад імем Любы. Асабліва шмат, кажуць, вы аддалі ўвагі Лене Сураўнёвай, з якой у мяне звязаны лепшыя дні франтавога жыцця.

Я вельмі прашу, прышліце мне вашу кнігу. Калі вас цікавяць эпізоды з нашага баявога жыцця, — пытайцеся. Я ахвотна адкажу.

З франтавым прывітаннем Люба».

І зноў хваляванне, на гэты раз радаснае. Бо знайшлася, падала свой голас Люба (Марыя Мікалаеўна Навасельцава-Яніна), сяброўка Лены Сураўнёвай, якая шмат разоў хадзіла з ёю на баявыя заданні, была ў групе Пярова і ў Беларусі, і ў раёне Рыгі.

І, вядома ж, адразу была паслана кніжка. І пісьмо з вялікай просьбай падрабязна напісаць аб сабе, аб Лене, аб таварышах.

Адказ быў вялікі і вельмі цікавы.

«У чэрвені 1943 года нас, восем разведчыкаў, выкінулі з самалёта ў раёне возера Асвея пад Себежам. У разведку мы ішлі звычайна парамі. Часцей за ўсё я хадзіла з Ленаю Сураўнёвай. Лена была прыгожая дзяўчына вышэй сярэдняга росту. Мы з ёю пасябравалі, нягледзячы на тое, што былі розныя па характары: яна задуменная і нешматслоўная, я, наадварот, шумная і непаседлівая.

Аднойчы Іван Мікітавіч Пяроў паслаў мяне і Лену ў вёску (назвы цяпер не памятаю) па звесткі, якія павіна была перадаць нам сувязная групы, мясцовая настаўніца. Ішлі без асаблівых здарэнняў, але каля вёскі ўбачылі, што ўсе падыходы перакрыты ўзброенымі гітлераўцамі. Праўда, частка з іх п'янствавала і на нас ніхто не звярнуў увагі.

Падышлі бліжэй. Бачым, стаяць два кулямёты, а каля іх нікога няма. Узялі гэтыя кулямёты і шпурнулі ў закінуты калодзеж. А самі — у вёску, да сувязной. Толькі паспелі ўзяць у яе звесткі, як ля ваколіцы страляніна, крыкі.

— Што вы там нарабілі, дзяўчаткі? — пытаецца сувязная.

— Кінулі ў калодзеж фрыцаўскія кулямёты.

— Ну, тады ўцякайце, ратуйцеся, зараз яны ўсіх хапаць будуць...

Мы з усяе сілы, бягом, да лесу. Дабеглі да могілак і тут нас схапілі. Прывялі ў штаб да нейкага высокага немца, але той быў п'яны, дапытваць нас не стаў, адклаў на раніцу. Папярэдне «пачаставаўшы» рукаяткаю пісталета і штуршком, немец загадаў пасадзіць нас у хлеў і паабяцаў, што раніцаю нас абавязкова павесяць.

Сядзім мы з Ленаю ў хляве, на вачах слёзы: халера на іх, гэтыя кулямёты. Потым чуем за хлявом шоргат і нейчы голас:

— Дзяўчаткі, будзьце напагатове...

Аказваецца, наша сувязная прынесла гарэлкі і закускі і пачала частаваць вартавога. А яе дачка памагла нам ададраць дошкі з другога боку хлева. Пакуль вартавы выпіваў і закусваў, мы ўцяклі.

Потым нас зноў паслалі ў разведку. Гэтым разам я павінна была ісці з Генадзем Савейкам, а Лена адна. Панурая, невясёлая была яна тады, нешта нездаровілася ёй, а можа прадчуванне якое было. Нават заплакала. Я прасіла Пярова, каб паслаў замест яе мяне, але Лена сказала, што пойдзе сама.

З гэтага задання Лена Сураўнёва не вярнулася. Нас ахапіла трывога: нешта здарылася. Пачалі шукаць, але марна. Потым прыбег хлапчук з партызанскага атрада і паведаміў, што знайшоў Лену. І павёў нас.

Яна ляжала на дне капца, страшэнна змардаваная. У кішэні яе курткі я знайшла запіску прыкладна такога зместу: вельмі хочацца жыць, але перад фашыстамі галаву не схілю, памру, як належыць камсамолцы. Так і памерла наша Леначка.

На целе сваёй сяброўкі я налічыла дваццаць сем штыкавых ран. Калі абмывала Лену, было жахліва ад таго, што з ёю зрабілі фашысцкія звяругі.

Навокал яшчэ гарэў лес і паступова заціхалі адгалоскі шматдзённага жорсткага бою. А мы рыхтавалі Лену ў апошнюю дарогу, выбіралі месца, дзе пахаваць, каб пасля знайсці магілу. Спыніліся на маленькіх партызанскіх могілках каля азёр Лісна і Пячорыца.

...Скончылася вайна, мы разляцеліся ў розныя канцы краіны, і большасць сваіх таварышаў я згубіла. Але з некаторымі перапісвалася, у прыватнасці, з Вандаю. У 1967 годзе ездзіла да яе ў Рыгу, і вы разумееце, што гэта была за сустрэча! Пабывалі мы з ёю ў тых месцах, дзе дзейнічала наша група».

...На маім стале ляжаць фатаграфіі сяброў Лены Сураўнёвай. Твары, кранутыя часам. Я ўглядаюся ў іх, спрабую ўявіць сабе, якімі яны былі дваццаць пяць гадоў назад, і гавару:

— Добры дзень, дарагія таварышы,

Хабараўск.

## СААЎТАР... ПРЫРОДА







Пацешныя скульптуркі, ці ж не так?..

Вось Паўлінка пусцілася ў скокі з панам Быкоўскім. А гэта — афіцэр-улан распякае небараку-салдата. А вось дзве пляткаркі дзеляцца «свежымі» навінамі. І ўсё трапна, у характары, з гумарам...

Якім трэба быць уважлівым, пільным, як трэба любіць і ведаць родную прыроду, каб у звычайных карэньчыках, галінках убачыць цудоўнае, смешнае, дасціпнае.

Шмат цікавага можа расказаць аўтар гэтых скульптурак віцяблянін С. Шаўроў пра цуды, якія сустракаюцца ў лесе, пра самыя неверагодныя знаходкі, пра тое, як нечакана з-пад разца з'яўляюцца вядомыя вобразы, надзвычай трапныя характарыстыкі, пацешныя героі...

Тры маленькія скульптуркі, а колькі ў іх вынаходлівасці, такту, густу. Колькі радасці прынясуць яны людзям, колькі зачараваных усмешак выклічуць. А гэта для мастака — самая высокая ўзнагарода.

# ПРАБЛЕМЫ СУЧАСНАЙ ВЁСКІ І ЛІТАРАТУРА

**З адкрытага партыйнага сходу Саюза пісьменнікаў БССР**

ПРАЦОЎНЫЯ Беларусі зараз шырока абмяркоўваюць рашэнні ліпеньскага Пленума ЦК КПСС і XV Пленума ЦК КПБ, якія глыбока і ўсебакова прааналізавалі вынікі развіцця сельскай гаспадаркі за чатыры гады пяцігодкі і вызначылі напрамкі, метады і сродкі далейшага ўздыму сельскагаспадарчай вытворчасці ў сучасных умовах.

Гэтаму пытанню быў прысвечаны таксама адкрыты партыйны сход Саюза пісьменнікаў БССР, які адбыўся 18 жніўня. З дакладам «Рашэнні ліпеньскага Пленума ЦК КПСС і задачы пісьменніцкай арганізацыі» выступіў на ім сакратар ЦК КПБ У. Ф. Міцкевіч.

Як адзначыў дакладчык, абмеркаваныя Пленумамі ЦК КПСС і ЦК КПБ праблемы і рашэнні іх набываюць асаблівае значэнне ў святле падрыхтоўкі да XXIV з'езда КПСС, які падвядзе вынікі дзейнасці партыі за справаздачны перыяд і распрацуе праграму далейшага камуністычнага будаўніцтва.

У. Ф. Міцкевіч, гаворачы пра вынікі развіцця сельскай гаспадаркі за 1966—1969 гг. у краіне, адзначыў, што ў нашай рэспубліцы валавая прадукцыя сельскай гаспадаркі за гэтыя гады ўзрасла на 42 працэнты, а прадукцыйнасць працы — на 45 працэнтаў. За гэты час вялікія змены адбыліся і ў другой важнейшай галіне сельскай гаспадаркі — жывёлагадоўлі. Сярэдні гадавы аб'ём вытворчасці мяса павялічыўся ў калгасах і саўгасах рэспублікі на 60 працэнтаў, малака — на 58, яек — больш чым у два разы ў параўнанні з мінулым чатырохгоддзем.

— Дасягнуты поспехі ў развіцці земляробства і жывёлагадоўлі за мінулыя чатыры гады, — падкрэслівае дакладчык, — гэта вынік курсу партыі на хімізацыю, меліярацыю земляў і комплексную механізацыю сельскагаспадарчай вытворчасці, гэта вынік палітыкі, якая была выпрацавана на XXIII з'ездзе і пленумах ЦК.

Значнае павелічэнне капіталаўкладанняў у сельскую гаспадарку, забеспячэнне яе сельскагаспадарчай тэхнікай, садзейнічалі ўмацаванню эканомікі калгасаў і саўгасаў, паляпшэнню ўмоў жыцця працаўнікоў сяла. Павысіліся рэальныя даходы калгаснікаў і рабочых саўгасаў, уведзены пенсіі і іншыя віды сацыяльнага забеспячэння членаў калгасаў, расшырылася сетка клубаў, бібліятэк, прадпрыемстваў гандлю і бытавых абслуг насельніцтва сельскай мясцовасці.

Ліпеньскі Пленум ЦК КПСС і XV Пленум ЦК Беларусі, адзначае дакладчык, вызначылі шляхі і сродкі далейшага павышэння эканамічнай эфектыўнасці сельскай гаспадаркі на аснове развіцця матэрыяльна-тэхнічнай базы калгасаў і саўгасаў, хімізацыі і шырокай меліярацыі земляў, уздыму культуры земляробства і жывёлагадоўлі.

Далей дакладчык гаворыць пра тое, што ў Беларусі ў новай пяцігодцы на вытворчае будаўніцтва і набыццё новай тэхнікі, жыллёвае і культурна-бытавое будаўніцтва ў сельскай гаспадарцы выдзяляецца сродкаў амаль у два разы больш чым у бягучай пяцігодцы. Гэта дасць магчымасць павялічыць вытворчасць збожжа і мяса ў 1,6, а малака — у 1,5 раза.

Але карэннай праблемай развіцця сельскай гаспадаркі, падкрэслівае дакладчык, было і застаецца павелічэнне вытворчасці збожжа. У будучай пяцігодцы сярэднегадавую вытворчасць збожжа ў краіне плануецца давесці прыкладна да 195 млн. тон. У рэспубліцы наша практычная лінія па вытворчасці збожжа вызначана. У 1975 годзе сельская гаспадарка рэспублікі павінна даць не менш 7 млн. тон зерня. Гэта значыць, што ў цэлым па рэспубліцы мы павінны весці барацьбу за атрыманне ўраджаю збожжа 27—28 цэнтнераў з гектара.

Дакладчык падрабязна спыняецца на тых праблемах, якія трэба вырашыць, каб забяспечыць атрыманне высокіх ураджаяў, гаворыць пра тую ролю, якую павінны адыграць у гэтай справе далейшае ўдасканаленне структуры збожжавых, выкарыстанне толькі высокапрадукцыйных гатункаў, эфектыўнае выкарыстанне мінеральных угнаенняў, меліярацыйнае будаўніцтва, пра забеспячэнне калгасаў і саўгасаў поўным наборам сельскагаспадарчых машын; падкрэслівае важнасць і неабходнасць вырошчвання ва ўмовах Беларусі такіх культур, як бульба, лён, цукровыя буракі; спыняецца на меліярацыі забалочаных земляў і эфектыўнасці іх выкарыстання.

Бягучая пяцігодка, гаворыць У. Ф. Міцкевіч, з'явілася перыядам поўнага пераадолення адставання жывёлагадоўлі. Развіццё жывёлагадоўлі ў нейкай меры стрымліваў недастатковы ўзровень рэнтабельнасці вытворчасці прадуктаў жывёлагадоўлі. ЦК КПСС палічыў мэтазгодным павысіць матэрыяльную зацікаўленасць калгасаў і саўгасаў у павелічэнні вытворчасці і продажу дзяржаве прадуктаў жывёлагадоўлі.

Дакладчык спыняецца на мерах, якія цяпер забяспечваюць калгасам і саўгасам магчымасць мець дастатковую рэнтабельнасць вытворчасці прадуктаў жывёлагадоўлі, зазначае, што новыя закупачныя цэны на іх устаноўлены без павышэння рознічных цэн на мяса, малако і іншыя прадукты; гаворыць аб тым, што ў будучай пяцігодцы калгасы і саўгасы павінны даваць у разліку на сто гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў не менш як сто цэнтнераў мяса (у жывой вазе) і пяцьсот цэнтнераў малака.

— Такім чынам, — зазначае тав. Міцкевіч, — будучая пяцігодка павінна стаць этапам далейшага ўздыму сельскай гаспадаркі рэспублікі, у тым ліку яго асноўнай галіны — жывёлагадоўлі, этапам выхаду на сапраўды высокія рубяжы, якія адпавядаюць сучасным дасягненням навукі і передавой практыкі.

Гэта патрабуе ад усіх кадраў сельскагаспадарчай вытворчасці аператыўнага і творчага ўкаранення прагрэсіўнай тэхналогіі, якаснага пераўтварэння статку, пераводу жывёлагадоўлі на прамысловую аснову, а таксама новага падыходу ў арганізацыі кармавой вытворчасці, у аснове якой павінна быць барацьба за высокую якасць кармоў, за максімальнае накапленне і захаванне іх спажыўных рэчываў.

— Каб пасняхова развіваць вытворчасць на базе комплекснай механізацыі, аўтаматызацыі і электрыфікацыі, — гаворыць дакладчык, — неабходна перш за ўсё ўзняць прафесіянальны і агульнаадукацыйны ўзровень калгаснікаў і рабочых саўгасаў. Усё большыя масы працаўнікоў вёскі авалодваюць тэхнічнымі ведамі, удасканальваюць вопыт кіравання складанай тэхнікай. Ад механізатарскіх кадраў, іх кваліфікацыі і працавітасці залежыць поспех усіх нашых планаў. Разлікі паказваюць, што ў 1975 годзе ў калгасах і саўгасах рэспублікі павінна працаваць каля 250 тысяч механізатараў усіх спецыяльнасцей. Таму для партыйных, савецкіх і сельскагаспадарчых органаў адной з важных праблем у сучасны момант з'яўляецца праблема падрыхтоўкі і замацавання механізатарскіх кадраў.

Тыя велічныя пераўтварэнні, якія зараз адбываюцца ў сельскай гаспадарцы, не могуць не кранаць сваёй глыбінёй і маштабнасцю баявых памочнікаў партыі — пісьменнікаў, адзначае дакладчык. Дзеячы нашай літаратуры і мастацтва, гаворыць ён, сталі часцей бываць сярод працаўнікоў вёскі, выступаць перад імі з сваімі творамі ў самых глыбінных раёнах рэспублікі.

— Але кожнаму зразумела, — падкрэслівае У. Ф. Міцкевіч, — што такія кантакты не вычэрпваюць цалкам праблемы «пісьменнік і жыццё сучаснага сяла». Наш час патрабуе перш за ўсё новых твораў аб працаўніках вёскі, а іх, на жаль, пакуль што з'яўляецца вельмі мала. Нашы тоўстыя часопісы наогул не надрукавалі ні аднаго буйнога твора на вясковую тэму за мінулыя гады. Выклікае трывогу той факт, што з літаратуры амаль знікла тэма сучаснай вёскі, знік вобраз цяперашняга працаўніка сяла з яго новым адчуваннем сябе як гаспадара і ўдзельніка вялікай калектыўнай справы.

А між тым, у час сустрэч з пісьменнікамі працаўнікі палёў выказваюць ім свае строгія, але справядлівыя прэтэнзіі. Яны не патрабуюць — напішыце, маўляў, абавязкова раман пра даярак ці аповесць аб трактарыстах... Але яны чакаюць буйных таленавітых твораў, якія глыбока асвятлялі б сацыяльныя, эканамічныя і маральныя праблемы жыцця сённяшняга сельскага працаўніка.

Духоўныя і маральныя каштоўнасці сучаснага земляроба, яго ўнутраны свет, вытокі якога ў глыбокіх народных традыцыях, значнасць сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў сучаснай вёскі — вось што патрабуе ад пісьменнікаў увагі і паўнацэннага мастацкага асэнсавання.

Мы з вамі былі сведкамі таго, як на працягу, скажам, пяцідзесятых гадоў наша літаратура засяродзіла сваю ўвагу пераважна на жыцці вёскі. Савецкія пісьменнікі палічылі тады сваім грамадзянскім абавязкам сродкамі мастацтва прыняць удзел ва ўздыме сельскай гаспадаркі і змаглі таленавіта адлюстраваць жыццё тагачаснага сялянства. Тут можна прыгадаць творы Івана Шамякіна і Івана Мележа, Янкі Брыля і Тараса Хадкевіча, Піліпа Пестрака і Міколы Ракітнага, Аляксея Кулакоўскага і Алеся Савіцкага, Ігната Дуброўскага і інш.

За апошні час цікавасць пісьменнікаў да жыцця вёскі чамусьці паслабела. Гаворачы аб праблемах сучаснай «вясковай» прозы, «Литературная газета» ад 12 жніўня г. г. справядліва пісала ў перадавым артыкуле: «Змены ў сучаснай калгаснай вёсцы настолькі імклівыя, складаныя і, галоўнае, нязвыклыя для многіх пісьменнікаў, што яны патрабуюць часам ломкі пісьменніцкай псіхалогіі, вучобы, праверкі і пераправеркі жыццёвага вопыту. Справа ў тым, што многія пісьменнікі ведаюць вёску перш за ўсё па ўражаннях свайго юнацтва, калі яны самі былі актыўнымі ўдзельнікамі пераўтварэнняў на вёсцы. Гэтая вёска — з яе паэзіяй, праблемамі, дасягненнямі і цяжкасцямі і дагэтуль жывіць творчасць некаторых з іх. Але каб глыбока пранікнуць у жыццё сучаснай вёскі, уражанняў і ўяўленняў, сфарміраваных у мінулым, — былога біяграфічнага, уласнага жыццёвага вопыту ўжо недастаткова. Тут неабходна творчае абнаўленне пісьменніка — абавязак для любога сапраўднага мастака вечны і пастаянны».

— У нас амаль адсутнічаюць творы пра сённяшні дзень нашай вёскі, якая за апошнія чатыры-пяць гадоў пайшла далёка наперад па ўсіх лініях свайго сацыяльна-эканамічнага развіцця, а літаратура, тэатр, кіно і іншыя галіны мастацтва недастаткова цікавяцца жыццём сучаснага сельскага працаўніка, абставінамі, у якіх ён жыве, — гаворыць дакладчык. — Ці варта пераконваць, як важна для пісьменніка ўменне распазнаць новае ў вясковай рэчаіснасці, якое толькі і можа спрыяць з'яўленню сапраўднай кнігі, п'есы, кінафільма!

«Урокі рэвалюцыйнага жыцця», пра якія так пранікнёна пісаў некалі Уладзімір Ільіч, варта браць непасрэдна ў калгасах, саўгасах, там, дзе ў працэсе стварэння матэрыяльных каштоўнасцей ідзе грандыёзная работа па выхаванні і фарміраванні камуністычнага характару. Менавіта там трэба шукаць пісьменнікам тэмы і герояў для сваіх мастацкіх твораў.

Сучасны стан нашага праблемнага нарыса на вясковую тэму, гэтага найбольш аператыўнага жанру, не адпавядае таксама запатрабаванням часу. Нават значныя дасягненні ў гэтай галіне асобных аўтараў, такіх, як Вера Палтаран, Ігнат Дуброўскі і інш. толькі часткова выпраўляюць становішча.

У заключэнне тав. Міцкевіч сказаў:

— Цэнтральны Камітэт кампартыі Беларусі ўпэўнены што сённяшняя вёска дачакаецца сваіх пісьменнікаў—таленавітых удумлівых, здольных не толькі разабрацца ў жыцці сучаснай калгаснай вёскі, у тых якасна новых пераўтварэннях, якія перажывае яна, але і зоймуць актыўную пазіцыю барацьбіта за ўсё новае, перадавое. Мы спадзяёмся, што пісьменнікі Савецкай Беларусі вызначаць сваё месца ў барацьбе за перабудову сельскай гаспадаркі рэспублікі і ўнясуць свой важкі ўклад у выкананне рашэнняў ліпеньскага Пленума ЦК КПСС і XV Пленума ЦК КПБ.

Пісьменнікі, што прынялі ўдзел у абмеркаванні даклада, з вялікай заклапочанасцю і зацікаўленасцю гаварылі аб тым, якія адказныя задачы паўстаюць перад літаратарамі рэспублікі ў святле рашэнняў ліпеньскага Пленума ЦК КПСС і XV Пленума ЦК КПБ.

У прыватнасці, П. Пестрак адзначыў, што сацыяльна-эканамічныя змены, якія адбываюцца зараз у сельскай гаспадарцы, закранаюць самае істотнае — псіхалогію вясковага працаўніка, што выкананне рашэнняў пленумаў будзе спрыяць яшчэ большаму збліжэнню горада і вёскі. Пачэсны абавязак пісьменніка, сказаў ён, грунтоўна і ўсебакова вывучаць і асэнсоўваць працэсы, якія адбываюцца зараз на вёсцы, тое новае, што нясе тэхнічнае пераўзбраенне сельскай гаспадаркі, асабліва змены ў адносінах паміж людзьмі, іх побыце, змены ў самой псіхалогіі сучаснага хлебароба. Толькі ў такім разе можна чакаць ад пісьменніка стварэння праўдзівага і хвалюючага твора.

— Той, хто часта бывае ў сельскай мясцовасці, — сказаў у сваім выступленні А. Слесарэнка,—не мог не заўважыць, як вырас агульнаадукацыйны ўзровень вясковага працаўніка, як пашырыўся дыяпазон яго ведаў, як узраслі яго запатрабаванні. Выкананне рашэнняў ліпеньскага Пленума ЦК КПСС будзе садзейнічаць яшчэ большаму росту дабрабыту савецкіх людзей .

Іван Мележ, адзначыўшы вялікае значэнне, якое мае адкрыты партыйны сход, на якім пісьменікі шырока абмяркоўваюць праблемы сучаснай вёскі, сказаў:

— Мяне асабліва ўразіла паездка ў Жыткавіцкі раён Гомельскай вобласці. Там я пераканаўся, што мы часам не заўважаем таго, як змяніўся сам тып кіраўніка сельскагаспадарчага калектыву. Гэта людзі глыбокіх і грунтоўных ведаў, людзі новай фармацыі. Сустрэча з імі — вялікая радасць. Крытыку, якая прагучала ў дакладзе ў наш адрас, трэба прызнаць справядлівай. Сапраўды, вельмі рэдка ў нас з'яўляюцца значныя хвалюючыя творы, у якіх вобраз сучаснага хлебароба абмаляваны ва ўсёй сваёй велічы і прыгажосці. Гэта ідзе ад таго, што мы цураемся такога баявога жанру, як нарыс, рэдка бываем там, дзе вядзецца напружаная барацьба за новыя ўраджаі, недастаткова ведаем праблемы, якія хвалююць сёння працоўных калгаснай вёскі.

Далей І. Мележ расказаў пра мерапрыемствы, якія распрацаваны на сумесным пасяджэнні сакратарыяту і партбюро Саюза пісьменнікаў, па дастойнай сустрэчы XXIV з'езда партыі, заклікаў усіх пісьменнікаў прыняць актыўны ўдзел у асвятленні пытанняў жыцця сельскай гаспадаркі ў публіцыстычных артыкулах, нарысах, у выступленнях па радыё і тэлебачанні і непасрэдна ў працоўных калектывах.

М. Лужанін у сваім выступленні, адзначыўшы вялікую ролю дакументальнага кіно ў прапагандзе перадавых метадаў працы, новых форм земляробства і жывёлагадоўлі, спыніўся на недахопах, якія маюць месца ў развіцці нашага кінамастацтва.

П. Кавалёў і М. Кругавых заклікалі пісьменнікаў да больш грунтоўнага вывучэння праблем сённяшняй вёскі шляхам працяглых творчых камандзіровак у самыя глыбінныя раёны рэспублікі.

— Мне здаецца, што тыя пытанні, якія сёння мы разглядаем на адкрытым партыйным сходзе, не пакінулі нікога раўнадушным, — сказаў І. Шамякін. — Сапраўды тыя змены, якія закранаюць жыццё сучаснай вёскі, наводзяць на роздум, хвалююць сваёй маштабнасцю і глыбінёй. Перад пісьменніцкай арганізацыяй рэспублікі паўстаюць новыя задачы. Іх можна вырашыць толькі ва ўмовах трывалых сувязей з жыццём працоўнага сялянства. Будзем жа лічыць наш сход пачаткам павароту пісьменнікаў да сучаснай тэмы, да тых праблем і клопатаў, якімі жыве наш народ. Будзем чакаць, што пісьменнікі ўзбагацяць нашу літаратуру новымі творамі, вартымі чалавека-працаўніка, — стваральніка новых матэрыяльных каштоўнасцей, чалавека-барацьбіта за перамогу нашых ідэалаў.

Сакратар ЦК КПБ тав. Міцкевіч адказаў на шматлікія пытанні прысутных.

Па разгледжаным пытанні сход прыняў адпаведную пастанову.

дом — з мансардай, з падвалам, з паравым ацяпленнем. Не дом, а цэлы катэдж. І ў доме гэтым будзе ўсё — і тэлевізар, і халадзільнік, і газавая пліта. Але вось наваселле дзядзька Троска будзе спраўляць, відаць, без дзяцей. Бо старэйшы сын паступіў вучыцца раней, а дачка, скончыўшы сёлета восем класаў, таксама захацела паехаць на вучобу ў Мінск... У чым жа справа? Чаму дзеці Трoскі не застаюцца жыць у новым доме?

Адказ на гэтае пытанне даць не проста. Але я перакананы, што ўцякае (калі можна так гаварыць) моладзь не з-за недахопу «традыцыйнай любві», а ўцякае, наадварот, і... ад яе самой, «традыцыйнай», і ад некаторых іншых вясковых традыцый. Бо калі б гэтая любоў была ўжо такой ідылічнай, а гэты «смак хлеба» быў такім салодкім, то наўрад ці ўцякаў бы хто ад іх. Сказана ж: ад любві не шукаюць любві, ад дабра не шукаюць дабра.

«Але што ёй, вясковай моладзі, трэба? Чаго ёй не хапае?» — можаце вы спытаць. «Шмат чаго», — скажу я ў адказ і зноў спашлюся на жывы прыклад. Сын Уладзіміра Троскі яшчэ вучыцца ў Мінску. А Раіса Канарская, родам з-пад Горак, скончыла ўжо Горацкую сельгасакадэмію і як малады спецыяліст, прыехала на працу ў Кайшоўку. Яна займае пасаду галоўнага эканаміста, мае круглы аклад і ў гэтым сэнсе задаволена. Але вось у размове са мной яна прызналася, што ў вёсцы ўсё ж сумна. «Нават няма з кім пагуляць у мяч... Вясковыя хлопцы — нешта не тое, больш глядзяць у бутэльку... Пайшла б у самадзейнасць, але там усё тыя ж касцюмы, доўгія плаццi...» Рая з яе спецыяльнасцю — вельмі патрэбны вёсцы чалавек. Яна і стараецца працаваць. Але вясковы побыт не задавальняе яе, адукаваную, сучасную, у мініспадніцы, дзяўчыну. І ясна, што выхаваннем «традыцыйнай любві» тут справу не паправіш. Патрэбны нейкія іншыя, больш істотныя сродкі і меры, якія б маглі ўзбагаціць духоўную атмасферу вёскі.

Не заўважыў я, будучы ў Кайшоўцы, і пацвярджання таго, каб жыхары яе, старыя і маладыя, тужылі асабліва па хлебе ўласнай выпечкі. Нешта вельмі хутка прывыклі яны да магазіннага. Ці не лепшы ён у параўнанні з тым, што калісь пяклі «на кляновым лісці»? Ці не смачнейшы? Чуў, праўда, як шкадавалі, што вось ёсць толькі па чатырнаццаць капеек, а па васемнаццаць няма, чамусь не прывезлі. Чуў і іншы, сур'ёзны ўжо клопат: дзе дастаць цэменту? Як здабыць шыферу? Як выпісаць дошак? Гэты клопат я чуў і ў праўленні, на «нарадзе», ад старшыні калгаса і ад яго намесніка, чуў яго і ад калгаснікаў. Бачыў: стаіць недабудаваны будынак камбіната бытавых абслуг, бо няма шкла. Аб'язджалі неяк мост, які ўсё будуецца, і намеснік старшыні, Іван Іосіфавіч Лазарчык, чалавек гаспадарлівай хваткі, з болем сказаў: «Праблема цвіка... Калгас дае дзяржаве хлеб, мяса, малако, а яго не могуць забяспечыць цвікамі». Чуў, як старшыня спытаўся ў шафёра, колькі прывезлі камбікорму, і калі той сказаў, што толькі пяць тон, то вылаяўся: «Як жа так? Дамовіліся, што дадуць больш... Чым буду свіней карміць?» Бачыў, з якімі цяжкасцямі здабывалі сінтэтычную плёнку. У пошуках яе заехалі аж у Наваполацк... А на днях Шчарбакоў паведаміў мне з радасцю па тэлефоне, што дастаў трыста тон асфальту. «Гэта ж архіпраблема — дастаць асфальт!»

Так, адна з самых вострых праблем сённяшняй вёскі: дзе што дастаць, каб хутчэй яе, гэтую урбанізацыю, ажыццявіць... І трэба думаць, што апошнія пастановы партыі паспрыяюць яе вырашэнню.

Ёсць і іншыя цяжкасці і праблемы. Ёсць сёння і будуць заўтра. Напрыклад, комплексная механізацыя сенаўборкі паскарае і аблягчае працу. Але ў той жа час калгаснікі непакояцца: «А як жа будзе з «працэнтамі»? Раней яны атрымоўвалі, у парадку прэміі, некалькі працэнтаў ад скошанай плошчы. Зараз уручную не косяць і вось турбуюцца, пытаюць. («Праўда, Шчарбак гаворыць, што ніхто ў калгасе карову яшчэ не прадаў. Але ж...»). З механізацыяй сенаўборкі ўзнікае і яшчэ адно пытанне—лішак рабочай сілы. Таму, скажам, на стагаванні, дзе маглі б спраўляцца дзесяць чалавек, працуе дваццаць, а то і трыццаць. І гэта ў гарачы летні дзень, у прыпар. Што ж тады гаварыць пра зіму?..

І як у такім выпадку разглядаць праблему: «моладзь уцякае з сяла»?

Так, поле ўсім нам трэба глядзець не з краю, а з сярэдзіны. І ў літаральным, і ў метафарычным сэнсе. Інакш, мы можам многае не заўважыць і многае прагледзець.

Кайшоўка — Мінск.

---

нараджалася адзінае, праўдзівае рашэнне, і мы, згуртаваныя, радасныя, ішлі наперад. І Сямён Львовіч — заўсёды ў цэнтры, натхнёны, нястомны за раялем.

А колькі ўдзячных цёплых слоў адрасавалі Сямёну Львовічу гастралёры, што наведвалі наш тэатр! Гэта І. Казлоўскі, С. Лемешаў, В. Давыдава, А. Пірагоў, М. Озераў, Д. Узунаў, М. Гяўраў, і многа, многа іншых. Яму нельга было не падзякаваць за шчырае, строгае, сардэчнае, праўдзівае музычнае слова ў мастацтве, за дапамогу сапраўдную патрабавальнасць.

А патрабавальным ён быў болей за ўсіх да самога сябе. Нават сваю дачку Ларысу ён «вымуштраваў па-талкачоўску» і здолеў перадаць ёй свае «правілы» ў творчасці і разуменне высокага абавязку перад мастацтвам.

Я не магу вымавіць слова «бывай!», бо Вы, Сямён Львовіч, застанецеся ў маім сэрцы, як прыклад, як сцяг нашага мастацтва, якому Вы прысвяцілі сваё жыццё, талент, вопыт і аддалі сэрца...

Маё сэрца перапоўнена болем, але не кажу «бывайце». Я кажу — дзякуй за ўсё, дарагі, вечны ў думках і сэрцы Сямён Львовіч!

Л. АЛЕКСАНДРОЎСКАЯ,
народная артыстка СССР.



У саўгасе «Кахановічы» Верхнядзвінскага раёна ў маляўнічым парку культуры і адпачынку адкрыты музей баявой і працоўнай славы.
Фота Г. УСЛАМАВА. (БЕЛТА).

---

Юрый БАГУШЭВІЧ

# МАГУ ЗАСВЕДЧЫЦЬ

НЯДАЎНА з газетных паведамленняў я даведаўся, што ў Дзюсельдорфе суд прысяжных разглядае справу былога каменданта Трэблінкі і Сабібора Франца Паўля Штангля. Назва «Трэблінка» нагадала мне вераснёўскія дні 1944 года.

...Наша стралковая Чырванасцяжная дывізія вяла наступальныя бai супраць гітлераўскіх войск на тэрыторыі Польшчы. У тыя дні я, карэспандэнт - арганізатар дывізійнай газеты «Кутузавец», быў сярод байцоў. Яны вялі бai з гітлераўцамі ў вялікім лясным масіве. Не вытрымаўшы напору нашых войск, вораг паспешліва адступаў. Толькі перад адной з невялікіх чыгуначных станцый мы раптам сутыкнуліся з моцным супраціўленнем.

Потым, калі мы гэту мясцовасць занялі, я зразумеў, чаму вораг так чапляўся за яе.

Побач са мной ішлі тады старшыя сержанты Мяшкоў і Кудраўцаў, радавы Шчаглоў. Мінуўшы пералесак, мы апынуліся на лясной дарозе. Ворага блізка ўжо не было, і мы прайшлі па гэтай дарозе некалькі дзесяткаў метраў.

Але нейкае ўнутранае, неўсвядомленае пачуццё спыніла нас. Было незразумела, з якога матэрыялу гэта дарога. Чорная, з цвёрдага вязкага рэчыва... Мы не маглі па ёй ісці і сышлі на абочыну.

Спыніліся ля высокай агароджы з калючага дроту. За агароджай велізарнае поле. Дыміліся ўзарваныя будынкі, дагаралі пабудовы. І пах. Цяжкі, задушлівы пах спаленых чалавечых цел...

Гэта была Трэблінка— фашысцкі лагер смерці. Мы тады не ведалі гэтага пекла, хадзілі па жахлівым полі, і байцы, што падаспелі да нас, пачалі раскопваць пагоркі і канавы. Тут былі закапаны адзенне і абутак сотняў тысяч людзей, знішчаных на гэтай фабрыцы смерці. На пяць метраў у зямлю суцэльныя пласты жаночай, мужчынскай і дзіцячай бялізны. Адзенне ўсіх краін Еўропы. Шаўковы жылет з фабрычнай маркай Ліёна... Дзіцячы чэпчык з бельгійскімі карункамі... Жаночыя туфлі чэшскай вытворчасці...

Мяне можа падвесці памяць, і таму я далей цытую тое, што было апублікавана ў нашай чырвонаармейскай газеце 6 верасня 1944 года:

«Ідзём па гэтым полі смерці і ўсюды знаходзім сведчанні жахлівых злачынстваў. Кучы выкапанага посуду, яўрэйскія малітоўнікі, валасы. Пасмы сівых валасоў, бялявыя локаны і чорныя косы жанчын выкопваюцца з зямлі.

— У ліпені 1942 года, — расказвае польскі чыгуначнік Георгій Лушч, — праз станцыю Трэблінка ў лагер смерці пачалі прыбываць эшалоны з яўрэямі з Францыі, Грэцыі, Бельгіі, Аўстрыі, Чэхаславакіі, Югаславіі, Германіі, з Варшавы, Седлеца, з заходніх абласцей Савецкай Беларусі.

«Мяне прывезлі з Варшавы, — расказвае былы зняволены Мендэль Карытніцкі, які цудам уцалеў. — Калі поезд спыніўся, у кожны вагон падалі мётлы і загадалі зрабіць уборку. Потым аб'явілі, што прыбыўшыя будуць размеркаваны на работу. А перад гэтым пройдуць праз дэзінфекцыйныя камеры і лазню.

Я трапіў у групу, якую аддзялілі гітлераўцы. Усё далейшае бачыў сваімі вачыма.

Жанчынам загадалі пайсці налева, мужчынам — направа. Людзі раздзяваліся, акуратна складвалі адзенне ў паказаным месцы. Грошы і дакументы здавалі ў касу, «на захаванне». Жанчын стрыглі нагола, валасы складвалі ў асобныя мяшкі.

Па абгароджанай высокім плотам алеі (яе потым назвалі «алеяй смерці») людзі ішлі да «лазні». У кабіны ўваходзіла па 800 чалавек. Дзверы шчыльна зачынялі. Магутныя помпы пачыналі выпампоўваць паветра, і людзі гінулі ў жахлівых пакутах.

Праз 10—15 мінут за кабінамі адчыняліся люкі. Насільшчыкі са зняволеных (у іх лік трапіў і я) неслі мёртвыя целы да рэйкавых пляцовак. Па дарозе некалькі зубных урачоў, таксама са зняволеных, вырывалі залатыя і сярэбраныя зубы ў мерцвякоў. Целы звальвалі на рэйкі і падпальвалі. У гэты час «у лазню» паступала чарговая партыя.

Увесь працэс знішчэння займаў каля 15 мінут. «Шнэлер» (хутчэй, хутчэй!), — чуліся выкрыкі. Забойцы спяшаліся. Цэлыя эшалоны ахвяр па 60 вагонаў кожны, стаялі на станцыі Трэблінка».

«Пятнаццаць месяцаў не гаслі вогнішчы з чалавечых целаў, — расказвае былы смяротнік Люцыян Пухава, жыхар вёскі Вулька. — Дваццаць тысяч людзей у суткі спальвалі тут у канцы лета 1942 года. Са смяротнікаў эсэсаўцы арганізавалі аркестр. 70 музыкантаў ігралі ўвесь дзень, заглушаючы гукамі маршаў стогны і плач ахвяр, якія здагадваліся, куды іх прывезлі.

Спецыяльны штат з 20 чалавек сартаваў грошы і каштоўнасці задушаных. Жаночыя валасы складваліся ў мяшкі і вагонамі адпраўляліся ў Германію».

Гітлераўцы спрабавалі схаваць сляды злавеснай фабрыкі знішчэння мільёнаў людзей, але жывыя, уцалелыя сведкі, выкрываюць арганізатараў гэтых ні з чым не параўнаных злачынстваў.

У адным з наступных нумароў газеты «Кутузавец» быў апублікаваны запісаны мною расказ Соф'і Грабінскай, якая ўцякла з лагера смерці ў Трэблінцы. Вось яе расказ:

«Гэта быў жахлівы шлях. Невыносны смурод, пах гнілых трупаў, стогны хворых і паміраючых, плач галодных дзяцей у бітком набітых вагонах...

Ніколі я не забуду гэтай раніцы — 15 снежня 1942 года. Расчынілі дзверы. Свежае паветра хлынула ў сярэдзіну. Падалі мётлы і загадалі вычысціць перад выгрузкай вагоны. Мы пачулі музыку, жаночы хор спяваў яўрэйскую жартоўную песеньку. А ля вагонаў стаялі эсэсаўцы з аўтаматамі. Хутчэй, хутчэй — прыспешвалі нас. Мой 80-гадовы дзядуня не мог ісці. Эсэсавец стрэліў, і ён упаў мёртвы на перон.

Тата пайшоў направа, і я больш яго не бачыла. Жанчын загналі ў першы барак. Раздалі шнурочкі і сказалі: «Абутак здыміце і акуратна звяжыце шнуркамі». У наступным бараку загадалі зняць і скласці адзенне. Ля выхаду некалькі парыкмахераў астрыгалі жанчын і валасы складвалі ў спецыяльныя мяшкі. Перада мной у чарзе стаялі мае школьныя сяброўкі Марыя Альян і Бася Зільберблад. Побач — мама, 14-гадовая сястра Фаня і 70-гадовая бабуля. Лёс вырваў мяне з гэтай чаргі смяротніц. Гітлераўцам спатрэбілася некалькі прачак, і ў іх лік яны ўключылі мяне.

Далейшае здалося дзікім кашмарам. Як гэта я не страціла розум... Цэлымі днямі мы мылі бялізну, рыхтавалі яе для адпраўкі ў Германію.

Праходзілі тыдні, месяцы, але злавесны канвеер смяротнікаў не спыняўся.

Эшалоны прыходзілі з усіх краін Еўропы, а людзі бясследна знікалі.

Месяцамі не згасаў агонь, на якім гарэлі трупы. Тлустыя камякі чалавечага попелу насіліся ў паветры. Вагоны гэтага попелу вывозілі на палі. Траншэі, выкапаныя землечарпальнымі машынамі, напаўняліся попелам і засыпаліся пяском.

Каты спакойна назіралі ў акенцы, як пакутавалі і задыхаліся людзі. Памятаю, як эсэсавец рагатаў, паказваючы пальцам на цыганку, — яна калыхала ў кабіне груднoе дзіця. А маторы стукалі, высмоктваючы паветра.

Сярод цырульнікаў працаваў яўрэй Гальдштэйн. Яму давялося стрыгчы сваю жонку і дачку, якія трапілі ў паток смяротнікаў. А ён і не падазраваў у тыя хвіліны, што бачыць іх апошні раз.

У жніўні 1943 года ў лагеры ўспыхнула паўстанне. Яго падрыхтавалі насільшчыкі трупаў і сарціроўшчыкі адзення. Зняволеныя перабілі частку варты і прарваліся цераз дротавую загароду. Але выратаваліся нямногія. Мяне прытуліла польская жанчына ў лясной зямлянцы. Больш года я хавалася. Чырвоная Армія вызваліла нас, і я засталася жывая. Цяпер у мяне адно жаданне — расказаць людзям, што тварылі гітлераўскія вылюдкі ў Польшчы».

Ад вязняў Трэблінкі, якія засталіся ў жывых, мы даведаліся ў той дзень, што лясная дарога, па якой мы падышлі да легера, была з чалавечага попелу — з попелу сотняў тысяч загінуўшых у гэтым лагеры смерці.

Зараз у Дзюсельдорфе судзяць Франца Паўля Штангля. Камендант Трэблінскага лагера доўгія гады хаваўся ў Бразіліі, атрымліваў штомесяц аклад 1 200 амерыканскіх долараў, быў маклерам заходнегерманскай аўтамабільнай фірмы «Фольксваген».

Няхай мой расказ аб тым верасьнёўскім дні, калі мне, былому воіну Чырвонай Арміі, давялося ўбачыць дарогу з чалавечага попелу, і пачуць былых зняволеных Трэблінкі, паслужыць абвінавачаннем сведкі перад дзюсельдорфскімі суддзямі.

Галоўны камендант Трэблінкі павінен атрымаць справядлівае пакаранне для таго, каб нідзе на зямным шары не з'яўлялася новых дарог з цяжкага чалавечага попелу.

З пошты ЛіМа

# ЗА ЦЕСНЫ КАНТАКТ

*Мне, бібліятэчнаму работніку, захацелася выказацца з прычыны надрукаванага ў вашай газеце 10 ліпеня г. г. «Дыялогу: бібліятэкар — пісьменнік».*

*Размовы на гэтую тэму я чакала даўно. Нам, бібліятэкарам, сувязь з пісьменнікамі патрэбна, бо наша работа, як сказаў паэт Леў Озераў, «гэта або служба, або творчасць. Можна быць начытаным чалавекам, ведаць літаратуру, ведаць усе тонкасці бібліятэчнай справы і ўсё ж вяршыць яе па-чыноўніцку, фармальна, казённа. З выгляду работа бібліятэкара — гэта работа з кнігай, а па сутнасці — работа з чалавекам і над чалавекам...»*

*Самае жахлівае, калі і сустрэчы нашых пісьменнікаў з чытачамі ператвараюцца ў фармальнае, казённае мерапрыемства. Тады толькі шкада змарнаванага часу. Выступленні чытачоў павінны быць шчырыя, добра падрыхтаваныя і змястоўныя.*

*Я пішу вам пра гэта таму, што, чытаючы «дыялог», міжволі ўспомніла сваю першую сустрэчу з буйным пісьменнікам — Фёдарам Іванавічам Панфёравым. Памятаю, як ён прыязджаў да нас на Палессе, у Іванаўскі раён, на сваю апошнюю чытацкую канферэнцыю па кнізе «Роздум» у кастрычніку 1959 г.*

*Запомнілася галоўнае: Фёдар Іванавіч быў вельмі просты, гаваркі, чалавечны. І выступаў ён вельмі хараша. Мы ведалі, як многа ён ездзіў па краіне, нягледзячы на тое, што быў цяжка хворы. Апрача таго, доўгія гады быў рэдактарам часопіса «Октябрь», выконваў многа грамадскіх абавязкаў. І ўсё ж Панфёраў лічыў сваё пісьменніцкае жыццё немагчымым без сувязі з чытачамі, з радавымі працаўнікамі сяла.*

*Дык вось, нашы дарагія беларускія пісьменнікі, не забывайце цудоўных панфёраўскіх традыцый цеснай і пастаяннай сувязі з чытачамі.*

*А час заўсёды знойдзецца, калі пасапраўднаму, па-партыйнаму падысці да гэтага. Такія сустрэчы вельмі патрэбны пачынаючым маладым бібліятэчным работнікам сяла. Гэта дае магчымасць дыхаць на ўсе грудзі. Семінарскія заняткі ў раённых цэнтрах бываюць вельмі сумныя і аднастайныя. Часта яны ператвараюцца ў чарговыя «наганяі», і ўсё на гэтым канчаецца. А так бы хацелася чэрпаць у іх нешта новае, запамінальнае. Бо ў сёлах шмат бібліятэкараў, апантаных сваёй справай. Праўда, яны ў нас не заўсёды на відавоку. Шкада, што такім энтузіястам не даводзіцца бываць на добрым вечары паэзіі, на сустрэчы з пісьменнікамі і г. д.*

*Думаю, сельскія бібліятэкары з вялікай цікавасцю сустрэліся б з І. Шамякіным, І. Мележам, У. Карпавым і многімі іншымі. А як хацелася б нам хоць калі-небудзь мець надзею на сустрэчу з рэдактарамі нашых беларускіх часопісаў П. Кавалёвым, А. Макаёнкам і іншымі.*

*У нашай пасялковай бібліятэцы з вялікім нецярпеннем чакаюць кожны новы нумар «Полымя», «Маладосці» «Немана». Нумары з лепшымі творамі перадаюцца з рук у рукі, у бібліятэцы на іх чарга.*

*Калі бываю ў Мінску, не раз, часам, падумаю: а што, калі зайсці ў рэдакцыю, скажам, да Макаёнка, і пагаварыць аб праблемах, якія хвалююць нашых чытачоў, расказаць, што ім падабаецца, чаго яны чакаюць ад часопіса і г. д. Але тут жа стрымліваеш сябе — думаеш, відаць, няма часу рэдактару займацца такімі дробязямі. А вось да Ф. Панфёрава ў любы час і пры любых акалічнасцях зайшла б і не задумвалася б.*

*Цесны кантакт бібліятэкараў і пісьменнікаў, усведамленне асабістай грамадзянскай адказнасці кожнага з нас за даручаную справу змогуць прыцягнуць новыя патокі чытачоў. Такая сувязь выкліча яшчэ большую цікавасць да чытання кніг у тых чытачоў, якія па той ці іншай прычыне яшчэ раўнадушныя да нашай роднай беларускай літаратуры. Наша агульная мэта — зрабіць усё, каб у нашай рэспубліцы не было абыякавых.*

**А. ДЗЕМІДОВІЧ,**
загадчыца перасоўнага фонду Антопальскай гарпасялковай бібліятэкі.

ВІНШУЕМ З ЮБІЛЕЕМ!

# УЛАДЗІМІРУ КОРБАНУ—60 ГАДОЎ

*Спаўняецца 60 гадоў вядомаму беларускаму сатырыку і байкапісцу Уладзіміру Корбану. З гэтай нагоды праўленне Саюза пісьменнікаў Беларусі накіравала юбіляру прывітанне, у якім гаворыцца:*

**«Дарагі Уладзімір Іванавіч!**

**Горача віншуем Вас, аднаго з самых актыўных працаўнікоў сатырычнага цэху нашай паэзіі, з днём шасцідзесяцігоддзя і з дваццаціпяцігоддзем Вашай творчай дзейнасці!**

**Былы рабочы і кіраўнік прадпрыемства, радавы салдат і афіцэр Савецкай Арміі ў дні Вялікай Айчыннай вайны, Вы ў мірны час узяліся за пяро, каб у сваіх байках і фельетонах выкрываць усё тое, што перашкаджае нашаму руху наперад. Вашы творы вызначаюцца надзённасцю, палітычнай вастрынёй, яны б'юць не ў брыво, а ў вока.**

**Шмат сіл аддаеце Вы працы ў часопісе «Вожык», рэдактарам якога з'яўляецеся. Вы прымаеце актыўны ўдзел у грамадскім жыцці пісьменніцкай арганізацыі.**

**Жадаем Вам новых баек, вершаў, добрага настрою і моцнага здароўя!»**

*Рэдакцыя газеты «Літаратура і мастацтва» далучаецца да гэтага цёплага віншавання.*



Фота М. ЯГОРАВА.

# У ГАРАЧЫМ ЦЭХУ САТЫРЫ

Мокры, восеньскі дзень 1948 года...

Іду па вузкім і доўгім, як тунель, калідоры Дома друку. Наперадзе — дзве высокія постаці: адна тонкая, а другая— мажная.

Падыходжу бліжэй. Высокі і тонкі — Алесь Рылько. Усміхаецца:

— Знаёмся, Валодзя Корбан...

Перада мною стаяў плячысты чалавек у чорным, да самых пят, кажусе, у гумавых ботах. У руках трымаў агромістыя рукавіцы. Такія, здаецца, носяць каменшчыкі.

Ён не быў ні маладым паэтам, ні пачынаючым. Прынёс першую сваю байку ў рэдакцыю, палажыў на стол рэдактару, як заводскую дэталь:

— Прынёс байку — хочаце бракуйце, хочаце друкуйце!

«Начальнікам АТК» трапіўся выдатнейшы «бракаўшчык» — народны пісьменнік БССР Кандрат Кандратавіч Крапіва.

— Цяпер мне палегчала. Прыпрэжка надзейная...

Кандрат Кандратавіч не памыліўся. У сатырычны «хамут» запрогся і сапраўды надзейны паплечнік. Яму цяпер—шэсцьдзесят. Шэсцьдзесят вёснаў і зім... А ён той самы: няўрымслівы, вуглаваты, напорысты.

Уладзімір Іванавіч любіць гумар. Але гумар у яго творах нясе пэўную нагрузку. Не дзеля таго, каб пасмяшыць чытача, а каб падтрымаць тое, асноўнае, што ён хацеў сказаць.

Ёсць цікавая асаблівасць у творчасці Уладзіміра Іванавіча Корбана. Часам у сваіх байках ён не баіцца плакатнасці. І гэтая плакатнасць (вядома, у лепшым сэнсе гэтага слова) не псуе мастацкую вартасць байкі, а наадварот, узбагачае твор, робіць яго гранічна простым, кароткім, дынамічным.

Увесь свой жыццёвы багаж паэт, вядома, не мог выкарыстаць у байках. Ён піша вершы, вершаваныя фельетоны, апавяданні, аповесці. А ўсё ж на першым плане — байкі.

Трэба сказаць, што Уладзімір Іванавіч праявіў зайздросную літаратурную мужнасць. Колькі разоў ён чуў крыўднае і несправядлівае: байка як літаратурны жанр аджыла свой век. Маўляў, эзопаўская мова нікому не патрэбна. Даволі эксплуатаваць бедных звяроў і птушак. У наш час — крытыка ў пашане, крытыкуй без маскі, рэж горкую праўду-матку ў вочы. Аб гэтым гаварылі масцітыя літаратурныя спецы. І не толькі гаварылі — пісалі!

Я быў сведкам адной такой размовы. Салідны маскоўскі сатырык даказваў Уладзіміру Іванавічу, што пара адправіць байку на заслужаную пенсію, няхай адпачывае. Маўляў, сам «Крокодил» не прызнае гэтага жанру, баек не друкуе.

Уладзімір Іванавіч слухаў, нервова смактаў цыгарэту, нешта бурчаў сабе пад нос, але ў спрэчку не палез, а толькі нездаволена сказаў:

— У нас эзопаўскай мовай і не пахне. Савецкая байка страляе па адкрытай цэлі. Гэта ведаюць нават школьнікі. А што датычыцца «Крокодила» — добрую байку надрукуе...

«Крокодил» не толькі друкуе байкі Корбана, але і выдае яго кніжкі ў сваёй бібліятэцы.

Рабочы стол пісьменніка не пустуе. Кожны дзень новыя радкі, новыя задумы, новыя клопаты і новыя радасці.

Уладзімір Іванавіч узначальвае беларускі сатырычны цэх — часопіс «Вожык». Сядзіць за сваім службовым сталом, чытае пісьмы карэспандэнтаў часопіса. Як і заўсёды, няшчадна смокча цыгарэту за цыгарэтай. Раптам яго твар святлее: натыкнуўся на добры верш ці байку. Ідзе да супрацоўнікаў рэдакцыі.

— Паглядзіце гэты твор. Здаецца, у аўтара нешта ёсць. Напішыце яму цёпленькае пісьмо. Хлопца трэба падтрымаць...

А часам не ўцерпіць і напіша сам. Прыносіць падрабязны адказ і кажа:

— Паглядзіце, ці добра я напісаў. А то і яшчэ дабаўце што-колечы.

І вось так — кожны дзень.

Пісьменнік працуе на поўную аддачу сваіх сіл і таленту. Цяжкая дарога сатырыка, якую ён сабе выбраў, патрабуе настойлівасці, прынцыповасці, грамадзянскай мужнасці. У модных туфлях і белых пальчатках на гэтай дарозе няма чаго рабіць. Ёсць яшчэ ў нашым грамадстве і падхалімы, і жулікі, і казнакрады, і гультаі, і розная іншая брыдота. Пісьменнік дапамагае нашаму грамадству хутчэй пазбавіцца ад усяго, што перашкаджае нам жыць.

Шчаслівай табе дарогі, дружа!

**Міхась ПЯНКРАТ.**



Матчына песня.

Фотаэцюд Ул. МЯЖЭВІЧА.

# АЛЕІ ГЕНЕРАЛА ЭХТА

Добра, калі справу даручаюць ініцыятыўным людзям. Я падумаў пра гэта пасля размовы з генералам Эхтам...

Малады бабруйскі парк. Пасаджаны не так даўно: вялікі, з кіламетр даўжынёю ды і ў шырыню не меней. З кожным годам усё зелянейшыя яго шаты. Ёсць ужо гарадок атракцыёнаў, эстрадныя пляцоўкі, танцавальная пляцоўка, вялікі фантан.

Энтузіясты-добраахвотнікі разам з работнікамі парку праводзяць тут святы ўшанавання перадавікоў і ветэранаў працы, свята кнігі, спаборніцтвы па рыбнай лоўлі на возеры. Часта бываюць у парку канцэрты мастацкай самадзейнасці, дні прадпрыемстваў горада. Нядаўна, напрыклад, быў дзень швейнікаў. Калектыў швейнай фабрыкі імя Дзяржынскага паказваў свае вырабы, разам з наведвальнікамі парку абмяркаваў новыя моды і фасоны.

Парк мае шмат сяброў, ініцыятараў добрых спраў. Сярод іх — і генерал Д. Эхт.

Ёсць у парку «Алея прызыўнікоў». Яна пасаджана рукамі маладых рабочых горада, якія сёлета пайшлі служыць у армію. Разам з імі працавалі іх нявесты, сёстры, бацькі. Працавалі з песнямі, весела. І арганізаваў такое цікавае, карыснае мерапрыемства генерал Эхт. З гэтай алеі маладых рабочых праводзілі і ў армію. Зноў разам з імі быў Д. Эхт — генерал у адстаўцы.

Людзі называюць гэтую алею яшчэ алеяй генерала Эхта. Так называюць і алею кавалераў ордэна Леніна, пасаджаную таксама па яго ініцыятыве.

Генерал Эхт. Яго многія ведаюць і любяць у Бабруйску. Камуніст ленінскага прызыву, герой многіх мемуарных кніг выдатных савецкіх палкаводцаў. Былы танкіст, буйны военачальнік, ён жыве зараз у Бабруйску. Жыве заўсёды ў грамадскіх клопатах. Узначаліў савет ветэранаў вайны горада, арганізаваў універсітэт патрыятычнага выхавання моладзі.

Бабруйскі парк. Ён не раз быў прызёрам конкурсаў на лепшую арганізацыю адпачынку працоўных. І гэту яго біяграфію пішуць у першую чаргу такія энтузіясты, як генерал Д. Эхт.

**М. БЯРЭЗІНСКІ.**

*ВЕЧНА Ў ПАМЯЦІ*

# СЯБРЫ АЛЕНЫ СУРАЎНЁВАЙ

Сяргей ЦЯЛЬКАНАЎ

ГАДОЎ дзесяць назад лёс ваеннага журналіста звёў мяне ў адным з далёкаўсходніх гарнізонаў з падпалкоўнікам Іванам Мікітавічам Пяровым. Памятаю, спачатку гаворка ішла аб справах падраздзялення, якім ён камандаваў, аб баявой і палітычнай падрыхтоўцы, а потым высветлілася, што ў самога Івана Мікітавіча надзвычай цікавая біяграфія: амаль усю вайну, будучы камандзірам разведгрупы, ён правёў у гітлераўскім тыле.

Да вайны Пяроў меў непасрэднае дачыненне да мастацтва, быў артыстам маскоўскага тэатра Рэвалюцыі.

Вайна зрабіла акцёра разведчыкам. Пацягнуліся трывожныя тыдні і месяцы ў тыле праціўніка. Невель, Полацк, Ідрыца, Себеж, Рыга. Даводзілася іграць новую, незнаёмую, вельмі адказную ролю ўжо не на сцэне, а на зямлі, захопленай гітлераўцамі.

Карацей кажучы, у выніку гэтых сустрэч з Іванам Мікітавічам з'явілася мая невялікая дакументальная аповесць «Асобая роля», якая ў 1962 годзе была надрукавана ў часопісе «Дальний Восток», а потым выйшла ў Хабараўскім кніжным выдавецтве. Расказаўшы ў меру сваіх магчымасцей чытачам пра слаўныя справы разведчыка Івана Пярова і яго таварышаў, палічыў сваю місію закончанай.

Але ўлетку таго ж года на маё імя прыйшло пісьмо:

«Паважаны таварыш Цяльканаў! Марак Далёкаўсходняга флоту, мой зямляк Васіль Кудраўцаў даў мне пачытаць другі нумар часопіса «Дальний Восток» за 1962 год. Я прачытаў вашу аповесць «Асобая роля». Няма слоў, каб выказаць вам падзяку, як аўтару, за вашую ўвагу да нашай разведгрупы, якая выконвала заданні камандавання ў варожым тыле.

Прашу вас, звяжыце мяне з нашым былым камандзірам Іванам Пяровым, а таксама з іншымі разведчыкамі з нашай групы, у мяне няма іх адрасоў і ні з кім з іх пасля вайны не маю перапіскі.

Коратка аб сабе. Дзесяты год кірую калгасам «Шлях да камунізма» Расонскага раёна Віцебскай вобласці.

У 1960 годзе быў на магілцы Лены. У маі 1961 года ад сябе паставіў ёй помнік. Прозвішча Лены я не памятаў, мінула столькі гадоў, ды потым, хто з разведчыкаў у той час цікавіўся прозвішчамі — усе мы насілі іншыя імёны. З гэтай прычыны я і не змог знайсці сваякоў Лены. Прачытаўшы вашу аповесць, успомніў, што сапраўды прозвішча яе — Сураўнёва, але толькі, здаецца, жыла яна не ў Расонскім, а ў Сіроцінскім раёне. Я напісаў у рэдакцыю нашай абласной газеты «Віцебскі рабочы», думаю, таварышы дапамогуць мне знайсці яе сваякоў і блізкіх.

Хочацца, каб пра мужнасць Лены, маёй зямлячкі, пра яе гераічную смерць у час абароны Айчыны, ведаў увесь наш народ.

З павагаю Гена Савейка».

Пісьмо гэтае ўзрадавала мяне, як радуюць вестачкі ад родных і блізкіх людзей. Сам Іван Мікітавіч Пяроў пасля вайны таксама не меў перапіскі ні з кім са сваіх разведчыкаў, не ведаў, ці жывыя яны, дзе жывуць, а я сваю аповесць пісаў толькі па яго расказах.

І вось першая ластаўка — Гена, адзін з баявых таварышаў Пярова.

У канверце была невялікая фатаграфія: магілка ў лесе, сціплы помнік, група людзей і сярод іх Гена, цяпер пажылы ўжо чалавек — старшыня калгаса Генадзь Дзмітравіч Савейка. На адвароце фатаграфіі надпіс: «Ускладанне вянка на магілу Лены Сураўнёвай ад баявога таварыша «Дзімы» і яго аднапалчан».

Лена Сураўнёва. Маладзенькая дзяўчына-разведчыца з групы Пярова. Тады, вясною сорак чацвёртага, яна пайшла на заданне і не вярнулася. Трывожна было ў тыя дні ў зямлянцы разведчыкаў каля ляснога возера Асвея: дзе Лена, што з ёю, ці жывая яна? Пазней знайшлі яе, знявечаную гітлераўцамі. Казалі, што наскочыла дзяўчына на засаду і, можа, усё абышлося б добра, каб не здраднік, які перабег ад партызан да паліцаяў і заявіў: «Ведаю яе. Гэта з тых, што з самалёта скакалі».

Сябры пахавалі Лену ў раёне, занятым партызанамі. Наступныя дні былі трывожныя: калі гітлераўцам удалося што-небудзь вырваць у Лены, абавязкова наляцяць карнікі. Але Лена Сураўнёва нічога не сказала.

Я адразу ж адказаў Генадзю Савейку, падзякаваў яму, даў адрас Пярова, прасіў пісаць мне. Але атрымаў пісьмо не ад яго, а ад людзей, таксама мне раней незнаёмых:

«Паважаны пісьменнік! Даруйце за турботы, але вялікае гора, якое не забылася да гэтага часу, прымушае нас звярнуцца да вас. Дзесятага кастрычніка 1962 года нам прынеслі свежы нумар абласной газеты «Віцебскі рабочы», у якім былі змешчаны ўрыўкі з вашай аповесці «Асобая роля» і пісьмо былога разведчыка Генадзя Дзмітравіча Савейкі. Гэта адкрыла нам тайну смерці нашай дачкі Лены: тое, што яна загінула, мы ведалі, а як і дзе — не.

Генадзь Дзмітравіч піша, што ў аповесці пра Лену гаворыцца нямнога, але для нас, бацькоў, досыць і гэтага. Цяпер мы ведаем, што наша дачка выканала абавязак перад Радзімаю, прыняла пакутніцкую смерць, але не выдала ваеннай тайны і сваіх таварышаў.

Мы пабылі ўжо ў лесе на адзінокай магілцы нашай дачкі. Сустрэлі нас, як родных, быў мітынг, на магілу ўсклалі вянкі. Баявымі таварышамі Лены на магіле ўстаноўлены помнік з надпісам: «Мужнай патрыётцы Лене, па-зверску закатаванай фашыстамі».

Апрача дачкі, у нас былі два сыны: старэйшы — Мікола, лейтэнант Савецкай Арміі — загінуў у баі з фашысцкімі захопнікамі; малодшы, трынаццацігадовы Валодзя, падарваўся на міне, калі збіраў патроны і іншыя боепрыпасы для партызан.

Засмучае нас, што не захавалася ў нас фатаграфіі нашай дачкі. Ці не можаце вы чым-небудзь памагчы нам у гэтым. Просім зрабіць усё, што можаце. Напішыце што-небудзь нам асабіста, за што будзем вельмі ўдзячны.

З павагаю бацькі Лены Сураўнёвай — Павел Мікалаевіч, Ганна Пятроўна».

Пісьмо ўсхвалявала мяне і ўзрушыла. Аповесць памагла бацькам Лены даведацца, як загінула іх дачка. А чым яшчэ я магу памагчы ім. Я ж сам не бачыў фатаграфіі Лены. Напісаў вялікае цёплае пісьмо, даў адрас Івана Мікітавіча Пярова,

Пасля неяк непрыкметна мая перапіска з Сураўнёвымі і Г. Д. Савейкам згасла і толькі ў 1968 годзе яшчэ адно пісьмо прымусіла мяне зноў вярнуцца да аповесці «Асобая роля». Пісьмо на гэты раз прыйшло не з Беларусі, а з рабочага пасёлка Сузун Новасібірскай вобласці. Вось яно:

«Паважаны таварыш Цяльканаў! Вельмі прашу вас, вышліце мне вашу кніжку «Асобая роля», прысвечаную групе разведчыкаў, якою кіраваў І. М. Пяроў. У ліку гэтых разведчыкаў была і я. Можа вы і пра мяне расказалі ў сваёй кнізе. Мая сціплая дзейнасць праходзіла пад імем Любы. Асабліва шмат, кажуць, вы аддалі ўвагі Лене Сураўнёвай, з якой у мяне звязаны лепшыя дні франтавога жыцця.

Я вельмі прашу, прышліце мне вашу кнігу. Калі вас цікавяць эпізоды з нашага баявога жыцця, — пытайцеся. Я ахвотна адкажу.

З франтавым прывітаннем Люба».

І зноў хваляванне, на гэты раз радаснае. Бо знайшлася, падала свой голас Люба (Марыя Мікалаеўна Навасельцава-Яніна), сяброўка Лены Сураўнёвай, якая шмат разоў хадзіла з ёю на баявыя заданні, была ў групе Пярова і ў Беларусі, і ў раёне Рыгі.

І, вядома ж, адразу была паслана кніжка. І пісьмо з вялікай просьбай падрабязна напісаць аб сабе, аб Лене, аб таварышах.

Адказ быў вялікі і вельмі цікавы.

«У чэрвені 1943 года нас, восем разведчыкаў, выкінулі з самалёта ў раёне возера Асвея пад Себежам. У разведку мы ішлі звычайна парамі. Часцей за ўсё я хадзіла з Ленаю Сураўнёвай. Лена была прыгожая дзяўчына вышэй сярэдняга росту. Мы з ёю пасябравалі, нягледзячы на тое, што былі розныя па характары: яна задуменная і нешматслоўная, я, наадварот, шумная і непаседлівая.

Аднойчы Іван Мікітавіч Пяроў паслаў мяне і Лену ў вёску (назвы цяпер не памятаю) па звесткі, якія павіна была перадаць нам сувязная групы, мясцовая настаўніца. Ішлі без асаблівых здарэнняў, але каля вёскі ўбачылі, што ўсе падыходы перакрыты ўзброенымі гітлераўцамі. Праўда, частка з іх п'янствавала і на нас ніхто не звярнуў увагі.

Падышлі бліжэй. Бачым, стаяць два кулямёты, а каля іх нікога няма. Узялі гэтыя кулямёты і шпурнулі ў закінуты калодзеж. А самі — у вёску, да сувязной. Толькі паспелі ўзяць у яе звесткі, як ля ваколіцы страляніна, крыкі.

— Што вы там нарабілі, дзяўчаткі? — пытаецца сувязная.

— Кінулі ў калодзеж фрыцаўскія кулямёты.

— Ну, тады ўцякайце, ратуйцеся, зараз яны ўсіх хапаць будуць...

Мы з усяе сілы, бягом, да лесу. Дабеглі да могілак і тут нас схапілі. Прывялі ў штаб да нейкага высокага немца, але той быў п'яны, дапытваць нас не стаў, адклаў на раніцу. Папярэдне «пачаставаўшы» рукаяткаю пісталета і штуршком, немец загадаў пасадзіць нас у хлеў і паабяцаў, што раніцаю нас абавязкова павесяць.

Сядзім мы з Ленаю ў хляве, на вачах слёзы: халера на іх, гэтыя кулямёты. Потым чуем за хлявом шоргат і нейчы голас:

— Дзяўчаткі, будзьце напагатове...

Аказваецца, наша сувязная прынесла гарэлкі і закускі і пачала частаваць вартавога. А яе дачка памагла нам ададраць дошкі з другога боку хлева. Пакуль вартавы выпіваў і закусваў, мы ўцяклі.

Потым нас зноў паслалі ў разведку. Гэтым разам я павінна была ісці з Генадзем Савейкам, а Лена адна. Панурая, невясёлая была яна тады, нешта нездаровілася ёй, а можа прадчуванне якое было. Нават заплакала. Я прасіла Пярова, каб паслаў замест яе мяне, але Лена сказала, што пойдзе сама.

З гэтага задання Лена Сураўнёва не вярнулася. Нас ахапіла трывога: нешта здарылася. Пачалі шукаць, але марна. Потым прыбег хлапчук з партызанскага атрада і паведаміў, што знайшоў Лену. І павёў нас.

Яна ляжала на дне капца, страшэнна змардаваная. У кішэні яе курткі я знайшла запіску прыкладна такога зместу: вельмі хочацца жыць, але перад фашыстамі галаву не схілю, памру, як належыць камсамолцы. Так і памерла наша Леначка.

На целе сваёй сяброўкі я налічыла дваццаць сем штыкавых ран. Калі абмывала Лену, было жахліва ад таго, што з ёю зрабілі фашысцкія звяругі.

Навокал яшчэ гарэў лес і паступова заціхалі адгалоскі шматдзённага жорсткага бою. А мы рыхтавалі Лену ў апошнюю дарогу, выбіралі месца, дзе пахаваць, каб пасля знайсці магілу. Спыніліся на маленькіх партызанскіх могілках каля азёр Лісна і Пячорыца.

...Скончылася вайна, мы разляцеліся ў розныя канцы краіны, і большасць сваіх таварышаў я згубіла. Але з некаторымі перапісвалася, у прыватнасці, з Вандаю. У 1967 годзе ездзіла да яе ў Рыгу, і вы разумееце, што гэта была за сустрэча! Пабывалі мы з ёю ў тых месцах, дзе дзейнічала наша група».

...На маім стале ляжаць фатаграфіі сяброў Лены Сураўнёвай. Твары, кранутыя часам. Я ўглядаюся ў іх, спрабую ўявіць сабе, якімі яны былі дваццаць пяць гадоў назад, і гавару:

— Добры дзень, дарагія таварышы.

Хабараўск.

## СААЎТАР... ПРЫРОДА







**Пацешныя скульптуркі, ці ж не так?..**

**Вось Паўлінка пусцілася ў скокі з панам Быкоўскім. А гэта — афіцэр-улан распякае небараку-салдата. А вось дзве пляткаркі дзеляцца «свежымі» навінамі. І ўсё трапна, у характары, з гумарам...**

**Якім трэба быць уважлівым, пільным, як трэба любіць і ведаць родную прыроду, каб у звычайных карэньчыках, галінках убачыць цудоўнае, смешнае, дасціпнае.**

**Шмат цікавага можа расказаць аўтар гэтых скульптурак віцяблянін С. Шаўроў пра цуды, якія сустракаюцца ў лесе, пра самыя неверагодныя знаходкі, пра тое, як нечакана з-пад разца з'яўляюцца вядомыя вобразы, надзвычай трапныя характарыстыкі, пацешныя героі...**

**Тры маленькія скульптуркі, а колькі ў іх вынаходлівасці, такту, густу. Колькі радасці прынясуць яны людзям, колькі зачараваных усмешак выклічуць. А гэта для мастака — самая высокая ўзнагарода.**

Адам МІЦКЕВІЧ

# БАНКЕТ



*(З гістарычнай аповесці «Конрад Валенрод»)*

*Імя Пятра Бітэля добра вядома нашым чытачам. Ён вясковы настаўнік. Некалькі гадоў таму назад пераклаў паэмы Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш» і «Гражына». Сёння мы прапануем урывак з новага перакладу П. Бітэля — раздзел з гістарычнай паэмы А. Міцкевіча «Конрад Валенрод».*

Быў дзень патрона ордэна. На свята
Браты і комтуры ў сталіцу едуць.
Сцягоў бялее на мурах багата —
Спраўляе Конрад для сяброў бяседу.

Вось сто плашчоў бялее ўжо ў застоллі,
На кожным з іх крыж зззяе доўгі, чорны:
Браты ўсё гэта. Ззаду у паўколлі —
Аружаносцаў, слуг натоўп пакорны,

У цэнтры Конрад. Леваруч ад трона
Сядзіць Вітоўт у акружэнні світы:
Нядаўны вораг, а цяпер з тэўтонам
Супроць Літвы ідзе пан знакаміты.

Магістр, устаўшы, запрашае ў гулі:
«У пана цешмася!»— Звіняць кяліхі.
«У пана цешмася!» — браты раўнулі,
І залю крые гул неразбярыхі.

Сеў Валенрод і, твар рукой падпёршы,
З пагардай зносіў самадураў жарты.
Цішэе гоман, слоў набор найгоршы
Сыходзіць ціха ў звон аб кварту кварты.
«Дык цешмася ж!— прамовіць.— Што ж вы, госці?

Ці ж рыцар гэткі ў момант весялосці?
Перш п'яны крык, а зараз шопат ціхі.



Ці ж не на ўцеху тут стаяць кяліхі?
Няўжо даўнейшы звычай наш загінуў,
Калі на поўным трупаў полі бою,
Між гор Кастыльскіх або ў пушчах фінаў
Ля вогнішча пілі мы грамадою?

Вось песні дзе былі! Між вас, што скіслі,
Няма мінстрэляў, бардаў з таго веку?
Віно вяселіць сэрца чалавеку,
А песня добрая — віно для мысляў».

Тут спевакоў устала розных многа.
Вось італьянец салаўіным тонам
Пяе аб Конрадавых перамогах,
Там трубадур-умелец з-над Гароны
Пра пастухоў спявае закаханых,
Пра рыцараў і дзеў зачараваных.

А Валенрод драмаў. Спяванне сціхла.
Разбуджаны зацішшам у гулянцы,
Капшук з грашыма кінуў італьянцу:
«Мой шлях,— сказаў,— ты размалёўваў сціплы,
Другой не ў сіле даць я ўзнагароды,
Бяры і — прэч з вачэй!.. А ты, што оды
Пяяў каханню, трубадур дасужы,
Даруй, што тут нідзе ў нас навакола
Няма дзяўча, якое б прыкалола
К твайму улонню кветку марнай ружы.

Тут ружы звялі... Не такога барда
Манаху-рыцару сягоння трэба:
Хай песня льецца з дзікаю пагардай,
Як звон мячоў, як рог узняты ў неба,
Хай будзе змрочнай, быццам падзямеллі,
Ці як душа самотніка ў пахмеллі.

Па нас, што хрысцім, б'ём і судзім,
Напеў забойцаў хай знянацку трэсне,
Няхай у песні гнеў і заклік будзе,
Са знудажаных яна хай здыме плесні!
Мы так жывём — такія нашы песні!
Дык хто спяе такую?»

«Я»,— азваўся
Стары дзядок, які каля ўваходу
У натоўпе слуг сядзеў і мацаваўся.
Відаць, паходзіў з простага народу,
З Літвы ці з Прус, бо быў ён барадаты,
На вочы, лоб і галавы сівізну
Насунуў глыбака свой бриль калматы,
А твар пакрылі мук і год крывізны.

Ён, лютню сціснуўшы рукою правай,
Другую выцягнуў у бок сабрання:
Прасіў, занятых гутаркай і стравай,
Паслухаць. Сціхлі ўсе.

Ён мовіў: «Сяння
Спяю, як колісь пеў літоўцам, прусам.
Іх шмат злягло ў радзімы абароне,
А іншыя, пры бацькаўшчыны сконе,
Дабіць сябе таксама лічаць мусам,

Як слугі верныя, што і ў нядолі
Не пакідаюць пана з добрай волі.

Другія крыюцца дзесь за лясамі,
Ці так, як Вітаўт, тут жывуць між вамі.
Ды пасля смерці.. Немцы, я не знаю,
Спытайце самі здрадніцкае смецце,
Што з імі станецца, як на тым свеце
У пекла пойдуць гэтыя нябогі?
Як родзічаў яны паклічуць з раю
І як у іх папросяць дапамогі —
У варварскай ці мо нямецкай мове?
Што будзе ў родзічаў адказе-слове?

Век не забыцца сораму такога,
Што літвіны на'т пальцам не кранулі,
Калі вы, немцы, песняра старога
Мяне, з бажніцы скутага цягнулі...
У чужыне састарэў я адзінока,
Спявак, на жаль, а слухачоў не маю.
Засохла з плачу па Літве ўжо вока...
І зараз, як падумаю аб краю,
Не ведаю ў якой стаіць старонцы
Мой дом, і жаль грызе мяне бясконцы.
І толькі тут вось сэрца захавала
Усё найлепшае, што ў нас бывала...
І гэтыя убогіх скарбаў згадкі
Вазьміце, немцы... Наце вам астаткі!

Як слаўны рыцар, збіты на турніры,
Жыццё ўратуе, але гонар страціць
І дні валочыць пад агнём сатыры,
Дык пераможцу дань яшчэ раз плаціць:
Апошні раз усе напружыць жылы
І, меч зламаўшы, сыдзе ў глыб магілы.

Вось так мяне натхнула шчэ ахвота,
Яшчэ да лютні я асмеліў рукі:
Няхай Літвы апошні з вайдалотаў
Разбудзіць вам апошняй песні гукі».

Замоўк. Магістра думку знаць жадае.
Чакаюць у маўчанні ўсе глыбокім,
А Конрад вострым і пытлівым вокам
Вітоўта твар і ўзрухі разглядае.

Усе заўважылі, што словы вайдалота
Пра здраднікаў, Вітоўта закранулі:
Ссінеў, збялеў, яму ўжо не да гуляў —
Ім авалодаў сорам і згрызота.
Сарваўся з месца. З шабляю пры боку
Ідзе, прысутных распіхае смела,
Ды стрэў старога зрок і збіўся з кроку,
І хмара гневу, што над ім вісела,
Апала раптам цераз слёзы ў воку.
Вярнуўся, сеў, закрыў плашчом аблічча
І ў думкі углыбіўся таямніча.

А немцы — ціха: «Ну, няўжо бяседа
Без жабрака не абышлася б, дзеда?
Хто слухае? Хто ў песні разбярэцца?»
Перш гэткі шэпт уздоўж сталоў нясецца,
За ім шторaз мацнеюць смехі,
А пажы ў крык і свішчуць у арэхі:
«Вось гэткая літоўскай песні нота!»



Мал. В. ТАРАСАВА.

Магістр устаў: «Мужы нязломнай раці!
Сягоння ордэн наш старым звычаем,
Як доказ вернасці народа, знаці,
Даніну з княстваў, гарадоў прымае.
У дзеда песня — ўсё яго багацце,
Дык нельга не прыняць яго даніны,
Хай песню дасць, як грош той удавіны.

Літоўскі князь між нас сядзіць, панове,
Гасцюююць і Вітоўта ваяводы,
Прыемна будзе ім у роднай мове
Паслухаць песні пра былыя годы.
Хто хоча, можа зараз выйсці з залі,
А я люблю літоўскай песні тоны,
Незразумелыя мне енкі, стогны,
Так, як люблю гучанне бурнай хвалі
Ці шум дажджу вясенняга... Дарэчы,
Пры іх так міла спаць. Спявай, старэча!»

# ГЭТЫ БЯСКОНЦЫ БОЛЬ

### Госці Мінска — артысты Омскага тэатра ў Хатыні





Увечары, калі да Хатыні была яшчэ ноч, і раніцай, калі да Хатыні было яшчэ некалькі гадзін, і потым, па дарозе, калі мы моўчкі, пагружаныя ў свае думкі, глядзелі праз вокны «рафіка» і перад намі ва ўсёй красе, то азораныя сонцам, то спахмурнелыя ад наляцеўшага немаведама адкуль ветру імчалі насустрач палі, лясы, у галаве круціліся радкі з верша, які, не памятаю каму належыць, і дзе іх прачытала: «Калі ты не загінуў на вайне, дык як павінен жыць...»

Госці Мінска — артысты Омскага тэатра музычнай камедыі — едуць у Хатынь.



Тысячы кіламетраў раздзяляюць Беларусь і далёкі сібірскі горад, але трагедыя Хатыні, трагедыя сотняў загінуўшых вёсак добра вядома амічам.

Спыняюцца машыны...

Вакол лясы, і празрыстае, настоенае на травах, кветках і глебе паветра ціха дрыжыць ад трывожных і жахлівых галасоў званоў: «Бом-м-м, бом-бом...»

«Калі ты не загінуў на вайне, дык як павінен жыць...» — не выходзіць з галавы і ўсё.

Артысты ідуць вакол фігуры чалавека, які трымае на руках мёртвага хлапчука...

Знізу здаецца, што чалавек гэты ўпіраецца галавой у блакіт неба... Сапраўды. На такіх мужных, няскораных трымаюцца і зямля, і неба.

Загучалі ўдарныя. Аркестр Омскага тэатра выконвае музыку з аперэты А. Сандлера «На досвітку». Гэта плач па загінуўшых.

Расце гара кветак ля магілы, дзе пахаваны рэшткі спаленых жыхароў Хатыні.

*Людзі добрыя, помніце!*
*Мы любілі жыццё і Радзіму нашу,*
*і вас, дарагія.*
*Мы згарэлі жывымі ў агні.*
*Наша просьба да ўсіх:*
*Хай жальба і смутак абернуцца*
*ў мужнасць і сілу.*

*Каб змаглі ўвекавечыць вы мір*
*і спакой на зямлі.*
*Каб нідзе і ніколі ў віхры пажараў*
*жыццё не ўмірала!*

Высокія жаночыя галасы, поўныя болю і тугі, гучаць над Хатынню. Спяваюць артысты Омскага тэатра — яны прыехалі сюды, каб пакланіцца шматпакутнай зямлі, якая ўвабрала столькі крыві і нарадзіла столькі герояў...

— Ну вось, — сказаў нехта з артыстаў, калі мы вярталіся назад, у Мінск, — наплакаліся, нахваляваліся, а сёння ўвечары будзем весяліцца на сцэне, і заўтра... А гледачы ў зале таксама будуць вясёлыя, гучна пляскаць у далоні.

Так. Жыццё ніколі не спыняецца. І нельга кожны дзень плакаць над магіламі мільёнаў загінуўшых, хоць гэта наш бясконцы боль.

Але калі трэба даць адказ на цяжкае пытанне, якое паставіла перад намі жыццё, калі мы застаемся адзін на адзін са сваім сумленнем, трэба ўспомніць Хатынь.

«Калі ты не загінуў на вайне, дык як павінен жыць...» — адкуль гэтыя радкі, што не ідуць з галавы?

**І. ІРЫНІНА.**

Фота Ул. КРУКА.

**СЯРОД КНІГ СЯРОД КНІГ СЯРОД КНІГ**

## ПРАЕКЦЫЯ НА СТУДЭНЦКІ МЕРЫДЫЯН

Рамантыка і адлегласць неаддзялімыя адно ад другога. Пры слове «рамантыка» ўскосна нагадваецца адлегласць, прастора і, наадварот, у адлегласці мы амаль непазбежна бачым адзнакі ўсё той жа рамантыкі. Але самі па сабе гэтыя паняцці яшчэ нічога не гавораць. Каб «ажывіць» іх, надаць ім важкі змест, трэба бадзёры імпэт маладосці, яе неўтаймавальная прага пошукаў і адкрыццяў, яе настойлівая патрэба ў здзяйсненні сваіх мар.

Маладыя журналісты Ул. Вялічка, М. Латыш і выкладчык БПІ Ул. Унуковіч паставілі перад сабой задачу прасачыць некаторыя праяўленні цаліннай рамантыкі. Кніга «Трэці семестр», напісаная імі, уключае матэрыял, які расказвае пра жыццё і дзейнасць студэнтаў на цаліне на працягу шасці гадоў — з 1963 па 1969. Шэсць працоўных студэнцкіх семестраў на цаліне — шэсць гераічных старонак. Бо кожнае лета — гэта велізарны па плошчы і размаху фронт будоўлі, асваенне тысяч рублёў дзяржаўных сродкаў. Студэнты будавалі цэлыя пасёлкі, каналы, пракладвалі на многія кіламетры лініі электраперадач.

Зразумела, што гэта было нялёгка, што ў працэсе работы ўзнікалі «канфлікты», завязваліся складаныя сітуацыі, у якія траплялі байцы будаўнічых атрадаў. Акрамя знешніх «кліматычных» умоў, важнае значэнне мела «прыціранне» адзін да аднаго ў самім будаўнічым атрадзе. Цікава, што аўтары ў асноўным засяродзілі сваю ўвагу менавіта на будаўнічым атрадзе як самастойнай адзінцы вялікага і шырокага студэнцкага фронту. Гэта вызначыла і агульнае гучанне і лад кніжкі. Аўтары паказваюць, як паступова, з кожным годам атрад пашырае свае функцыі, становіцца не толькі будаўнічай арганізацыяй, а праводзіць і асветніцкую работу сярод мясцовага насельніцтва, ствараючы піянерскія лагеры-спадарожнікі, выступаючы з канцэртамі, лекцыямі, папаўняючы кнігамі сховішчы сельскіх бібліятэк.

Але ўсё ж у цэнтры ўвагі аўтараў — людзі, байцы атрада. Трэба сказаць, што кніга гэта напісана не за адзін раз. Яна ўяўляе сабою як бы збор нарысаў, якія раней друкаваліся аўтарамі ў перыядычным друку. Многае яны перагледзелі з таго, што было змешчана ў газетах раней, многае дапісалі.

Асобныя старонкі кнігі чытаюцца з хваляваннем. Хіба ж не ўзрушвае нас тое, як урач Дзіна Вялічка ў непагадзь па размоклым беразе ракі дабіраецца да чабанаўскага доміка за 15 кіламетраў, каб дапамагчы маленькаму хлопчыку перамагчы хваробу, або як выратоўвала жыццё жанчыне-парадзісе галоўны ўрач раённага студэнцкага атрада Маргарыта Лецяго.

На жаль, такіх старонак, у якіх бы выразна і пераканаўча былі паказаны характары студэнтаў, іх вытворчыя і таварыскія адносіны, нямнога. Хаця мы і заўважаем імкненне аўтараў зрабіць гэта. Больш таго. Нягледзячы на ўдалае як быццам выкарыстанне аўтарамі разнастайных форм і жанраў (тут і передавы артыкул, і нарыс, і карэспандэнцыя, і верш — звычайна падаецца як эпіграф—і замалёўка, і інфармацыя, і гістарычная даведка, і гумарэска), ілюстрацый (дарэчы, аўтар здымкаў Р. Кадзет чамусці застаўся невядомы!), кніга выклікае пачуццё незадавальнення. І гэта незадавальненне выклікана, безумоўна, тым, **як** напісана гэта кніга. Менавіта на гэтым і хочацца спыніць крыху сваю ўвагу.

Па-першае. Кнізе, на наш погляд, нестае лічбовага матэрыялу. Нават той, што ёсць, раскіданы па ўсіх старонках, і патанае ў агульным матэрыяле, не адкладваецца ў памяці. Відаць, было б няблага гэтыя лічбы паставіць асобна.

Па-другое. Захапленне «прыгожымі» словамі, упарты націск на «рамантычнасць» зацямняе канкрэтны сэнс з'явы, «заліхвацкая» рэпартажнасць збядняе некаторыя артыкулы, робіць іх лёгкаважкімі, павярхоўнымі, нават лёгкадумнымі («Дзень добры, зямля цалінная!», «У гросмайстраў тынкоўкі»). Няўдалай выглядае пабудаваная на пісьмах і замалёўка «Тыповы выпадак». Яе недахоп у спрошчаным вырашэнні важнай тэмы: выхаванне ў падлетка сур'ёзных адносін да жыцця.

І, нарэшце, апошняе. Пра камісараў (раённых і рэспубліканскіх). Напэўна, можна было сказаць пра іх нешта больш значнае, чым толькі засведчыць іх наяўнасць на студэнцкай планеце і ўкласці ў іх вусны сёе-тое даўно знаёмае і добра заштампаванае.

Увогуле, канечне, кнігу «Трэці семестр» прачытаюць з цікавасцю. Таму што ў ёй моцны і здаровы дух нашай моладзі, яе рамантычныя парывы, неадольная прага да пошукаў і адкрыццяў. І хоць часам гаворыцца ў кнізе пра гэта назойлівымі бюракратычнымі штампамі — сам дух, сам высакародны парыў моладзі — чысты, узнёслы, непаўторны. І ён выратоўвае кнігу.

Безумоўна і тое, што ў многіх, хто прачытае «Трэці семестр», узнікне жаданне паехаць на «планету цаліну», каб самім, як пісаў у заяве у свой час студэнт БДУ імя У. І. Леніна Уладзімір Гулевіч, «ва ўсім разабрацца».

**В. ПОЛЯК,**
**былы баец студэнцкага будаўнічага атрада «Узыход».**

---

Ул. Вялічка, М. Латыш, Ул. Унуковіч. Трэці семестр. Выдавецтва «Беларусь». Мінск, 1969.

## ПА МАРШРУТАХ СЛАВЫ

Летась выдавецтва «Беларусь» выпусціла ў свет даведнік «У памяці народнай», складзены вялікім калектывам аўтараў. Сцісла, але запамінальна, на багатым фактычным матэрыяле расказвалася ў ім аб месцах і помніках барацьбы за ўстанаўленне савецкай улады ў Беларусі, за гонар, свабоду і незалежнасць нашай Радзімы. Кніга з'явілася добрым дапаможнікам не толькі для шматтысячнай арміі турыстаў, якія штогод накіроўваюцца ў паходы па памятных мясцінах, але і для ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй роднага краю, яго гераічным мінулым, векапомнымі падзеямі, якія адбываліся ў рэспубліцы і якія складаюць гонар і славу нашага народа.

Сёлета гэтае ж выдавецтва зноў зрабіла добры падарунак аматарам падарожжаў — надрукавала яшчэ адзін даведнік-спадарожнік турыста «Дарогамі подзвігаў» — асобна па Мінскай вобласці. Аўтар яго — М. Андрушчанка — правёў вялікую даследчыцкую і збіральніцкую работу, сам абышоў і аб'ехаў усе памятныя мясціны Міншчыны і напісаў, адразу можам сказаць, вельмі патрэбную і цікавую кнігу.

Аўтар вядзе нас па пяці маршрутах Міншчыны — ад помніка да помніка, з раёна ў раён, з паселішча ў паселішча, па партызанскіх сцежках і дарогах — у лясы, на берагі рэк і азёр, на балотныя астравы, месцы партызанскіх штабаў і аэрадромаў, шпіталяў — нібы гартае разам з намі, узнаўляе старонкі гісторыі — яркія, хвалюючыя, незабыўныя, не толькі расказвае аб падзеях, але і паказвае іх, перажывае разам з намі, чытачамі і турыстамі.

У час Айчыннай вайны Міншчына была ядром усенароднай барацьбы з гітлераўскімі захопнікамі. На яе тэрыторыі дзейнічала 55 партызанскіх брыгад, 15 асобных атрадаў, сотні і тысячы груп падпольшчыкаў. Ніхто не забыты і нішто не забыта: подзвігі воінаў Савецкай Арміі, народных мсціўцаў, удзельнікаў рэвалюцыі і грамадзянскай вайны ўвекавечаны больш чым у 1200 помніках—скульптурах і скульптурных кампазіцыях, мемарыяльных комплексах, велічных курганах бессмяротнасці, абеліскаў і мемарыяльных дошках, мемарыяльных парках, скверах і алеях.

М. Андрушчанка заўсёды ўказвае, хто з удзельнікаў падзей жывы і можа дапоўніць тыя звесткі, што падае ён сам. Добрым словам успамінае аўтар настаўнікаў і вучняў, сельскіх інтэлігентаў, якія нястомна займаюцца пошукамі матэрыялаў. Гэта сіламі энтузіястаў-краязнаўцаў адкрыты на Міншчыне многія дзесяткі музеяў народнай славы на грамадскіх пачатках, куткоў і пакояў пры школах, клубах, бібліятэках. Зборы гэтых музеяў, шматлікія рэчавыя экспанаты таксама могуць у многім папоўніць расказ аўтара-экскурсавода.

Вельмі каштоўна, што М. Андрушчанка не забывае пра прыродныя помнікі, робіць экскурсы ў глыб стагоддзяў, напамінаючы, што рабілася на Міншчыне ў далёкія часы, чым славуты быў кожны яе куток у мінулым, характарызуе архітэктурныя помнікі, якія трапляюцца ў тым ці іншым маршруце. Усё гэта дапамагае бачыць і разумець гісторыю як непарыўны працэс развіцця грамадства, пераемнасць гераізму пакаленняў, якія змагаліся за здзяйсненне рэвалюцыйных і сацыялістычных ідэалаў.

Усе маршруты падарожжаў, распрацаваныя М. Андрушчанкам, разлічаны на некалькі дзён. Яны не падаюцца як канчатковыя, іх можна дапаўняць — у рэспубліцы ўвесь час адкрываюцца новыя помнікі. Маршруты можна змяняць, скарочваць у залежнасці ад таго, якія ёсць магчымасці для агляду. Дзякуй скажуць турысты М. Андрушчанку і за тое, што ён падказвае, чым лепш ехаць, дзе дабірацца машынаю, а дзе прайсці пешкі, дзе пераначаваць ці пакінуць аўтобус.

Якія ж у мяне прэтэнзіі да гэтай кніжкі?

Малы тыраж. Што значыць нейкія дзесяць тысяч экземпляраў, калі штогод у падарожжах па рэспубліцы ўдзельнічаюць сотні тысяч турыстаў!

Хацелася б таксама, каб аўтар даваў нейкую, хоць бы эмацыянальную ацэнку помнікаў, называў іх аўтараў. Аднолькавае месца ўдзяляе М. Андрушчанка, напрыклад, Хатынскаму мемарыялу, аўтары якога ўдастоены Ленінскай прэміі, і нейкаму тыражыраванаму помніку ў выглядзе «смуткуючай маці» ці «ўкленчанага салдата». Турыст-падарожнік едзе ці ідзе да помніка не толькі, каб сэрцам прычасціцца да вялікага і вечнага, аддаць даніну павагі і пашаны народным героям, але і каб агледзець сам помнік — твор манументальнага мастацтва.

**П. АНДРЭЕЎ.**

---

М. Андрушчанка. Дарогамі подзвігаў. На рускай мове. Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1970.

АКАДЭМІЧНЫ ТЭАТР ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ 50

Анатоль САБАЛЕЎСКІ

# ПЕРАД БЛІЗКІМ РАСТАННЕМ

*Я не раз пісаў пра Барыса Віктаравіча Платонава, пра яго акцёрскія вобразы. У апошнія гады яго жыцця мне даволі часта выпадала шчасце сустракацца з гэтым не толькі вялікім артыстам, а і выдатным, незабыўным чалавекам, гутарыць з ім, бачыць яго ў розных абставінах. Пра асобныя моманты жыцця Платонава, пра тое, што звычайна застаецца па-за артыкуламі, нават па-за кнігамі, мне і хочацца расказаць чытачам.*



**ФЕДЗЯ (Б. Платонаў). І вы, маючы кожнага дваццатага па дзве грыўні за мярзоту, лезеце ў мундзір і з лёгкім сэрцам глуміцеся з іх, з людзей, якіх вы мезенца не варты, якія вас да сябе і ў сенцы не ўпусцяць. Але ж вы дарваліся і рады...**

«Жывы труп», дзея VI.

У 1961 ГОДЗЕ Барыс Віктаравіч быў прызначаны мастацкім кіраўніком купалаўскага тэатра. Акцёр на чале калектыву... Гэта было не ўпершыню. Да Платонава кіраўнікамі тэатра ў розныя гады былі артысты Глеб Глебаў, Леанід Рахленка, які, праўда, шмат працаваў і ў якасці рэжысёра.

Што «дасталося» Платонаву тады? Становішча складанае. Пачынаўся вельмі балючы працэс змены пакаленняў. Справа ўскладнялася тым, што ў купалаўскім тэатры, як і ў некаторых іншых, не было моцнага сярэдняга пакалення. І яшчэ. Калі ў Беларусі, пачынаючы з 1945 года, выхоўвалі артыстаў у інстытуце, з выпускнікоў можна было выбіраць патрэбных выканаўцаў, то рэжысёраў ніхто не рыхтаваў. Купалаўскі тэатр заставаўся без сваіх пастаноўшчыкаў.

Праблемы акцёраў і рэжысуры, пытанні рэпертуарнай палітыкі, з якімі сутыкнуўся новы мастацкі кіраўнік, былі генеральнымі ў творчым жыцці тэатра. Аднак у яго была яшчэ і сталая праца — праца артыста, якой ён, як і раней, аддаваўся цалкам. У тым жа 1961 годзе Барыс Платонаў сыграў ролю Лявона Чмыха ў камедыі «Лявоніха на арбіце», сыграў бліскуча, з вялікім артыстызмам. Фактычна на Платонаве тады «трымаўся» спектакль.

Нараджаліся новыя задумы, новыя планы. Блізкія да артыста людзі не раз раілі яму сыграць ролю Федзі Пратасава ў «Жывым трупе». Ён, звычайна, пазбягаў гаварыць аб Пратасаве, маўляў, гэта роля не для яго — не той рост, не тая знешняя фактура. Да таго ж у многіх жылі ў памяці вобразы Федзі, увасобленыя Іванам Бярсеневым, Міхаілам Раманавым, Мікалаем Сіманавым.

Але, як выявілася пазней, аб «Жывым трупе» артыст марыў даўно. Нікому ён не асмельваўся гаварыць пра гэтую сваю мару — яна здавалася яму нязбыўнай. Да таго ж, у калектыве на той час не было каму ставіць «Жывы труп». На пастаноўку запрасілі цікавага рэжысёра Іосіфа Папова. Той, прыступіўшы да работы, спрабаваў павесці ўдзельнікаў спектакля сваім шляхам да ўвасаблення п'есы. Платонаў, адчак, не прыняў яго трактоўку ролі галоўнага героя, як і ўсяго твора ў цэлым. Гэта здавалася вельмі дзіўным, зусім на яго не падобным. Платонаў умеў уважліва слухаць не толькі кожнага рэжысёра, з якім ён працаваў, але і ўсіх, хто рабіў яму заўвагі, — людзей тэатральных і зусім нетэатральных. Гэта не азначала, што ён пакорліва рабіў усё, што яму прапаноўвалі. Толькі ніводнай парады не пакідаў без увагі.

На гэты раз у Платонава яшчэ да рэпетыцый быў ва ўсім прадуманы вобраз, больш таго — выпакутаваны акцёрам за доўгія гады. І Папоў зразумеў, што задума Платонава глыбейшая, больш цікавая, чым ягоная. І рэжысёр прыняў трактоўку Платонава, а ў працэсе работы раіўся з ім.

Праўда, многія рэпетыцыі праводзіліся без Платонава. Неўзабаве пасля іх пачатку артыст едзе ў Маскву на XXII з'езд Камуністычнай партыі. Вярнуўшыся са з'езда, Платонаў выступае перад працоўнымі рэспублікі, растлумачвае і прапагандуе яго гістарычныя рашэнні. Потым зноў на працяглы час едзе ў Маскву — для ўдзелу ў рабоце Камітэта па Ленінскіх прэміях, членам якога ён быў амаль да канца свайго жыцця. Рэпетыцыі ж не спыняліся і праводзіліся без выканаўцы галоўнай ролі.

Аднак і ў гэты час Платонаў напружана працуе над вобразам, у вольныя хвіліны жыве жыццём свайго героя.

Неяк перад здачай спектакля я зайшоў да Барыса Віктаравіча. Размова наша хутка пераключылася на «Жывы труп», на вобраз Федзі Пратасава. Акцёр пачаў расказваць пра біяграфію героя, пра яго цяжкае, шматпакутнае жыццё. І раптам вочы Платонава засвяціліся зусім іншым, дзіўосным святлом. Па твары пацяклі буйныя слёзы. Слёзы Федзі Пратасава. І сам акцёр увесь неяк запалымнеў. Платонаў не іграў ролю, ён жыў жыццём свайго Пратасава, думаў яго думкамі, хваляваўся яго хвалязаннямі, нароўну дзяліў з ім яго гора. А гэта патрабавала агромністых душэўных і фізічных сіл, агромністай самааддачы. І падумалася тады: божа мой, як ён траціць сябе — не толькі на рэпетыцыях, але і цяпер, дома. Гэта ж так лёгка і згарэць. А артыст, мабыць, нават і не ўмеў берагчы свае сілы...

Прэм'ера «Жывога трупа» назначалася на 27 снежня 1961 года. Часу на падрыхтоўку спектакля яўна не хапала. Платонаў мог, вядома, папрасіць яшчэ хоць некалькі дзён для рэпетыцый, мог нават сам іх узяць — ён жа быў мастацкім кіраўніком тэатра. Але артыст гэтага не зрабіў. Не зрабіў ніхто і іншы.

Здаваць спектакль, такім чынам, выпадала 26-га. І тут Платонаў прапанаваў перанесці здачу на заўтра, на 27-е. Маўляў, дваццаць шостае чысло — гэта два чортавы тузіны. Жыве ж у душы акцёраў нейкая таямнічая загадка, заўсёдная трапяткая няўпэўненасць — пашанцуе ці не пашанцуе? Напрыклад, перш, чым, адкрыць Маскоўскі Мастацкі тэатр, адзін з яго кіраўнікоў Уладзімір Іванавіч Неміровіч-Данчанка ездзіў... варажыць да цыганкі. І тэатр адкрыўся ў той дзень, у які вываражыла тая цыганка. Ніхто ж тады не ведаў, не быў упэўнены, што так шчасліва пойдуць справы.

...27-га снежня. Два спектаклі ў адзін дзень! Нагрузка, асабліва для выканаўцы ролі Федзі Пратасава, надзвычай вялікая. Днём на здачы, пры перапоўненай зале, Платонаў іграў з найвялікшым натхненнем. Вечарам, на прэм'еры спектакля, адчувалася ўжо пэўная стомленасць — з той душэўнай самааддачай іграць было, мабыць, немагчыма. Тым не менш, і цяпер Платонаў меў надзвычай вялікі поспех.

Здавалася, спектакль «Жывы труп» зажыве доўгім, слаўным жыццём, а натхнёная ігра Платонава будзе хваляваць, узрушаць усё новых і новых гледачоў — у шэрагу выдатных сцэнічных вобразаў Федзі Пратасава платонаўскі, думалася мне, атрымаўся адным з найбольш яркіх і глыбокіх. Але надзеі не спраўдзіліся.

«Жывы труп» тэатр аб'явіў і ў адзін з наступных дзён. Гледачы сабраліся на спектакль, але ён не адбыўся. Перад самым яго пачаткам Платонава, ужо загрыміраванага, забрала хуткая дапамога.

Інфаркт. Трэці па ліку...

Папраўляўся артыст вельмі паволі. А ў гэты час Платонава за выкананне роляў Федзі Пратасава і Лявона Чмыха вылучылі на Ленінскую прэмію. З «Лявоніхай на арбіце» справы былі лепшыя — яшчэ да хваробы артыста купалаўцы ігралі гэты спектакль на сцэне Крамлёўскага тэатра, многія бачылі яго работу. А вось як быць з «Жывым трупам», яго ж вельмі нямногія бачылі і ў Мінску? З Масквы тэлефанавалі, што прышлюць камісію для прагляду ў любы час, як толькі Платонаў здолее іграць. Няхай ён выступіць хоць у асобных урыўках з «Жывога трупа».

Дактары ж катэгарычна забаранілі Платонаву выходзіць на сцэну. Разгляд яго работ на атрыманне Ленінскай прэміі быў перанесены на наступны год. Але акцёр не здолеў больш выступіць у ролі Федзі Пратасава. Толькі праз некаторы час, калі пра Платонава здымаўся дакументальны фільм, акцёр сыграў перад камерай сцэну ў тракціры, самую натхнёную ў спектаклі. Праўда, на экране яна паказвалася са значнымі купюрамі, ды і ў кінематографе, як гэта вельмі часта здараецца, яна атрымалася ўсяго толькі бляклай копіяй з арыгінала...

У АПОШНІЯ гады Барыс Платонаў, бадай, яшчэ больш, чым раней, любіў хадзіць у лес, на луг, заставацца сам-насам з прыродай. Асабліва запаў у памяць адзін эпізод, магчыма, самы звычайны. Мяккі сонечны дзень жніўня. Сасновы бор. Сонца яснае, але ўжо не гарачае. У прыродзе ціха дагараюць фарбы лета. Ля самай дарогі, побач з высокімі стромкімі соснамі, якія ўжо зрэдку абтрасаюць пажоўклыя шыпулькі — Барыс Віктаравіч Платонаў з маладым, пругкім чарнагаловым баравіком у руцэ. Стаіць, засяроджана пра нешта думае. А наўкол — здзіўляючы спакой, нібы прырода стварыла поўную раўнавагу паміж маладосцю і старасцю...

Артыст перасіліў, перамог цяжкую хваробу.

І зноў вярнуўся ў родны тэатр. Дактары забаранілі яму выступаць на сцэне — сэрца можа здрадзіць у любы час. Але ў Платонава, мастацкага кіраўніка калектыву, і так работы было шмат. І ён зноў поўнасцю аддаўся вірліваму жыццю тэатра, ад ранку да вечара яго не пакідалі розныя бягучыя, неадкладныя справы. Зноў рэпертуар, правільная, разумная расстаноўка і выкарыстанне творчых сіл, лёс акцёраў маладога пакалення і пакалення старэйшага. І мноства іншых пытанняў і праблем, самых розных, часам вельмі нечаканых, вялікіх і малых.

Яго па-ранейшаму цягнула, клікала сцэна. І, нягледзячы на парады і патрабаванні дактароў, акцёр выступіў у спектаклі. Зноў ён сустрэўся з роляю Эзопа ў «Лісе і вінаградзе», якую ўпершыню сыграў у 1957 годзе. Цяпер гэта быў і мінулы вобраз, і вобраз шмат у чым новы, пераасэнсаваны. Не было бурнага выбуху страсцей, адкрытага ўсплёску тэмпераменту — цяпер ужо іграць ролю Эзопа так, як раней, для Платонава было вельмі небяспечна. І яго герой атрымаўся знешне больш стрымачым і спакойным. У платонаўскага Эзопа з'явілася нейкая прасветленая мудрасць. Вочы яго, нібы глыбокія крыніцы, крыштальна чыстыя, нічым незамутненыя, свяціліся і прамяніліся розумам. У іх былі боль і сум па волі, па сапраўдным чалавечым жыцці.

На шляху Платонава ўставалі новыя вобразы. Рэжысёр Барыс Эрын, які рыхтаваўся да пастаноўкі п'есы «У мяцеліцу», меркаваў у сваім спектаклі заняць амаль усіх выдатных артыстаў старэйшага пакалення. Ён разлічваў на ўдзел у спектаклі і Платонава, меркаваў даручыць яму ролю Парфірыя.

Не ўсе акцёры старэйшага пакалення па стане здароўя здолелі прыняць удзел у пастаноўцы «У мяцеліцу» — аб'яднаць у спектаклі ўсе лепшыя сілы тэатра Эрыну так і не ўдалося. Не выступілі Павел Малчанаў, Глеб Глебаў. Платонаву таксама давялося адмовіцца ад ролі Парфірыя. Яна, на першы погляд, зусім лёгкая — уся роля складаецца з аднаго-адзінага слова. Але разам з тым на вобраз Парфірыя прыпадае вельмі вялікая нагрузка, увасабляць яго незвычайна цяжка. Тым больш, што здароўе артыста зноў пахіснулася — частыя сардэчныя прыступы не давалі спакою.

БАРЫС ПЛАТОНАЎ наогул вымушаны быў пакінуць тэатр. Але сядзець без працы гэты чалавек не мог. Яму прапанавалі загадваць кафедрай майстэрства акцёра ў Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце, і Платонаў згадзіўся.

Да яго адразу ж пачалі звяртацца не толькі педагогі са сваімі праблемамі, да яго пайшлі па справах прыбіральшчыцы, іншы абслугоўваючы персанал інстытута. Такі быў Платонаў, ён неяк умеў адразу ж аб'ядноўваць вакол сябе людзей, умеў быць душой калектыву, і не ісці да яго, мабыць, было вельмі цяжка, амаль немагчыма.

А ў гэты час купалаўцы аднаўлялі класічны спектакль «Хто смяецца апошнім». Многія ролі, у тым ліку і Зёлкіна, у якой доўгія гады захапляў гледачоў Платонаў, былі даручаны іншым, больш маладым артыстам. Але здарылася так, што новы выканаўца Зёлкіна Генадзь Гарбук напярэдадні выпуска спектакля цяжка захварэў. «Выручаць» папрасілі Платонава, і ён з двух рэпетыцый лёгка «ўвайшоў» у спектакль. Іграў бліскуча, з тонкім артыстызмам. Выступаў да таго часу, пакуль не стаў у строй другі выканаўца.

Праз некалькі гадоў яшчэ раз было суджана Платонаву сустрэцца на сцэне з Зёлкіным. 5 сакавіка 1966 года ў памяшканні тэатра грамадскасць рэспублікі ўшаноўвала народнага пісьменніка Беларусі Кандрата Крапіву з нагоды яго сямідзесяцігоддзя. У гэты вечар ішла яго камедыя «Хто смяецца апошнім». У спектаклі бралі ўдзел лепшыя сілы тэатра. Глебаў іграў сваю каронную ролю Тулягі, і, дарэчы, выконваў яе ў апошні раз, ужо цяжка хворым. Платонаў зноў выступіў у вобразе Зёлкіна. Гэты вобраз — не галоўны ў камедыі, але па майстэрстве, па нейкім асаблівым артыстычным бляску Платонаў выйшаў на першы план.

Мне было даручана пісаць у газету справаздачу аб яго выступленні — творчасць Платонава, асабліва ў апошнія гады, выклікала, зразумела, павышаную цікавасць чытачоў. Тым больш, што ён нешта каля трох гадоў ужо не выступаў на сцэне. Я разам з фотакарэспандэнтам зайшоў у антракце ў грымёрную артыста — трэба было зняць яго ў ролі. Платонаў быў узбуджаны, у вельмі прыўзнятым настроі. Ён нібы ўвесь свяціўся ад радасці, што зноў на сцэне, што зноў дыхае паветрам тэатра.

— Які вы хочаце эпізод? Калі ласка: Зёлкін падслухоўвае, пляткарыць, падхалімнічае, злуецца, абураецца. Зёлкін важны, ваяўнічы, надуты, напалоханы...

Артыст ледзьве паспяваў вымаўляць адно слова, і тут жа, у гэтую хвіліну, прымаў новую позу, поўнасцю мяняўся позірк, выраз твару. Абсалютна мяняўся ўвесь воблік Зёлкіна. Трансфармацыя была поўнай, прытым імгненнай. Гэта было цуда акцёрскай тэхнікі, найвялікшага майстэрства. Фотаапарат бяссільны перадаць сам працэс маланкавага пераўвасаблення артыста. Калі б быў у гэтыя хвіліны кінаапарат, магчыма, ён бы хоць у нейкай ступені здолеў зафіксаваць для новых пакаленняў той цуд...

Прайшло яшчэ некалькі месяцаў — і Барыс Віктаравіч зусім змяніўся. Раней у яго была паходка лёгкая, менавіта артыстычная, жэст — дакладны, вельмі выразны, энергічны. Цяпер яго жэсты сталі як бы запаволенымі, пацяжэла хада, спадарожнікам стаў кій. Пасерабрыліся, пабялелі чорныя валасы, твар папаласавалі глыбокія маршчыны. Старасць прыйшла хутка і нечакана рана — было толькі шэсцьдзесят тры гады. Але ўжо дагаралі апошнія сілы.

Аднак Платонаў не здаваўся, па-ранейшаму працаваў шмат і з вялікай аддачай. Калі летам 1966 года набіралі курс акцёраў у інстытут, меркавалася, што яго будзе весці Глеб Паўлавіч Глебаў. Але пачаліся заняткі, а ён не здолеў прыступіць да працы. А скора стала вядома, што ён ужо ўвогуле не здолее працаваць. Весці курс узяўся Платонаў.

А тут купалаўцы вырашылі да пяцідзесяцігоддзя Кастрычніка зноў паставіць «Канстанціна Заслонава» ў новай аўтарскай рэдакцыі. І Платонава разам з Ірынай Ждановіч, якая раней у гэтай п'есе не толькі іграла ролю, а і выступала асістэнтам рэжысёра Канстанціна Саннікава, і маладым пастаноўшчыкам Барысам Ганагам запрасілі рыхтаваць новы спектакль. Трэба было перадаваць свой вопыт моладзі, і артыст зноў вярнуўся ў тэатр. Хто ж знаў Заслонава лепш, чым Платонаў, які ў мінулыя гады ў поўным сэнсе слова выдатна іграў гэтую ролю? Але дзе ўзяць сілы?..

Платонаў сустракаў новы 1967 год. Ён устанавіў у інстытуце звычай, што ўсе святы педагогі і студэнты святкуюць разам. І сам ён заўсёды бываў сярод студэнцкай моладзі. На гэты раз ён не падпарадкаваўся гэтаму правілу, застаўся дома, сярод сям'і і нешматлікіх гасцей. За святочным сталом, між іншым, быў і Мікалай Яроменка, адзін з выканаўцаў ролі Заслонава. Платонаў рэпеціраваў гэтую ролю з двума акцёрамі — Віктарам Тарасавым і Яроменкам. Спачатку да Яроменкі ён ставіўся насцярожана, не вельмі верыў у яго поспех. Маўляў, акцёр ён нейкі надта скаваны і ці ўдасца дабіцца ад яго свабоды дзеяння на сцэне. Але потым, напэўна, прыгадаў, што і сам ён у маладосці доўга адчуваў сябе на падмостках скавана. І з асаблівай упартасцю працаваў з Яроменкам, дасягаючы лепшых вынікаў. У апошні час ён быў асабліва ім задаволены, поўнасцю паверыў у яго поспех, хоць давесці да канца працу над вобразам Платонаў не паспеў...

Калі крамлёўскія куранты пачалі бой, усе, хто сядзеў за сталом, усталі, самкнулі бакалы. І штосьці здарылася з тэлевізарам. Барыс Віктаравіч пайшоў яго наладжваць. І ў тое імгненне, калі толькі-толькі пачынаўся Новы год, Платонаў аказаўся адзін, воддаль ад цеснай шумлівай групы.

Мабыць, Платонаў і сам адчуў усю трагічнасць гэтай мізансцэны, і каб згладзіць уражанне, кінуў:

— Я з вамі сімвалічна...

Праз нейкую адну-дзве хвіліны зазваніў тэлефон. З Новым годам віншаваў Здзіслаў Стома. Потым тэлефон не змаўкаў некалькі гадзін. Платонаў падыходзіў па чарзе са сваёй жонкай Ірынай Фларыянаўнай Ждановіч — аднаму проста было цяжка «справіцца». А ўсе, хто званілі, жадалі яму моцнага здароўя, доўгіх-доўгіх гадоў жыцця...

15 лютага 1967 года Барыса Віктаравіча Платонава не стала. Усе разумелі, што ён можа памерці ў любы час, і тым не менш смерць падкралася вельмі нечакана.

Напярэдадні ў Платонава была доўгая, цяжкая рэпетыцыя ў тэатры. Пасля яе, назаўтра, ён прыйшоў у інстытут на заняткі. Урок са студэнтамі правёў, але падняцца з крэсла не здолеў. Рухам рукі ён яшчэ паказаў свайму асістэнту Яраславу Громаву на кішэню, дзе было лякарства, аднак выратаваць яго ўжо не ўдалося. Ён памёр, як баец, на сваім пасту, усяго сябе, да апошняга дыхання, аддаўшы тэатру, людзям.

А тыя, схіліўшы галовы, бясконцым патокам ішлі і ішлі, каб у апошні раз пабачыць Платонава. Беларусь развітвалася са сваім вялікім сынам.

СОРАК ПЯЦЬ гадоў жылі на сцэне платонаўскія героі. Яны жывуць і сёння, будуць жыць і заўтра — вялікае мастацтва бессмяротнае. Яно натхняе людзей, дае ім новыя сілы, кліча на новыя здзяйсненні.

Адзін з артыкулаў, які напісаў Платонаў, заканчваўся словамі: «Наперад! Толькі наперад!» Сёння да такіх слоў хочацца дадаць — да платонаўскіх вяршынь. Менавіта да гэтага заклікае вялікі артыст Беларусі Барыс Віктаравіч Платонаў.



Цёплым жнівеньскім днём...

Фотаэцюд М. АМЕЛЬЧАНКІ.

# Паэтычная паверка

## Генадзь КЛЯЎКО



### ХАТЫНСКІЯ ДЗЕЦІ

— Чаму не паліцца ў печы?
Прастыла — як лёд чарэнь.
Накрыйце нам коўдрай плечы —
Агонь нас зусім не сагрэў...

— Гуляе вецер па хаце,
Цярушыцца дождж праз столь.
Дзе ўрач у белым халаце?
Агонь не суцішыў наш боль...

— Няма ані сцен, ні вокан,
Па хаце пасвіцца конь...
А цёмна чаму навокал,
Хоць гэтак шугае агонь?..

...Чытаю імёны, даты.
Па колечкі ж ім гадоў!..
Здалося, іх вачаняты
Выглядваюць з-за каміноў.

### ЗАХАД

Была ў цёткі Зосі хата
Вокнамі ўся к усходу...
І толькі адно акенца
Сумна глядзела на захад.

Была ў цёткі Зосі радасць —
Саша, сын паслухмяны,
У пятнаццаць гадоў быў рослы —
Не па гадах мужчына.

Вясною ў сорак чацвёртым
Праз вёску ў імклівым маршы
Ішлі нашы часці на захад
І Сашу з сабой забралі.

. . . . . . . . .

Увечары цётка Зося
Садзілася ля акенца,
Глядзела на захад ружовы —
Там закацілася сонца...

### ХЛЕБ

Вялікія вочы — па бохану
У людзей галодных,
Асабліва ў дзяцей, якім
Не зразумець ніколі:
«Трэба араць», «Трэба сеяць».
А чым араць?! А чым сеяць?!
Яны толькі ведаюць хлеб
Як смачны вялізны бохан.
Яны толькі ведаюць нож,
Якім крояць хлеб,
Яны першабытна чуюць
Пах аржанога хлеба,
Ён кружыць ім галаву,
Схапіць яны хлеб гатовы,
Калі нават сказаць ім,
Што ён замініраваны, —
Яны не вераць вачам,
Яны толькі чуюць пах
Хлеба...

У тыя гады галодныя
Мы нават на маладзік глядзелі,
Як на надкусаны бохан.

І раптам па вёсцы чутка:
Зіна, наша суседка,
Вучыцца едзе на пекара!
Адразу для нас яна стала
Загадкаю асобай,
Не нашаю, не вясковай,
А ўсявышняй уладай надзеленай.
Хоць разам па загароддзях
Збіралі мы лебяду.
І ўжо яна ў нашых думках
Не ў вёсцы жыла, не з намі,
А недзе далёка-далёка,
У казачным нейкім палацы,
Дзе белыя, белыя сцены,
З самых бялюткіх булак.
І Зіна — у гэтых сценах.
Відаць толькі ўсюды
Шчаслівыя Зініны вочы.

Я ехаў нядаўна ў трамваі.
Разгаварыліся дзве дзяўчыны:
— Дзе ты працуеш?
— На хлебазаводзе.
— Падабаецца хлеб пячы?
— Ат, няхай яго ліха...

●

Ніколі не папракнула хлебам
Цяжарная вечна зямля.
Рукі дрэў працягнула з пладамі:
— Спажывай, дарагі чалавек!
Мне тваё не патрэбны магілы,
Я без іх прыгажэй, весялей,
Я і так праліла ўжо моўчкі
Акіяны салёных слёз...

## Уладзімір ФАМІН



### НА АСУАНЕ

Ільвіцаю пустыня агрызалася,
Яна здавацца не хацела,
Не!
Усё вышэй
плаціна ўзнімалася,
Тут бой ішоў на смерць,
Як на вайне.
Гула, расла
Будоўля асуанская.
Плаціну прасавалі
трактары,
І самазвалы
з беларускай маркаю
Натужвалі
сталёвыя хрыбты.
За дзень шафёры
соллю пакрываліся,
Спякота данімала,
бы ў катле.
Але Ахмед з Міколам
не здаваліся,
Круцілі абаранкі
усё злей.
Яны часамі
з ліку дзён збіваліся,
З «БелАЗаў» выціскалі,
што маглі,
І волаты сталёвыя,
здавалася,
Як зубры белавежскія,
раўлі.

### РАБІНА

Агніста-рыжаю лісіцай
На ўзлесак выбегла яна.
Здаецца, кволая баіцца
Ступіць
у золкасць тумана.
І ў гэткай,
у гарэзнай позе
Прабудзе аж да маразоў.
Пад Новы год
яна запросіць
У госці
жвавых снегіроў.



«Матроскі танец» выконваюць трактаразаводцы.

Фота А. ЗУТЭЛЬМАНА.

З пошты ЛіМа

## КУЛЬГАВЫЯ ПАШТАВІКІ

Ужо шмат гадоў з'яўляюся я пастаянным падпісчыкам і чытачом газеты «Літаратура і мастацтва». Да гэтага года газета ішла больш-менш нармальна. Я яе атрымліваў так, як і іншыя газеты, гэта значыць, у дзень выхаду ў свет.

У апошні час «Літаратура і мастацтва» пачала прыходзіць у суботу або ў нядзелю. Аднойчы яна прыйшла ў нядзелю. Я адразу наведаў раённы вузел сувязі. Там паглядзелі на мяне крыва, пачалі звальваць віну на паштальёна. Але яна была не вінавата, бо ў аддзяленне сувязі газета таксама не паступала. І нарэшце заявілі: «Даведаемся». Што яны выявілі, невядома, бо мне пра гэта ніхто не паведамляў.

Падобнае здарылася і з нумарам за 7 жніўня. «Літаратуру і мастацтва» мне не даставілі нават у аўторак 11 жніўня 1970 года. Астатнія ж гарадскія падпісчыкі газету за 7 жніўня атрымалі.

У Слонімскім раёне на сённяшні дзень выпісваюць усяго толькі 65 экземпляраў «ЛіМа». На 6-е гарадское аддзяленне сувязі прыходзіцца два экземпляры. Як бачым, газету можна заўсёды дастаўляць падпісчыкам у дзень яе выхаду, гэта значыць, кожную пятніцу. Чаму так не робяць, сказаць не магу.

Часопісы «Полымя» і «Журналіст» я таксама заўсёды атрымліваю на адзін або два дні пазней, чым некаторыя іншыя падпісчыкі. А пра беластоцкую «Ніву» і казаць не варта: калі хочуць, тады і прыносяць, або і зусім не ўручаюць, як гэта было з нумарамі за 1 студзеня і 19 красавіка 1970 года.

Дык я зараз і думаю: няўжо мне адмаўляцца ад падпіскі на «Літаратуру і мастацтва»? А можа ўсё-такі лепш, каб прымусілі паштавікоў сумленна адносіцца да сваіх абавязкаў?

І. МІСКО.

г. Слонім.



Віктар КАРАМАЗАЎ,

спец. кар. «Літаратуры і мастацтва»

# А ПЕСНЯ ЖЫВЕ

МНОГАЕ з таго канцэрта забылася. Засталася ў памяці бабуля. Простая, па-хатняму апранутая, зграбная ў рухах, сівенькая, як амаль усе нашы старыя маці. Ціха пратупала па сцэне сталічнага тэатра, быццам дома па падлозе, паставіла ў куце крэселка, даланёй змахнула з яго нейкую тэатральную пылінку, і села, паклала на калені скрыпачку, няспешкі, як дома, пачала наладжваць. А потым зайграла і заспявала:

Захацела мяне маць
За гусарыка аддаць.
Я гусара не люблю,
За гусара не пайду.

І тут жа на сцэну, на падмогу старой вясёлай скрыпачцы, выплыў карагод. Яго вёў мужчына—высокі, паблазенску зухаваты, а за ім, драбнейшым крокам, што гусачкі,—вясковыя кабеты: у вышываных андараках, фартухах, кофтах, квяцістых паясах і... лапцях.

Гусарыку, гой-гой,
Гусарыку маладой. —

падхапіў карагод, мякка прытанцоўваючы.

І вось... Ну і ну!.. Некаму не спадабаліся бабульчыны лапці. Было клопату і журы, і бабулям—хацелі перабуваць карагод у чаравікі, перш чым выпусціць на заключны канцэрт...

Улеглася. Пусцілі самабытны калектыў з вёскі Харошкі Магілёўскага раёна і на заключны канцэрт рэспубліканскага агляду мастацкай самадзейнасці. Зразумелі-такі, што і бабчын карагод, і лапці іхнія, андаракі і паясы, усё гэта—этнаграфічнае мінулае народа, гісторыя яго несмяротнай культуры і побыту, а таму мае поўнае права на сцэну і сустрэчу з намі.

Мінула тры гады. Зноў адбыўся рэспубліканскі агляд мастацкай самадзейнасці. Ды харошкаўскага калектыву мы не ўбачылі ўжо ні на сталічнай сцэне, ні на заключным абласным канцэрце. Куды ж падзеўся калектыў?

У Магілёве сказалі, нібыта ў старой скрыпачкі пабілася скрыпачка...

А вось і сцежка ў Харошкі. З работнікам мясцовага сельсавета Уладзімірам Куранковым мы спусціліся з гары ў Сухарах, па кладцы перайшлі рачулку і падаліся на далёкія хаты.

Злева палавела жыта, а справа, у нізовіне, абапал рачулкі шархалі косы, ад коп сена плыў духмяны водар. Жаўранак ліў сваю паднябесную радасць, неўпрыкмет падлятаючы ўсё ўперад і вышэй — нібы ўзбіраўся на нябачную горку. Змогся. Як налітым цяжарам, знічкай шыбануў у жыта. А песня засталася! Недзе паблізу яе падхапіў і трымаў у дзюбе другі жаўранак. І так—бясконца, па ўсёй дарозе. Спрадвечная песня прыроды не змаўкала, бо сама прырода паклапацілася, каб утрымаць яе над прасёлкамі, жытам і сенажацямі. Зноў успомніліся «Гусарыкі». Так, у іх была гэткая ж натуральнасць, бессмяротны, задушэўны голас чалавечай прыроды, душы беларуса.

Так. У харошкаўскіх карагодаў даўняя традыцыя. Здаўна, у сваёй харэаграфічнай і моўнай красе, жылі тут «Гусарыкі» і «Юрачка», ніхто не вымерыць век мясцовага «Чыжыка» ці «Падушачкі». А колькі на памяці ў старэйшых людзей песень бяседных—«Не была я ў мамкі чатыры гадочкі», «Коціцца, коціцца зорка па небе...» Хораша спявалі і заручыны, і вяселлі, і каляды.

— На тым тыдні з Мінска прыязджалі нашы песні запісваць. Дык іхні, як яго... магнітафон гэты, ахрып быў...

Гаспадыня хаты, Ефрасіння Васільеўна Міхайлава, запрашае нас з Уладзімірам за вялікі стол на верандзе, выносіць сюды скрыпачку. Паклаўшы яе на калені, як тады, на сцэне, пачынае настройваць. Тут жа расказвае, што і сын яе іграе, а калісьці іграў бацька, дзед—ёй самой ужо, аказваецца, каля васьмідзесяці,—што дзве струны ў яе аднолькавыя, бо не падбярэ такіх, каб пад нораў, а іграць хочацца.

Нарэшце—і пра сваю крыўду:

— Да заключнага канцэрта ў Магілёве дайшлі, а нам і кажуць: хочаце выступайце, хочаце—не. Усё адно ў Мінск не павязём. Ну, мы і не выступалі. Расхваляваліся.

Васіліса Герасімаўна Шапачкіна, другая харошкаўская спявачка, махае рукою:

— Сказалі схаваць сваё мастацтва, маладым дарогу саступіць.

І Хадора Паўлаўна Шашкова тое ж:

— Як так да цябе абзываюцца, дык адкуль, чалавеча, ахвота выступаць будзе?

Як я шкадаваў, што не ўдалося пабачыць загадчыка клуба Івана Талкачова,—не было ў вёсцы... Але мне расказвалі, як любіць ён мясцовыя песні, які добры гэта арганізатар мастацкай самадзейнасці. Апошні час быццам падмянілі чалавека. Нават адмовіўся выступаць са сваім карагодам у саўгасе «Вейна», хоць і рабочыя саўгаса прасілі, і самі жанчыны хацелі ехаць.

Талкачова можна зразумець. Гэта ж ён сабраў некалі харошкаўскіх танцораў і спевакоў, іх песні, карагоды, андаракі і паясы, давёў да вялікай сцэны. Яму мы абавязаны, што дазналіся людзі пра харошкаўскае мастацтва і ў Мінску, і па ўсёй Беларусі. Дык хіба ж яму не баліць: чаму харошкаўскія карагоды павінны канчаткова саступіць месца сучаснай песні, сцэнічнаму танцу, чаму яны не могуць суіснаваць на адной сцэне, паказваючы самадзейнае мастацтва народа глыбока, у яго гістарычным развіцці і своеасаблівасці?

Дарэчы, тут паўстае праблема заўчаснага скарачэння веку некаторых цудоўных самадзейных калектываў.

У тым жа Магілёўскім раёне ёсць вялікая вёска Княжыцы. Мясцовыя настаўнікі напісалі гісторыю вёскі. Калі чытаеш яе, увагу звяртаеш не толькі на багатае паслярэвалюцыйнае мінулае вёскі, яе мірную і ваенную героіку, яе патрыётаў, але і на тую настойлівасць, з якой тут будавалася сацыялістычная культура. Да рэвалюцыі невялічкаму народнаму вучылішчу процістаялі дзве царквы, яўрэйская малітоўная школа, царкоўна-прыхадская школа, вінная і піўная лаўкі. З гэтага несусветнага дурману трэба было вырваць моладзь. І не выпадкова гісторыя Княжыц пакінула нам знамянальны дакумент:

«Тав. Чарвякоў, вельмі прасіла б Вас пасадзейнічаць стварэнню школы сялянскай моладзі ў в. Княжыцы. Самае галоўнае—там будзе ініцыятыва і клопат, а справа можа пайсці. Вельмі было б патрэбна.

З тав. прывітаннем Н. Крупская».

Школа была створана. Яна зрабіла многае для выхавання новага чалавека ў Княжыцах. Тут вучыліся Герой Савецкага Саюза Ціхан Бумажкоў, былы міністр асветы БССР Іван Ільюшын, многія выдатныя вучоныя, ваеначальнікі, дзеячы мастацтва. Хадайніцтва Н. К. Крупскай было клопатам аб духоўным, культурным развіцці Княжыц. Не выпадкова адначасова з адкрыццём школы тут ствараецца і вялікі хор—як яшчэ адна школа выхавання чалавека, фарміравання яго душы, густу.

— Пелі без музыкі,—прыгадвае старэйшая харыстка Надзея Фёдараўна Ліхунова. — І рэвалюцыйныя песні, і свае, народныя. Самі сачынялі. Бывала, спеўкі не дачакаешся. З работы прыбяжыш дамоў, рукі паспееш памыць, а бульбіну з'есці ўжо некалі—ляціш у клуб. Выступалі па калгасах, тэатрах. Перад вайной у Маскву хатулі збіралі...

Шчырая праўда... Ужо немцы бамбілі Мінск, а ў Княжыцах ішлі спеўкі: хор рыхтаваўся да выступленняў у Маскве на ўсесаюзным свяце мастацкай самадзейнасці. Не пусціла вайна.

Ужо ў сорак пятым, цераз год пасля вызвалення з-пад немцаў, княжыцкіх спевакоў запрашалі ў Мінск. Выступалі яны тут і пасля. Тры разы, прымаючы ўдзел у рэспубліканскіх аглядах мастацкай самадзейнасці, даходзілі да заключных канцэртаў на сталічнай сцэне. Моцныя прыгожыя галасы Захара Голубева, Арыны Баравіковай, Надзеі Ліхуновай, Міколы Зайцава, Надзеі Савіцкай, Ганны Камаровай чаравалі вядомых спецыялістаў. Сюды, у Княжыцы, прыязджалі Рыгор Шырма, Дзмітрый Лукас, іншыя дзеячы нашага музычнага свету.

— Раней нашым хорам кіраваў свой чалавек — Савініч Васіль Фёдаравіч.—Маста-а-ак на песні...—расказвае Ліхунова.—Пелі, што спрадвек на душы, кожненькі вечар. Пелі—як радаваліся, як дыхалі. А цяпер... Прыязджалі з Магілёва людзі... І талковыя, і разумныя, не скажу. Але песні інакшыя, і збіраюць як для таго, каб нейкі загад адбыць. А як дойдзе, каб на агляд выцягнуць,—стоп! Няма таго хору, што быў...

Гэта—праўда. Прыгадаем абласныя і рэспубліканскія агляды мастацкай самадзейнасці. Справаздачы, выступленні ў друку, прамовы. Ніколі не забываем сказаць-пахваліцца, колькі новых мастацкіх калектываў створана «ў працэсе падрыхтоўкі да юбілею», як «ірванула» наперад самадзейнасць. І ўсё—фармальнасць. Ніхто і слоўцам не абмовіўся — а колькі ж калектываў за гэты час распалася, па чыёй віне? Калі не распалася, дык чаму страціла сваё арыгінальнае мастацкае аблічча, манеру выканання, традыцыі, духоўную напоўненасць? Ці ўстрывожыўся гэтым хто ў дамах народнай творчасці, сярод кіруючых работнікаў нашай культуры? Ды хіба не ведаць, што калектыў, створаны за месяц да юбілею, для святкавання юбілейных урачыстасцей,—гэта яшчэ кот у мяху і невядома, ці выжыве (паспех—курам на смех). А вось калектыў, які дзесяткамі гадоў з народных глыбінь збіраў свой рэпертуар, знайшоў сваё аблічча, свае традыцыі, усмактаў усе сокі і водар родных палёў,—такі ка-

Аляксей СЛЕСАРЭНКА

# ДРУЖБА НА ЎСЁ ЖЫЦЦЁ

На фронт першай імперыялістычнай вайны ехаў малады прапаршчык Канстанцін Міцкевіч. Шлях ляжаў па Украіне. Цягнік поўз марудна і спыняўся, як кажуць, амаль ля кожнага слупа. На станцыях, прастойвалі суткі, а то і двое, загнаўшы састаў на запасныя пуці. Прапаршчыку было даволі часу не толькі прайсціся па вуліцах і сцежках незнаёмага горада ці пасёлка, але і прыглядзецца да мясцовага жыцця.

Надзелены тонкай назіральнасцю і душэўнай успрымальнасцю, ён убіраў у сябе ўсе фарбы ўбачанага і пачутага. Любаваўся «снежнай беллю хат», безліччу вішнёвых садоў і сланечнікаў. Асабліва паланіўся хараством пявучай украінскай мовы—на дзіва блізкай і зразумелай яму. Ён не раз чытаў творы Тараса Шаўчэнкі, Івана Франка, Міхайлы Кацюбінскага, Лесі Украінкі. Цяпер пачуў, як гучыць жывое ўкраінскае слова. Пранікся да яго яшчэ большай замілаванасцю і пашанай.

З вайны Канстанцін Міцкевіч (будучы наш народны паэт Якуб Колас) вяртаўся таксама праз Украіну. Ён заўважае, што «ў беларусаў і ўкраінцаў ёсць шмат агульнага як у гістарычным лёсе, так у звычаях, ябрадах і песнях. Мы, — напіша ён пазней, — іншы раз можам спрачацца з украінцамі пра некаторыя нашы песні, адкуль яны — з Украіны ці з Беларусі».

У савецкі перыяд Якуб Колас неаднаразова бываў на Украіне. Ездзіў туды не толькі па літаратурных справах, але і як член розных урадавых дэлегацый. Пазнаёміўся з украінскімі пісьменнікамі і з некаторымі пасябраваў.

У 1926 годзе ў Харкаве Якуб Колас і Янка Купала ўпершыню сустрэліся з Паўлам Тычынам і з таго часу пасябравалі на ўсё жыццё. Яшчэ болей зблізіліся Колас і Тычына ў 1935 годзе ў Парыжы, дзе яны былі савецкімі прадстаўнікамі на Сусветным антыфашысцкім форуме дзеячоў культуры. У часе Вялікай Айчыннай вайны Якуб Колас і Тычына жылі пэўны час у Маскве, часта сустракаліся і, як паведамляе Якуб Колас у сваім дзённіку ад 25 лютага 1944 года, «атрымалі заказ пісаць брашуру з Тычынам супольна».

У той цяжкі час страцілі свае архівы многія пісьменнікі, у тым ліку і Паўло Тычына. Нейкім цудам захаваліся ў яго сям'і тры даваенныя лісты — два ад Коласа і адзін ад Купалы. Удава Тычыны Лідзія Пятроўна падаравала музею Якуба Коласа фотакопіі гэтых лістоў. У лісце ад 9.X.1935 года Якуб Колас паведамляе Тычыне аб тым, што пасылае яму нумар газеты «Звязда», у якім змешчаны яго, Коласаў, артыкул «На Парыжскім бруку». «У пачатку артыкула, — піша Колас далей, — даю эскізныя партрэты нашай дэлегацыі. Ёсць і ваш. Вы не пакрыўдзіцеся за яго? — Напішыце шчыра».

А ў лісце ад 15.X.1936 года Канстанцін Міхайлавіч выказвае шчырую падзяку Паўло Тычыне за яго выступленне па радыё ў дзень трыццацігоддзя літаратурнай дзейнасці Якуба Коласа. «Я сядзеў за сталом, — піша Колас,— разам са сваёй сям'ёю каля прыёмніка і слухаў. Калі вы ў канцы свайго высокапаэтычнага слова сказалі, што я чую вас, я не мог не стрымацца, каб не сказаць: «Чую, дарагі Паўло Рыгоравіч!» Перадайце маю шчырую падзяку ўсім удзельнікам таго радыёвечара, на якім выступалі спевакі і артысты, украінскім паэтам».

Ліст Янкі Купалы напісаны яшчэ раней — 8.V.1930 года. Іван Дамінікавіч пытае Паўло Рыгоравіча пра свой зборнік перакладаў на ўкраінскую мову, бо не мае звестак з выдавецтва і просіць Тычыну «гэту справу пасунуць наперад», а таксама пасадзейнічаць, каб выдавецтва з Харкава прыслала яму хоць частку ганарару. «Грошы, — піша Купала, — мне пільна патрэбны для паездкі на поўдзень палячыцца». У канцы ліста Купала паведамляе, што «Белдзяржвыдавецтва» вырашыла выдаць на беларускай мове творы Шаўчэнкі і што яму даручана частка перакладаў і «агульная рэдакцыя».

Лідзія Пятроўна расказала, што Паўло Тычына вельмі балюча перажываў смерць Якуба Коласа ў жніўні 1956 года, што ён часта прыгадваў свайго любага беларускага сябра. У 1959 годзе Тычына напісаў артыкул пра Коласа, які дагэтуль яшчэ не апублікаваны.

лектыў можа быць сапраўдным носьбітам нацыянальнай культуры.

Арыгінальных мастацкіх калектываў, што нядаўна цвілі-красавалі, а сёння вянуць і асыпаюцца, як недагледжаныя кветкі, нямала. Толькі ў Магілёўскім раёне іх сустрэнеш і ў Харошках, і ў Княжыцах, і ў саўгасе «Махава», дзе яшчэ нядаўна быў добры вакальны ансамбль даярак. І гэта — ля самага Магілёва, дзе хапае розных спецыялістаў-метадыстаў.

Харошкаўскія жанчыны не маюць ужо ахвоты выступаць з-за той непавагі да іх, выканаўцаў, да іхняга мастацтва з боку арганізатараў абласнога агляду мастацкай самадзейнасці. Але ў іх хоць ёсць Іван Талкачоў. Пакрыўджаны, зняважаны (а яму ж у ногі пакланіцца варта за яго руплівую працу!), Талкачоў, нам здаецца, знойдзе ў сабе сілы стаць над гэтай крыўдай, будзе працягваць сваю святую справу — збіранне, адраджэнне народнай творчасці. Бо зрэшты, не для парадаў-аглядаў гэта трэба. А як быць у Княжыцах? Там няма арганізатара. У перадюбілейныя дні сюды наязджалі прадстаўнікі раённага аддзела культуры, каб «выцягнуць калектыў» на агляд. Але «наламаць» калектыў спяваць па-новаму за асобныя перадсвяточныя наезды не маглі.

Перада мной пісьмо ад Барыса Раманавіча Карагодава з Крычава. Шэсць старонак крыўды, болю, расчараванняў, якія прыйшлі да чалавека пасля выступлечня на абласным аглядзе. Апісвае, як самадзейныя калектывы Крычаўшчыны выступалі ў Магілёве, які поспех выпаў на долю некаторых, гэта прызнала і журы, прапанаваўшы рыхтавацца ў Мінск на рэспубліканскі агляд, як людзі ўжо і касцюмы для такой нагоды пашылі новыя, настроіліся. А затым далі ім «адбой», вымусілі ўступіць месца яшчэ для аднаго калектыву з Магілёва. «Там думаюць так, — пісаў Карагодаў, — выступілі — і няма чаго з намі вазіцца. На рэспубліканскі агляд ахвотнікі знойдуцца і ў Магілёве, дзе ёсць прафесіяналы ў музычным вучылішчы, культасветвучылішчы, інстытутах, ёсць калектывы буйных прадпрыемстваў. А для адчэпнага падключаць у праграму некалькі нумароў з васемнаццаці сельскіх раёнаў... Ад такой «увагі» прападае ахвота хадзіць на спеўкі, чахне культасветработа».

Аўтару пісьма хочацца верыць. Бо яго думкі супадаюць з уражаннямі ад канцэртаў магілёўчан у Мінску: заўсёды вельмі мала сапраўды народнага, беларускага і многа падробак пад прафесіянальнае, агульнасаюзнае, шмат пампезнасці, адарванасці ад традыцый народнага мастацтва.

Барысу Раманавічу нельга не верыць, бо гэты стары чалавек яшчэ ў 1918 годзе стварыў у Крычаве першы тут рэвалюцыйны хор, сцягам якога былі «Інтэрнацыянал», «Варшавянка» і «Марсельеза». Пяцьдзесят гадоў пракрочыў ён з песняй па сцэнах, плошчах і вуліцах, з песняй, якая не дасць пакрывіць душою.

...Пад Харошкамі, абапал рачулкі, у прыгожай сакавітай нізовіне звіняць косы, шоргаюць граблі, ракочуць па ўзгорках, сярод буйнога жыта камбайны. І чуваць песню:

Люблю тое жыта жаць,
Дзе большыя каласы,
Люблю таго кавалера,
Што падкручвае вусы.
Люблю тыя травы.
Што бальшыя кветкі,
Люблю таго кавалера,
Што носіць канфеткі...

«Гусарыкі»... Гэта яны. На сцэну не вельмі пускаюць, а тут, пад шоргат грабелек, жывуць сабе, звіняць... Гэта ж і ёсць сапраўдная народная песня, калі яна з чалавекам у працы, жыве з ім памочніцай, весялухай. А то і блазнам.

Нехта не зразумеў яе. Мабыць, той, хто не сенаваў і не жаў пад песню, не чуў яе тут, на сваёй натуральнай, залатой і зялёнай сцэне.

---

Лідзія Пятроўна дазволіла зрабіць з яго выпіскі. Паўло Рыгоравіч піша: «Якуба Коласа, як і Янку Купалу, я шчырым сэрцам палюбіў яшчэ на самым пачатку майго знаёмства з імі. Абодва яны адразу ж блізкімі і роднымі сталі мне — і менавіта чым? Якой рысай свайго душэўнага складу? Тое, што скажу я пра аднаго, характэрным будзе і для другога.

У жыцці сваім Якуб Колас быў просты і звычайны. Ён не любіў наўмыснасці — ні ў падкрэсліванні слоў, ні ў залішняй жэстыкуляцыі. І ў той жа час быў смелы і адважны».

«Я бязмежна рады, — піша далей Тычына, — што давялося мне яшчэ пры жыцці Канстанціна Міхайлавіча рэдагаваць зборнік яго твораў у перакладзе на ўкраінскую мову... Радасна сустракаліся мы з ім на сесіях Вярхоўнага Савета СССР у Маскве, на мітынгах у абарону міру, а таксама пры сустрэчах у Мінску і Кіеве».

Заканчвае артыкул славуты ўкраінскі паэт так: «Моцны духам быў Якуб Колас, — моцны, мудры і прыгожы. Няхай жа наследуюць цяпер усю моц, усю мудрасць і красу яго творчай душы маладыя пісьменнікі ўсіх рэспублік і абласцей нашай неабсяжнай Радзімы. Няхай жывуць і развіваюцца нашы сілы маладыя...».

---

Ірына ПІСЬМЕННАЯ

# ПАЧАЛОСЯ З ПАЛЯВАННЯ...

*ШТРЫХІ ДА ПАРТРЭТА КІНАРЭЖЫСЕРА*

Якім павінен быць рэжысёр: добрым альбо злым, дарадчыкам альбо камандзірам?..

Юрый Лысятаў сцвярджае, што ён павінен быць стойкім.

— Разумееце, нельга адступаць, — гаворыць ён.— Нельга ні на мінутку здраджваць сваёй задуме. Нельга не здымаць тое, што хочаш здымаць, толькі таму, што гэта цяжка і будзе многа клопатаў і некаму не будзе падабацца... Так, так, нельга здраджваць сабе! Вось, напрыклад, паглядзелі фільм некалькі чалавек — спадабалася, самому — таксама быццам нішто. Але нехта сказаў, што не зусім зразумела — маўляў, аб чым, дзеля чаго? Нядрэнна было б тэксцікам «дапамагчы». І тут трэба ўмець быць стойкім. Не ўпартым, не — гэта зусім іншае... Іменна стойкім!

Сябе Юрый Васільевіч Лысятаў адносіць да разраду нястойкіх. Не ведаю, можа і справядліва.

Але калі падзяляць рэжысёраў не па яго прынцыпе — стойкі альбо нястойкі, а па другім — мастак ён альбо рамеснік, дык Юрый Лысятаў, бясспрэчна, належыць да першых.

Дастаткова паглядзець апошнія лысятаўскія фільмы. Іх можна так называць, таму што іх не зблытаеш з карцінамі іншых рэжысёраў. Гэта дакументальныя стужкі, якія Юрый Васільевіч зняў за апошнія два гады. А да іх былі вучэбныя, была і так званая «заказуха», і рэкламныя ролікі. Але іменна на іх рэжысёр вучыўся назіраць, углядацца ў дэталі, якія, можа, на першы погляд маглі б здацца нязначнымі.

У карцінах Лысятава заўсёды прысутнічае ён сам. Са сваім мастакоўскім жаданнем зрабіць свет лепшым, больш прыгожым, са сваімі трывогамі, надзеямі. Яго фільмы прасякнуты любоўю да чалавека, клопатамі аб ім, жаданнем, каб яму лепш жылося на нашым маленькім шарыку. І рэжысёр углядаецца ў сваіх герояў, імкнецца выявіць асаблівасці характараў і знайсці найбольш выразныя сродкі іх перадачы на экране. У выніку яму ўдаецца ствараць вобразы значныя, глыбокія, паэтычныя.

Убачыў Юрый Васільевіч на Палессі малую чыгунку ў лесе — убачыў, здзівіўся як мастак і зняў фільм «Лясная дарога». І не проста зняў, а з любоўю расказаў пра лесарубаў, якія там жывуць і працуюць, убачыў у цяжкай іх працы такія шчаслівыя хвіліны, якія робяць гэту працу радаснай. Разам з аператарам Р. Масальскім зняў кадры, якія пераконваюць, што маленькая дарога недзе на Палессі не проста «працоўны ўчастак», а частка вялікай дарогі.

«Кукушка» цягне па вузкакалейцы платформы, гружаныя лесам. А побач, насустрач ёй імчыцца вялікі і імклівы сучасны цеплавоз. Ён бяжыць па рэйках без напружання, лёгка, і гэтак жа лёгка бягуць за ім платформы, на якіх трактары, машыны, камбайны. Толькі на імгненне сустракаюцца цеплавоз і «кукушка» — і зноў разбягаюцца. Але каб іх шляхі сыходзіліся, кожны павінен рабіць сваю справу. І зусім выразна ўзнікае думка аб важнасці кожнай справы, што любая праца — неабходная частка той вялікай работы, якую заклікаены выконваць чалавек.

Дакументальнае кіно — «сумленне кінамастацтва», як заўважыў аднойчы выдатны кінарэжысёр Йорыс Івенс, а не элементарная кінаінфармацыя альбо іграві эцюд. Той, хто здымае сапраўды дакументальныя фільмы, умее знаходзіць герояў усюды.

Дэталь — вось што, бадай, самае яркае ў карцінах Юрыя Лысятава. Праз дэталі да абагульнення, да тлумачэння і раскрыцця факту. Дэталь у кадры. Кадр за кадрам — і нам удаецца прасякнуць у аўтарскую задуму і ва ўнутраны свет паказаных людзей. Разам з героямі фільма мы любуемся роднай прыродай, чуем, як гудуць пчолы, зазіраем у птушыныя гнёзды, са здзіўленнем заўважаем, што бярозавы гай, які імчыцца насустрач цягніку, падобны на рэчку, у якой адлюстроўваюцца воблакі.

Незабыўны фінал фільма.

Людзі стаміліся, цяжка прадзіраюцца праз дрыгву. Нарэшце, доўгачаканая цвёрдая глеба — усё тыя ж рэйкі, усё тая ж вузкая каляя. Але лягчэй, натуральна, ісці па рэйках парамі, паклаўшы руку на плячо таварыша. Так яны і ідуць — стройнай калонай, абняўшыся...

У фільме гэтыя — «дэталізаваныя» — кадры набываюць характар сімвалу. Сімвалу дружбы і рабочага братэрства. Глядзіш — і нават дых займае ад тых пачуццяў, што абудзіў у табе экран.

Я не бачыла, як трымае сябе Юрый Лысятаў на здымачнай пляцоўцы, але ведаю, што фільмы свае ён выношвае, абдумвае і робіць доўга. Іншы раз так доўга, што гэта прыводзіць яго да канфліктаў з адміністрацыяй студыі і яго пазбаўляюць пэўнага працэнту пастановачнай узнагароды раней, чым ён паспявае закончыць фільм. У такіх выпадках Юрый Васільевіч ходзіць незадаволены сабой, нервуецца, абяцае, што такое больш не паўторыцца... Але пачынаецца новы фільм, і ўсё паўтараецца. Таму што яшчэ ніхто дакладна не ўстанавіў (і, думаю, не ўстановіць), колькі трэба дзён, каб стварыць сапраўдны твор кінамастацтва.

Перш чым зняць фільм «Ставіцца ў абавязак», ён шмат разоў ездзіў у вёску Антонава, што на Віцебшчыне, жыў там, пераззнаёміўся і пасябраваў ледзь не з усёй вёскай, пазнаў і палюбіў яе людзей. У выніку ў карціну, якую меркавалася рабіць на фільматэчным матэрыяле, не ўвайшоў ні адзін фільматэчны кадр. На экране прадстала сённяшняе жыццё вёскі Антонава. Нарадзіўся ўсхваляваны расказ аб людзях, якія нясуць у сэрцы сваім рэвалюцыйныя традыцыі бацькоў і дзядоў, аб людзях, якія, прайшоўшы праз пекла вайны, праз голад, нягоды і цяжкасці, захавалі шчырасць, душэўную шчодрасць і вернасць сваім ідэалам.

Як заўсёды, калі пішаш пра мастака, музыканта, альбо рэжысёра, хочацца зазірнуць яму ў душу, расказаць, што ж адбываецца з ім у хвіліны, калі ён творыць. І мне цікава было даведацца, як працуе Юрый Васільевіч, ну што для яго, напрыклад, сцэнарый. Дарэчы, гаворка аб тым — патрэбен альбо не патрэбен сцэнарый рэжысёру-дакументалісту, цяпер часта ўзнікае ў размовах кінематаграфістаў і ў перыядычным друку. А што ж думае з гэтай прычыны Юрый Лысятаў?

— Мне сцэнарыст патрэбен. — І справа не толькі ў сцэнарыі, які ў большасці выпадкаў можа напісаць і сам рэжысёр. Я лічу, што калі аўтар падкажа цікавую тэму, дык ён ужо зробіць вялікую справу. Але гэта яшчэ не ўсё. Сцэнарыст — гэта свайго роду лакмусавая паперка. Іншы раз нешта прыдумаеш, носішся з гэтай прыдумкай, і яна табе здаецца амаль геніяльнай. А раніцай раскажаш сцэнарысту і раптам чуеш спакойны, цвярозы «даўбёж». Ёсць, канечне, людзі, якія працуюць інакш. А мне патрэбна, каб побач быў аўтар, здольны паспрачацца, своечасова схапіць і развіць своечасовую думку, а нешта катэгарычна адвергнуць.

У сааўтарстве са сцэнарыстам Барысам Казанавым рэжысёр Лысятаў стварыў свой першы дакументальны фільм «Паляванне са старым сабакам». Мне здаецца, што ўжо ў гэтай карціне праявілася тое рэжысёрскае бачанне Лысятава, якое стала вызначальным у яго наступных работах. Зараз разам з Б. Казанавым яны задумалі новы фільм. Праблемны. Чалавек і прырода. Іх узаемаадносіны, іх узаемасувязь...

Юрый Васільевіч неяк сказаў:

— Мне ўсё роўна, хто забіў лань: браканьер або паляўнічы, у якога ў кішэні ляжыць паляўнічы білет. Забілі лань — і нешта здрыганулася, парушылася гармонія прыроды, у якой усё так дакладна і правільна разлічана.

Новы фільм і павінен быць пра гэта. Толькі гаварыць аўтары хочуць не пра дробныя факты, а паспрабаваць «паставіць праблему на глобус», хоць гэта можа крыху і гучна.

Дарэчы, першая проба сіл у гэтым кірунку ўжо была ў «Паляванні са старым сабакам». Гэта вельмі добры фільм. Мудры фільм. І да таго ж — займальны. З амаль дэтэктыўным сюжэтам. Яго нават можна расказаць.

Калі ласка...

Два чалавекі збіраюцца ў дарогу. Яны прыстрэльваюць зброю, чысцяць яе, адным словам, рыхтуюцца да нечага таямнічага і незразумелага. Яны ўжо ў дарозе: дзве маленькія пастаці перасякаюць велізарнае поле і знікаюць за гарызонтам. Зрываецца і бяжыць наперад сабака. Ён раскідвае лапамі зямлю, гырчыць, брэша, злуе. А паляўнічыя палкамі дапамагаюць выгнаць звера з нары. Нарэшце яны заганяюць яго ў клетку...



Юрый ЛЫСЯТАЎ

Гэта — бабёр. Ён супраціўляецца, грызе жалезныя пруты. І нам яго шкада — папаўся!

Паляўнічыя нясуць клетку з бабром па ўзаранай зямлі, міма трактараў і выкарчаваных дрэў. І, здаецца, для звера ўсё кончана. Але што гэта? Дзверцы клеткі расчыняюцца, і бабёр ныраé ў ваду. Аказваецца, паляўнічыя ратавалі яго. У тых месцах асушаюць балоты, і бабрам пагражае гібель. Ім на дапамогу прыходзіць чалавек.

У гэтай справе добры памочнік — разумны сабака, які многа пабачыў на сваім вяку. У маладосці ён ведаў другое паляванне. Але цяпер ён стары, ды і часы іншыя...

Аб такім паляванні са старым сабакам і расказаў у сваёй кінастужцы Юрый Лысятаў. Але карціна не толькі пра гэта. Яна гучыць і як перасцярога: людзі, будзьце пільныя, беражыце прыроду! І зноў звяртаюць на сябе ўвагу дэталі, вельмі дакладныя і выразныя. Напрыклад, праходзіць трактар і пасля яго вісяць абрыўкі павуціння...

У рэжысёра — немалы жыццёвы вопыт: служба на флоце, работа ў газеце, нялёгкая дарога, якая прывяла яго ў кіно. І яму ёсць што сказаць.

Адначастковая карціна «Паездка ў Кіршы» — крыху сумная і, я сказала б, філасофская — радуе ўменнем рэжысёра «несці» не толькі тэкст, але і падтэкст. Фільм маленькі, а сказана так многа. У ім і аб маладосці, калі здаецца, што жыццё яшчэ наперадзе, а пакуль толькі золак яго, і аб мудрай старасці, якой так многа вядома, і аб вечнай перамозе жыцця.

Шлях Юрыя Лысятава ў дакументальнае кіно пачаўся з «Палявання са старым сабакам». Мне і хочацца пажадаць яму паляўнічага шчасця.

ЗДЫМАЮЦЬ *фотааматары*

# ДЗІЦЯЧАЯ СЮІТА

*Прапануем вашай увазе здымкі старшага інжынера з Акадэміі навук БССР Я. Коктыша.*









## ЯК СТАЦЬ СНОБАМ?

Многія амерыканцы недалюбліваюць англічан, таму што яны высакамерныя і высакамерна ставяцца да астатняй часткі чалавецтва.

Англічане не стваралі цывілізацыі ў тым сэнсе, як гэта зрабілі старажытная Грэцыя або Італія эпохі Адраджэння, але яны аказаліся піянерамі ў сцвярджэнні сучаснай заходнееўрапейскай цывілізацыі. Яны нясуць яе флаг, як сапраўдны джэнтльмен нясе свой парасон.

Падобна ўзорнаму джэнтльмену, яны не размахваюць гэтым парасонікам і не рэкламуюць яго варгасці. Яны проста раскрываюць яго ў дождж, нясуць далей спакойна, прыкрываючы ў першую чаргу сябе і ўсіх іншых, хто аказаўся пад ім. Яны насміхаюцца з тых, хто мітусіцца босым па лужах, і захоўваюць ганарлівае маўчанне. Гэты парасонік не выклікаў бы такой агіды, калі б ён не быў такі чорны. А чаму б ім не расфарбаваць яго чырвона-блакітнымі кругамі і голымі жанчынамі?

Амерыканцам пачуццё высакамернасці незнаёма.

Джордж МІКЕШ

# ЯК СКРАБСЦІ НЕБА

Ніхто ні на каго не глядзіць з пагардай. Усе мужчыны і жанчыны раўнапраўныя перад законам, але за некаторымі выключэннямі.

У Амерыцы ёсць нямала людзей англа-саксонскага паходжання, якія глядзяць звысоку на ўсіх астатніх членаў грамадства. Іх продкі прыехалі сюды на караблі «Мэй флауэр» у 1621 годзе. Адзін з гэтых нашчадкаў з «Мэй флауэра» аднойчы пахваліўся эмігранту аб сваіх старажытных карэннях у Амерыцы. Эмігрант запярэчыў яму, сказаўшы: «Я прыбыў сюды, калі тут ужо існаваў закон, які абмяжоўваў эміграцыю». Другі «сапраўдны амерыканец» запярэчыў:

— Мае продкі прыехалі на «Мэй флауэр».

На што яму гэты суайчыннік адказаў:

— А мой продак быў членам камісіі па прыёме эмігрантаў. (Ён быў індзейцам).

Паводле расказаў гэтых самахвалаў атрымліваецца, што «Мэй флауэр» уяўляў сабой велізарны карабель водазмяшчэннем у 85 тысяч тон, які рабіў рэгулярныя рэйсы паміж Саутгэмптанам у Англіі і Плімутам у Амерыцы.

Толькі так столькі людзей магло перапраўіцца ў Паўночную Амерыку на гэтым легендарным караблі.

Вось яшчэ некалькі выключэнняў: усе белыя глядзяць з пагардай на каляровых.

Усе каляровыя глядзяць з пагардай на неграў.

Усе негры глядзяць з пагардай на каляровых; усе асобы скандынаўскага паходжання глядзяць з пагардай на немцаў; усе немцы глядзяць з пагардай на эмігрантаў з цэнтральнай Еўропы; усе асобы з цэнтральнай Еўропы глядзяць з пагардай на італьянцаў, іспанцаў, армян і персаў; усе італьянцы глядзяць з пагардай на ірландцаў і людзей з цэнтральнай Еўропы; усе яны разам глядзяць з пагардай на яўрэяў; усе яўрэі глядзяць з пагардай на ўсіх іншых.

Усе амерыканцы глядзяць з пагардай на нью-йоркцаў;

усе нью-йоркцы глядзяць з пагардай на жыхароў сярэдняга Захаду і дзікага Захаду;

усе жыхары Поўначы глядзяць з пагардай на жыхароў поўдня;

усе жыхары поўдня глядзяць з пагардай на «янкі».

Усе эмігранты, якія прыехалі ў краіну да 1933 года, глядзяць з пагардай на эмігрантаў, што прыехалі ў краіну пасля 1933 года. Апошнія глядзяць з пагардай на ўсіх тых, хто прыехаў у краіну пасля іх, і калі эмігранты прыехалі ў Амерыку тым жа караблём, то тыя, хто першыя сышлі, глядзяць з пагардай на тых, хто затрымаўся з багажом у таможні.

Усе тыя, хто атрымаў права грамадзянства, глядзяць з пагардай на тых, каму выдалі часовае пасведчанне асобы.

Тыя, хто маюць часовае пасведчанне асобы, глядзяць з пагардай на тых, хто пранік на тэрыторыю штатаў па турысцкай візе.

Лёгка заўважыць, што больш за ўсё пагарджаюць неграмі.

## НЬЮ-ЙОРКСКІЯ ЎРАЖАННІ

Нью-Йорк — другі па велічыні горад свету, хоць ён і правінцыяльны горад, таму што ён не з'яўляецца ні сталіцай Штатаў, ні нават сталіцай штата Нью-Йорк.

У вачах прыезджых Нью-Йорк — сапраўдны амерыканскі горад.

Розныя пісьменнікі спрабавалі даць вызначэнне нацыі на аснове расавых, гістарычных і эканамічных прыкмет, аднак ім гэта не ўдавалася, таму што Злучаныя Штаты і Швейцарыя абвяргаюць гэтыя вызначэнні. Я мяркую, што нацыя складаецца з людзей, якія чытаюць адны і тыя ж газеты, слухаюць аднолькавыя радыёперадачы, іграюць у адны і тыя ж гульні і аднолькава трымаюць нож і відэлец. У гэтым сэнсе Нью-Йорк — стопрацэнтны амерыканскі горад.

Тым не менш у Нью-Йорку жыве больш англічан, чым у Брайтане або ў Біркінхэдзе, амаль столькі ж ірландцаў, колькі ў Дубліне, больш немцаў, чым у Кёльне, больш палякаў, чым у Кракаве, больш аўстрыйцаў, чым у Зальцбургу, столькі ж венграў, колькі ў Сегедзе, больш італьянцаў, чым у Неапалі, больш неграў, чым у Паўднёва-Заходняй Афрыцы, і ў пяць разоў больш яўрэяў, чым у Палесціне.

На наступны дзень пасля майго прыезду ў Нью-Йорк я адправіўся на прагулку ў кітайскую частку горада. Там я зайшоў у невялікі магазін, дзе ўбачыў малочніка, які гаварыў з кітаянкай, гаспадыняй крамы.

Малочнік з уласцівай амерыканцам фамільярнасцю пачаў прама з месца:

— Ты яўрэй?.. Вельмі падобны.

Потым ён агледзеў мяне з галавы да пят і заявіў:

— Не, ты не яўрэй. Хутчэй за ўсё ты эмігрант.

— Дзякуй, — кіўнуў я яму з удзячнасцю.

— Ты апрануты як эмігрант.

— Канечне.

На мне быў мой лепшы англійскі касцюм.

— Я не збіраўся цябе пакрыўдзіць.

— Што вы, я зусім не пакрыўдзіўся.

— Справа ў тым, што я сам яўрэй.

— Няўжо? — здзівіўся я.

— Канечне, — сказаў малочнік.

Я хацеў звярнуцца за тлумачэннямі да гаспадыні крамы, але перш чым я адкрыў рот, малочнік запытаўся:

— А ўсё ж, хто ты?

— Я — польскі негр.

— Але ты ж белы!

— Так, але не такі белы, як вам здаецца.

— Не, не... Ты зусім белы.

— Хіба вы не ведалі? — запытаўся я ў яго. — У Еўропе ўсе негры белыя.

Ён мне не паверыў.

— Хлусіш... Калі ты прыехаў?

— Учора.

— Толькі ўчора?! Але ты вельмі добра гаворыш па-англійску.

— Я жыў у Лондане.

— У Лондане?! Хіба там таксама гавораць па-англійску?

— Так. Нешта накшталт англійскага, — рашуча сказаў я яму, і размова на гэтым закончылася.

Усе гэтыя нацыянальнасці жывуць у розных раёнах горада. Частка з іх стала грамадзянамі ЗША, другая частка спадзяецца атрымаць гэты статус. Выключэнне складаюць індзейцы, якіх налічваецца 333 тысячы. Іх тут чамусьці лічаць турыстамі.

## ЯК ТРАЦІЦЬ ГРОШЫ

Англічане лічаць амерыканскую грашовую сістэму ні к чорту не годнай. Бо ў англічан гэта сістэма вельмі простая: дванаццаць пенсаў складаюць шылінг, дваццаць шылінгаў—фунт, два шылінгі і шэсць пенсаў — паўкроны, хоць кроны зусім не існуе, а два шылінгі — гэта ўжо фларын, але тэрмін гэты ніколі не ўжываецца. Англійскую грашовую сістэму вы можаце растлумачыць іншаземцу за пяць хвілін, і калі ён надзвычай кемлівы і пражыў у Англіі не менш як два гады, то будзе ведаць, колькі яму належыць рэшты з паўкроны, калі ён заплаціў шылінг і восем пенсаў.

Долар жа — гэта сотня цэнтаў, і ў гэтым уся бяда. Я аднойчы спрабаваў растлумачыць аднаму амерыканскаму дзялку, што перавага англійскай грашовай сістэмы ў тым, што фунт можна падзяліць на тры роўныя часткі: тры разы па шэсць плюс восем—вось вам і фунт. Ён згадзіўся са мной, што гэта вельмі дасціпна, але наадрэз адмовіўся падзяліць долар на тры роўныя часткі. Калі яму даводзілася мець справу з англійскай фірмай, працягваў ён, скажам, з дзесяціпрацэнтным прыбыткам ад 35 фунтаў 17 шылінгаў і 10 пенсаў, ён не мог абысціся без цёртага бухгалтара, каб устанавіць суму прыбытку.

У мяне часта пытаюцца: дзе даражэй жыццё — у Нью-Йорку ці ў Лондане? Зразумела, у Нью-Йорку. Гэта самы дарагі горад у свеце. І справа не толькі ў высокіх цэнах: цяжка ўстаяць перад спакусай купіць што-небудзь, а то і ўсё адразу, нават калі ў кішэні ў вас усяго толькі ламаны цэнт.

Калі ў вас выключна моцны характар і вы пройдзеце міма алоўка, падобнага на ножку міс Беці Грэйбл, то тут жа напаткаеце другі—з тэлескопам на канцы. Калі ж вы ўхіліліся ад пакупкі трубы з фатаграфіяй містэра Леапольда Стакоўскага, то ў наступным магазіне вы напэўна ўжо станеце гаспадаром другой трубы, якая, калі ў яе дуць, скажа вам: «Салямі!» (Знамянальна, наколькі прыгажэйшымі здаюцца ўсе гэтыя цуды ў магазіне, чым дома).

Аднойчы я купіў некалькі пінжакоў і паўтузіна шарыкавых ручак і на гэтым вырашыў паставіць кропку, таму што грошай было вельмі мала. На наступны дзень я ўбачыў у вітрыне мноства рознакаляровых ручак (па 80 цэнтаў за штуку), замацаваных на чырвона-блакітным колцы. Калі б не гэта колца, я прайшоў бы міма, але калі ўжо так здарылася, мне давялося набыць яшчэ пару ручак. Да адной з іх быў прымацаваны ярлычок, які запэўніваў мяне, што яна не цячэ на вышыні 15 000 футаў і што ёю можна пісаць нават пад вадой. А таму, што пад вадой пішу я часта, дык гэта было прыемным сюрпрызам. Я паклаў ручку ў кішэню пінжака і тут жа яна пацякла. Але таму, што гэта адбылося не пад вадой і ўсяго толькі ў дзесяці футах над узроўнем мора, уладальнік магазіна адхіліў усе мае прэтэнзіі.

## ЯК ПАМІРАЦЬ

Пахаванне ў Штатах — найвялікшая забава. І перш за ўсё для магільшчыкаў, якія нядрэнна нажываюцца на гэтым. Памёршы таксама не абдзелены: ён становіцца прадметам усеагульнай увагі.

*Заканчэнне. Пачатак у мінулым нумары.*

Амерыканскія газеты поўныя аб'яў аб пахаваннях:

«Пахавальнае абслугоўванне, аб якім вы ніколі не забудзеце!»

Або:

«Пахавальнае абслугоўванне, якое прынясе вам неапісальнае задавальненне».

Або:

«Дастойнае пахаванне».

Або:

«Камфартабельнае пахаванне».

Або:

«Пахаванне, якое прынясе шчасце вашай сям'і».

Або:

«Незабыўнае пахаванне ўсяго толькі за 150 долараў. Тое ж з экзатычнымі раслінамі за 200 долараў. Тое ж з дзвюма пальмамі за 215 долараў».

Або:

«Пахаванне са скрытым неонавым асвятленнем з палаца Людовіка XIV».

Або:

«Спяшайцеся да нас! Закапаем як след».

І ўявіце сабе, жадаючых процьма. Людзі абмяркоўваюць уласнае пахаванне з нейкім смакам, выбіраюць сабе труны (папярэдне зняўшы з сябе мерку), упрыгожанні для іх, пальмы, наводзяць даведкі адносна бальзаміравання. За ўсё гэта яны плацяць у растэрміноўку і з нецярпеннем чакаюць гэтага вялікага дня.

Не хочацца ўнікаць у дэталі гэтай змрочнай, але працвітаючай індустрыі, хоць у гэтай забаўнай прафесіі магільшчыкаў ёсць нейкае хараство. Яны адзіныя на свеце бізнесмены, якія глядзяць на кожнага, як на перспектыўнага кліента. На старых яны паглядваюць з дакорам, хоць, праўда, пры гэтым нельга не заўважыць у іх вачах надзеі: экзатычныя расліны і дзве пальмы яны сабе закажуць.

Заўважце, што мыццё посуду не адзіны занятак, за які чалавек можа ўзяцца без вопыту і пэўнага ведання ў выпадку яўнага банкруцтва. Вы заўсёды можаце стаць прафесіянальным плакальшчыкам. Магільшчык будзе плаціць вам 25 працэнтаў. Вось яго расцэнкі:

Вы стаіце ля труны з паніклай галавой — пяць долараў!

Тое ж і часамі слёзы — дзесяць долараў!

Тое ж, з плачам, крыкамі і рыданнем — дваццаць пяць долараў!

За семдзесят вы абавязаны кінуцца ў магілу ўслед за трунай.

Праўда, у апошні час заказы на такія паслугі не ў модзе. Вельмі ўжо высокія цэны!

## «ТОЛЬКІ ДЛЯ БЕЛЫХ»

Дэмакратыя ў Амерыцы — рэальнасць. Яна як прыгожая бяззубая жанчына з доўгім, крывым носам. Гэта дэмакратыя з вузельчыкам. Негры — чорная пляма Амерыкі.

Амерыканцы настолькі заняты абаронай правоў індусаў у Пакістане, мусульман у Індыі, яўрэяў у Палестыне, карэйцаў у Японіі і італьянцаў у Югаславіі, што ім проста няма калі падумаць аб неграх у Злучаных Штатах.

Відаць, белыя жыхары поўдня — лепшыя эксперты па негрыцянскіх пытаннях і ім не цяжка растлумачыць, чаму злачынствы неграў жахлівыя і пакаральныя.

1. Перш за ўсё, негр чорны. І гэта яго самае сур'ёзнае злачынства. Многія ў паўднёвых штатах мяркуюць, што неграў можна было б цярпець, калі б яны не былі чорнымі. Размаўляючы па гэтым пытанні з белымі жыхарамі поўдня, мне даводзілася чуць:

— Вы што, не бачыце? Яны ж чорныя!

Павінен згадзіцца, што ў гэтым ёсць доля праўды: негры сапраўды чорныя і гэтага нельга адмаўляць.

2. Яны непісьменныя або, па крайняй меры, неадукаваныя. Што датычыць другога папроку, то, на мой погляд, ён трошкі старамодны, і яго трэба замяніць. Ужо вельмі старажытны рэцэпт, згодна якому людзей не пускаюць у школу або трымаюць у такой галечы, што ім не да школы, і тут жа абвінавачваюць у неадукаванасці.

3. Яны поўныя расавых забабонаў. Многія з іх задаволены сваім больш нізкім становішчам у грамадстве і не любяць неграў з паўночных штатаў, якія гавораць аб адмене рабства. Я б нават сказаў, што некаторым з іх падабаецца, калі іх лінчуюць. Не ўсім, канечне, і не пастаянна, але жадаючыя заўсёды знаходзяцца. І лінчуюць іх разы два ў год, у разгар сезона.

4. «Яны не ведаюць свайго месца»... Мне аднойчы гаварылі белыя расісты, што нічога не маюць супраць тых неграў, якія ведаюць «сваё месца», яны толькі супраць «выскачак». Адным словам, іх можна цярпець, пакуль яны застаюцца слугамі, швейцарамі, афіцыянтамі, прыбіральшчыкамі, чысцільшчыкамі абутку і чарнарабочымі. Усе беды пачынаюцца тады, калі яны загавораць аб свабодзе, роўнасці і іншых абураючых рэчах падобнага роду, і перастаюць паважаць белых дабрачынцаў.

5. Іх бацькі былі рабамі. Заўважце, гэта ганьба для неграў, а не для іх белых гаспадароў.

6. У іх злачынныя звычкі. Сапраўды, у Амерыцы здзяйсняецца многа жахлівых злачынстваў, напрыклад, суды Лінча, да якіх так або інакш маюць адносіны негры.

У час вайны неграў заклікалі служыць ва ўзброеных сілах Злучаных Штатаў. Аднак і там захоўвалася паўнейшая сегрэгацыя. Негры служылі ў асобных падраздзяленнях, жылі ў асобных казармах. Але гэта дробязі. Выключэннем з правіл аб сегрэгацыі было тое, што на нямецкіх і японскіх кулях не было напісана: «Толькі для белых».

У паўднёвых штатах сегрэгацыя заснавана на наступным прынцыпе: падзяляй, але на роўных. Напрыклад, у аўтобусах пярэднія месцы адведзены для белых. Гэта правільна, але, з другога боку, заднія месцы застаюцца за неграмі. (І паспрабуйце толькі сесці з неграмі! Вадзіцель аўтобуса адмовіцца ехаць далей). У кожным поездзе ёсць Джым Кроу Карз— вагоны для неграў, якія прычапляюцца адразу ж за паравозам. Астатнія ж вагоны для белых пасажыраў. І калі негры будуць тоўпіцца ў тамбуры або на падножках, у той час як на аднаго белага пасажыра даводзіцца сем месц, гэта не што іншае, як нешанцаванне, але ніхто не пасмее парушыць гэты парадак. Праўда, што неграў не пускаюць у рэстараны, гасцініцы, кіно і тэатры, бальніцы і іншыя грамадскія ўстановы. Але, з другога боку, белыя таксама не наведваюць негрыцянскіх устаноў. Неграў нават не пускаюць у многія магазіны, і нават калі белы гаспадар робіць ласку, каб выкачаць у іх грошы, ён не дазваляе ім прымяраць капелюшы, касцюмы, пальчаткі. Неграм нельга карыстацца вагон-рэстаранам або спальным вагонам, але за імі захоўваецца поўнае права і не карыстацца апошнімі.

## ЯК РАБІЦЬ ПАКУПКІ

Рабіць пакупкі—таксама мастацтва, і вы павінны дакладна ўсведаміць сабе, дзе можна што купіць. Калі вы галодныя, ідзіце ў аптэку. Гэта нацыянальная ўстанова нядрэнна ўладкавана. У вялікіх аптэках вы зможаце дастаць нават лякарства, але асноўны іх бізнес—у продажу канцпрылад, цукерак, цацак, падцяжак, паясоў, аўтаручак, мэблі і фальшывых ювелірных вырабаў. У кожнай аптэцы ёсць стойка з высокімі сядзеннямі, дзе можна заказаць сокі, кофе, марожанае, сэндвічы, амлеты і іншыя стравы з яек. Мой сябар неяк сустрэў у Галівудзе Отта Габсбурга, прэтэндэнта на Аўстра-Венгерскі трон, які, апрача свайго хобі называць сябе каралём, яшчэ і абаяльны, нядрэнна выхаваны малады чалавек. Сябар мой рашыў зрабіць візіт Отта ў гасцініцы, дзе той часова жыў.І што вы думаеце? Яго прыняў ад'ютант і цырымонна аб'явіў: «Яго вялікасць зараз снедае ў аптэцы».

Калі вам патрэбны цыгарэты, ідзіце да бакалейшчыка; калі хочаце пачысціць чаравікі, ідзіце ў цырульню; калі жадаеце купіць радыёпрыёмнік, ідзіце ў магазін мужчынскіх тавараў; калі ж вам патрэбен чамадан, ідзіце ў аптэку. З другога боку, калі вы ўздумаеце паслаць тэлеграму, ні ў якім выпадку не ідзіце на пошту, таму што гэтым займаюцца прыватныя кампаніі. Пошта не мае ніякіх адносін і да тэлефона. Тэлефонная сувязь забяспечваецца амерыканскай тэлефонна-тэлеграфнай кампаніяй.

Што б вы ні купілі, пазней можна абмяняць на што хочаш, у гэтым жа магазіне. Гэта найвялікшая забава амерыканцаў. Большасць з іх купляюць не рэчы. Яны толькі набываюць такую-сякую сыравіну для наступнага абмену. Няма нічога дзіўнага, калі вы ўбачыце, што пажылая лэдзі вяртае ў магазін капялюш з рознымі фруктамі на ім і ўзамен просіць або пару кілаграмаў фруктаў, або капялюш. Не здзіўляйцеся таксама, калі ўбачыце каго-небудзь у магазіне з дастаўленым назад халадзільнікам. Нічога асаблівага, адбылася маленькая памылка: ён хацеў падпісацца на часопіс «Рыдэрс Джайджэст».

## НА ДАРОГАХ

У кожным амерыканскім штаце ёсць свае правілы вулічнага руху і шафёрам ад гэтага ніколькі не лягчэй. У Алабаме вам трэба звяртацца за новымі правамі 1-га кастрычніка, у Агайі—1-га сакавіка, у Нью-Йорку—1-га студзеня і ў Каліфорніі—2-га студзеня. У Луізіяне можна вадзіць машыну з чатырнаццаці гадоў, у Вермонце—з васемнаццаці. Навучанне вадзіць машыну ўсюды зусім рознае, а ў трох штатах наогул не патрэбна праў вадзіцеля. Але гэта толькі кветачкі. Сапраўдныя непрыемнасці падпільноўваюць вас на дарогах «чужога» штата, дзе вам, напрыклад, неабходна зрабіць разварот. На некаторых вуліцах вы павінны рабіць толькі павароты. І вось, нарэшце, у суботні поўдзень вы ў турме, дзе вас трымаюць да панядзелка па той простай прычыне, што шэрыф укаціў на уік-энд або вельмі заняты. У панядзелак раніцай, як правіла, перад вамі выбар: або плаціць адзін, дваццаць, пяцьдзесят або сто долараў штрафа, або чакаць рашэння больш высокай інстанцыі, прычым адзіная непрыемнасць будзе заключацца ў тым, што чакаць давядзецца ў турме. Адзін мой сябар махнуў у Атланту, што ў штаце Джорджыя, каб купіць жонцы некалькі парашкоў аспірыну. Гэта было ў суботу ў 15 гадзін 14 мінут дня. Дамоў ён вярнуўся ў панядзелак ў 11 гадзін 17 мінут раніцы без аспірыну, таму што ўсадзіў усе грошы на дарагі, але не вельмі забаўны разварот.

## ЯК ЧЫТАЦЬ ГАЗЕТЫ

Я заўсёды адчуваў сябе злёгку зняважаным, калі купляў у Амерыцы газеты. За тры або чатыры цэнты мне падсоўвалі аб'ёмісты том, у якім было не менш васьмідзесяці старонак, і ў мяне не было ніякай надзеі прачытаць яго, хіба што загалоўкі і некалькі абзацаў наўгад. Як бы вы сябе адчулі, калі б у рэстаране вам прапанавалі замест ростбіфа цэлыя тры быкі з паўтонай айдахскай бульбы на гарнір або замест сасіскі шэсць дужых афіцыянтаў прыцягнулі б вам даўжэзны кавалак мяса таўшчынёй з тэлеграфны слуп і паклалі побач з гэтай стравай старажытны ятаган і вілы? Кожны раз, калі я браў у рукі ранішнюю газету, мне станавілася не па сабе. Чытаў у найвялікшай паспешлівасці, у паніцы, таму што вячэрнія газеты выходзяць рана, і калі прапусціш дарагі час, дык ніколі яго не нагоніш. Адзін мой сябар з Таіці, аднойчы заўважыў:

— Праз месяц я зноў буду на Таіці. У нас там, ці бачыш, штодзённая газетка выходзіць на дзвюх паласах. Яна дае самыя асноўныя сусветныя падзеі ў двух-трох радках. Няма бейсболу, сенсацый, боксу, справаздач аб забойствах і г. д. Толькі навіны з характэрнай для іх сумнаватай мовай. Прыеду на Таіці і тады ўжо зноў, напэўна, буду ведаць, што адбываецца ў Нью-Йорку...

Наколькі я зразумеў, у Амерыцы не любяць чытаць аб палітыцы. Жанчыны чытаюць толькі аб'явы; школьнікі захапляюцца коміксамі, якія, па не зусім зразумелых прычынах, яшчэ называюцца «забаўнымі карцінкамі». Салідна адзетыя людзі чытаюць спартыўныя навіны. тыя ж, хто ходзіць у лахманах, цікавяцца толькі біржавымі справаздачамі. (А то і наадварот: тыя, хто цікавіцца толькі біржавымі справаздачамі, заўсёды ходзяць у лахманах).

## СЦЕРАЖЫСЯ МЕТРО!

Амерыканцы дынамічныя, і дынамічны беспарадак яны любяць лепш чым статычны. У Нью-Йорку не цяжка вызначыць, дзе вы знаходзіцеся. Але там пабудавана такая заблытаная сістэма падземных дарог, што чорт ногі паломіць. Можа здацца, што яны пабудаваны з адзінай мэтай: зрабіць усё, каб вы ніколі не дабраліся да месца прызначэння.

Ездзіць на аўтамабілі параўнаўча лёгка, але ў Нью-Йорку ніхто не ездзіць на сваім аўтамабілі, таму што на аўтамабілі тут ездзіць столькі людзей, што наўрад ці вы куды даберацеся. Ужо лепш аўтобусам.

На Пенсільванія Стэйшн я звычайна садзіўся на «чацвёрку» і ехаў да Пятай авеню. Але аднойчы я ўбачыў «чацвёрку» на Лексінгтон авеню і сеў на яе, але замест Пятай авеню я апынуўся недзе на Сярэднім Захадзе. Калі я расказаў вадзіцелю аб здарэнні, той зарагатаў і сказаў, што мне трэба было сесці на «чацвёрку» з Пятай, а не на «чацвёрку» з Лексінгтон авеню. Пазней я даведаўся, што ў горадзе многа чацвёртых аўтобусных маршрутаў, і гэта спрытная палітыка дае магчымасць сэканоміць штогод некалькі лічбаў. А ў канцы года гэтыя лічбы кругленькай сумай перадаюцца дабрачынным установам.

На наступны дзень я вырашыў паспрабаваць сваё шчасце ў метро (у Амерыцы яно называецца «сабуэй»). На Пенсільванія Стэйшн я сеў на поезд, на якім быў указаны маршрут: 49-я стрыт. Якраз тое, што мне трэба было. Я стаў чытаць газету і не заўважыў, як на наступным прыпынку, 42-й стрыт, усе пасажыры выйшлі з вагонаў, пакінуўшы мяне аднаго. Поезд крануўся, але тут жа спыніўся ў тунэлі. І пачаў тузацца то ўзад. то ўперад. Так працягвалася мінут сорак. Разы чатыры ў вагон заглядаў кандуктар. Ён не мог не заўважыць маёй меланхалічнай адзіноты, але нічога не сказаў. І калі ён з'явіўся зноў, я не вытрымаў:

— Калі, нарэшце, мы будзем на 49-й стрыт?

Ён засмяяўся.

— На 49-й, кажаце? Але мы туды і не едзем. Навошта нам 49-я стрыт?

— Прабачце, сэр, я ніколі і не прапанаваў вам туды ехаць. Я ўбачыў таблічку на гэтым поездзе і на ёй чорным па белым напісана: поезд ідзе да 49-й стрыт, што і наштурхнула мяне на дзівацкую думку, што поезд сапраўды мог пайсці на 49-ю стрыт. Прызнаюся, у гэтым я сам вінаваты.

Ён абурыўся.

— Кожнаму вядома, што на 42-й трэба рабіць перасадку.

— Я не ведаў гэтага.

— Ах, вы не ведалі?—у голасе яго гучала іронія.— Даўно вы ў Нью-Йорку?

— Два дні.

— Два дні?—крыкнуў ён пераможна.—Тады сапраўды вы не маглі ведаць.

## ЯК ПАВАЖАЦЬ ЗАКОНЫ

У нядаўна выдадзенай Дзікам Гайманам кнізе, якая называецца «Шалёныя законы», сабраны рад законаў, якія па сённяшні дзень маюць сілу ў многіх штатах. З некаторымі з іх, дарагі чытач, я і хачу вас пазнаёміць.

*НЕКАТОРЫЯ ЗАКОНЫ ПА ПАДТРЫМАННІ «ПРЫСТОЙНАСЦІ» Ў ГРАМАДСТВЕ*

У штаце Міннесота мужчынская і жаночая бялізна не павінна вісець на адной вяроўцы.

У Элкхарце, штат Індыяна, існуе закон супраць цырульнікаў, якія пагражаюць дзецям адрэзаць вушы.

У Сан-Джозэфе, штат Місуры, пажарнікам забаронена з'яўляцца на вуліцы ў ніжняй бялізне.

У Гэры, штат Індыяна, процізаконна ехаць у трамваі на працягу чатырох гадзін пасля таго, як вы паелі часнаку.

У Монры, штат Юта, лічыцца процізаконным танцаваць з дзяўчынай, калі паміж танцуючымі няма прасвету.

У штаце Індыяна забаронена спакушаць маладую даму ў той час, калі вы вучыце яе катацца на ролікавых каньках.

*У АБАРОНУ ЖЫВЕЛ*

У штаце Мэн процізаконна спальваць мула.

У Балціморы, штат Мэрыленд, катэгарычна забараняецца мучыць вустрыц.

У штаце Кентукі забаронена страляць па гліняных галубах у перыяд іх размнажэння.

У штаце Алабама, калі вы не пражылі тут года, можаце трапіць у турму, калі ў вас знойдуць крэветкі.

У Каліфорніі лічыцца процізаконным расстаўляць мышалоўкі, не маючы паляўнічых праў.

У Сіэтле, штат Вашынгтон, у аўтобусе забаронена правозіць залатых рыбак, пакуль тыя зусім не супакояцца.

У Луісвілі, штат Кентукі, забаронена страляць у рыбу з лука.

У Жолье, штат Ілінойс, жанчына абавязкова трапіць у турму, калі будзе прымяраць больш шасці сукенак у адным магазіне.

*РОЗНАЕ*

У штаце Мічыган процізаконна пляваць супраць ветру.

У штаце Кентукі жанчынам не дазваляецца з'яўляцца на вуліцы ў купальным касцюме, калі яны не ўзброены дубінкамі.

У штаце Арканзас лічыцца грубейшым парушэннем закона няправільны выгавар назвы гэтага штата. (Між іншым. для вашай зручнасці, выгаворваецца ён Аркан-со).

У Махейве, штат Арызона, той, хто ўкраў мыла, павінен мыцца ім да таго часу, пакуль яно не змыліцца.

У Джоўнсбора, штат Джорджыя, процізаконны такі вокліч: «О, бой!».

У Форт-Мэдзісон, штат Айёва, пажарная каманда, перш чым прыступіць да тушэння пажара, павінна патрэніравацца на працягу пятнаццаці мінут.

У штаце Нью-Гэмпшыр, «калі на перакрыжаванні сустрэнуцца два аўтамабілі, яны неадкладна павінны спыніцца, прычым ні адзін з іх не павінен кранацца з месца, пакуль не паедзе другі».

**Пераклалі з англійскай мовы**
**Л. БАРАНОЎСКІ,**
**Д. КОЗІКІС.**

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ

Савось АВОСЬ

# ДЗЕ ПЕГАС ПАСЕЦЦА?

*Рэпартаж з Алімпа спецыяльна для «ЛІМа»*

### У ТВОРЧЫХ СЕКЦЫЯХ

**Творчых секцый у Саюзе,**
**Як стажкоў на счахлым лузе.**
**І чуваць з усіх бакоў**
**Галасы кіраўнікоў:**
**— Год мінае,**
**Трэба, братцы,**
**Нам шчырэй за працу брацца!.**

### СЕКЦЫЯ ПРОЗЫ

**(Заявы, пагрозы)**

*Імкнецца кожны ўперад выдацца*
*І ў серыі рамана выдацца...*

### СЕКЦЫЯ ПАЭЗІІ

**(Усе ў геніі палезлі)**

*Рыфмуюць тут,*
*Што ні кажы,*
*І тыражы і гаражы.*

### СЕКЦЫЯ КРЫТЫКІ

**(Выспяткі, вытаўкі)**

*Кожны крытык*
*Ля ўласных карытак.*

### СЕКЦЫЯ ДРАМАТУРГІІ

**(Засядаюць — пішуць другія)**

*Чакае кожны з драматургаў,*
*Каб хоць аванс ды раскатурхаў.*

### СЕКЦЫЯ ДЗІЦЯЧАЯ

**(Замілаванне цялячае)**

*Лаўраў мала, бо ўсе лаўры*
*У Шушкевіча ды ў Маўра!*

### СЕКЦЫЯ ПЕРАКЛАДУ

**(Не заўсёды ўсё да ладу)**

*Як класіка перакладзеш,—*
*Да касы*
*Класікам ідзеш!*

### У СЕКТАХ

**Ёсць яшчэ ў саюзе секты.**
**Тут прагнозы,**
**Тут пражэкты.**
**Ды не думайце,**
**Сектанты —**
**У саюзе кватаранты!**
**З іх я вам не раю кпіць.**
**Дзейнасць бурная кіпіць!**

### ШАПТУНЫ

**(Па закуцці ўсе яны)**

*Шэпчуцца, хто з кім і дзе,*
*Хто каго куды вядзе...*

### ТРАСУНЫ

**(Трасуцца без віны)**

*Жах і ў паставе і паглядзе —*
*Хаця б успомнілі ў дакладзе!.*

### ПРАРОКІ

**(Лічаць класікаў крокі)**

*Ім карціць адно пытанне:*
*Хто кім будзе,*
*Хто кім стане?..*

### ЕВАНГЕЛІСТЫ

**(Яны заўсёды сцелюць лістам)**

*Евангелле адно для іх —*
*Увесь набор уласных кніг.*

### АДВЯНЦІСТЫ

**(Умеюць адвінціцца)**

*Ад вымовы, ад нагрузкі,*
*Ад кілішка, ад закускі.*

. . . . . . . .

**Калі зашмат і сект і секцый,—**
**Пегас на водшыбе пасецца...**

---




Старшыня рэвізійнай камісіі прыводзіў адну лічбу за другой. Чытаў ён свой даклад спакойна, разважліва, дзелавіта, быццам і не заўважаў таго, што яго толкам ніхто не слухае, што прысутныя толькі чакаюць моманту, калі са сходам нарэшце будзе закончана і пачнецца самае цікавае, дзеля чаго ўсе сабраліся, — банкет.

Таму, калі дакладчык урэшце рэшт закончыў сваё нуднае чытанне, ніхто нават не задаў яму ніводнага пытання. Зразумела, не было жадаючых і выступіць.

— Пераходзім да апошняга пункту парадку дня. Нам трэба абраць новага старшыню савета сельскага кааператыву, — аб'явіў старшыня сходу Паска Трампаджыеў, і ў зале ўсе прыціхлі. — У каго якія прапановы?

Адразу ж падняў руку Міца Каракачанаў.

— Я прапаную старшынёй зноў пераабраць таварыша Плякова, які зарэкамендаваў сябе...

І ў гэты момант нечакана патухла святло.

— Не-е-е! — крыкнуў нехта з цемры. — Гэта ж бяздарны чалавек!

— Да таго ж яшчэ і адпеты зладзюга! — смела дадаў нехта.

— Хутчэй запаліце газавую лямпу! — загаласіў Дз'яка Плякоў.

— Досыць яму старшынстваваць! На чые, спытацца, грошыкі ён пабудаваў новы дом?

— Хопіць абгаворваць!— урэшце не вытрываўшы, крыкнуў з абурэннем Трампаджыеў.

Але ніхто не звярнуў увагі на яго словы. Вострыя, надзвычай трапныя крытычныя стрэлы ляцелі з цемры ў прэзідыум. Наўрад ці хто ведаў, чым закончыцца сход. Магчыма, ён стаў бы катастрофай для кандыдата ў старшыні, калі б раптам не ўспыхнула святло.

— Хто за тое, — спакойна, як быццам нічога не здарылася, працягваў Трампаджыеў, — каб старшынёй кааператыву зноў абраць таварыша Дз'яка Плякова, прашу галасаваць.

Адразу ж у зале вырас лес рук, і Дз'яка Плякоў, якога аднагалосна падтрымалі ўсе кааператары, быў зноў абраны на пасаду старшыні.

Пераклаў з балгарскай
**Л. САМАСЕЙКА.**

---

# ВАКОЛ ВЯЛІКІХ ЛЮДЗЕЙ

**Адзін драматург, у якога быў невялікі талент, але вялікая амбіцыя, аднойчы сказаў прыяцелю:**

**— З таго часу, як я прачытаў Вальтэра, кінуў пісаць трагедыі. Лепей я не напішу, а дрэнна пісаць не хачу. Цяпер я працую над камедыямі!**

**— Значыцца, ты яшчэ не чытаў Мальера! — засмяяўся прыяцель.**

□

**— Ласкавае васпанства, — скуголіў неяк адзін з крэдытораў Талейрана, — Я хацеў бы ведаць, калі вы аддасцё пазычаныя грошы.**

**— Ну і цікаўны ж ты, браце!... — здзівіўся Талейран.**

□

**Аднойчы Леў Мікалаевіч Талстой убачыў, як гарадавы б'е п'янага мужыка.**

**— Ты пісьменны? — спытаў Леў Мікалаевіч у гарадавога.**

**— Пісьменны.**

**— Кодэкс маралі чытаў?**

**— Чытаў.**

**— Дык ты павінен ведаць, што нельга крыўдзіць бліжняга...**

**— А ты ўмееш чытаць? — агледзеўшы сціплую вопратку пісьменніка, спытаў гарадавы.**

**— Умею.**

**— Інструкцыю для гарадавых чытаў?**

**— Не.**

**— Дык пачытай спачатку, а потым пагаворым.**

□

**Аднойчы ў Сумбатава-Южына спыталі:**

**— Чаму вы ніколі не іграеце ў сваіх п'есах?**

**— Разумееце, як акцёр я не бачу ў сваіх п'есах ніводнай прыстойнай ролі. А як аўтар, лічу, што такому акцёру, як я, не месца ў маіх п'есах.**

□

**— Не здзіўляйцеся, калі я пачну гаварыць глупствы, — сказаў аднойчы сваім сябрам Гейнэ. — У мяне толькі што быў кузен і мы абмяняліся з ім думкамі.**

□

**Аднойчы Аляксандр Дзюма захацеў зрабіць экскурсію ў горы Сьера-Невады. Але там у той час было шмат разбойнікаў, і ён папрасіў у алькальда канвой. Той прыслаў двух жандараў вельмі падазронага выгляду. Дзюма прыйшоў да алькальда і папрасіў яго даць яму яшчэ і двух разбойнікаў.**

**— Навошта? — здзівіўся алькальд?**

**— На ўсякі выпадак. Каб абараніцца ад жандараў.**

---

# І ПРЫЙШЛА ПАРА ГРЫБНАЯ...

Мал. Ю. ГРЫГОР'ЕВА.

















---


«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.
Друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856. АТ 21098

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры — 33-21-53, выдавецтва — 32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.